... — Мусіць, я пакіну цябе з Ярынай,— гаворыць мне маці.— Трэба ісці на хутар па старога. Скажуць, што не хоча прызнаваць цябе, Ігнатка.

Яна, відаць, толькі краем вуха чула, як я трапіў у Томчакаву банду. Стары вельмі рэдка дзяліўся з ёю сваімі сакрэтамі. Няхай цяпер сам і тлумачыць ёй.

Я хацеў вывесці маці на дарогу, але Ярына запыніла нас:

— Куды ж вы? Я сама збегаю да вас на хутар...

На яе твары яшчэ не астыла ранейшая ўзбуджанасць.

— Божа, божа, злітуйся над намі, угамані, супакой усіх шаптуноў,— хрысціцца маці.

Ярына тым часам вымкнулася наперад і ледзь не грымнулася ў снег.

— Або...— Яна замахала рукамі і залілася звонкім смехам.

— Паслухай, Ігнат, які ж ты мне пляменнік, калі не хочаш падаць рукі?— Крыху аддыхаўшыся, абсыпала мяне снегам:— Вось я табе! Уцякай, чуеш? Я адна пайду...

Я глядзеў на яе і не верыў сваім вачам. Цётка Ярына нібы памаладзела. Можна было падумаць, што яна і не плакала сягоння. Перада мной стаяла вясёлая, гаваркая жанчына са здаровым румянцам на абветраных шчоках. Толькі глыбока запалыя вочы яшчэ не абсохлі ад слёз.

— Асабліва не гарачыся, калі Пятрусь упрэцца,— гаворыць ёй мая маці.— Скажы, што я не пакрыўджуся, калі ён пакліча нас да сябе. Цяпер, калі вярнуўся Ігнат, мне і на хутары будзе добра...

— Можа, ці захоча Пятрусь слухаць мяне? — пытаецца Ярына.— Усе Лагоды, мілая мая, як з каменя павысяканыя. Адразу да твайго мужыка не падступішся.

— А ты хітрасцю ўбіся ў яго ласку,— раіць маці.— На мяне ён яшчэ сярдуе, а цябе паслухае. Мой Пятрусь уважлівы да сардэчных людзей. Ідзі!

Цётка Ярына пабегла на хутар, а мы вярнуліся па цаліку ў хату.

— Багата вы жывяце,— сказаў я маці, выглядаючы праз акно на вуліцу.— Усе дамы пад чарапіцай і з верандамі. Можа, завод свой ёсць?

— Мелі б і завод, ды гліны ў нас малавата,— сказала яна, прыбіраючы ў хаце.— Затое электрастанцыя на ўвесь раён славіцца. Гады тры пясок і каменне вазілі пад яе, пакуль утаймавалі раку. Унь які вал насыпалі за млынам, што адразу і не ўзлезеш на яго.

Ці адзін вал будзем мы насыпаць? Недзе там, за Нёманам, дыміцца балота, стыне ў шорсткім, сухім трыснягу густая, чорная твань. Толькі яна адна і нагадвае былое ліхалецце. Ледзьве адарваўся я ад акна, прыглядаючыся да новых хат і сваіх, цяжкіх на пад'ём, але дружных і гаспадарлівых аднавяскоўцаў. На вуліцу выходзілі яны з сякерамі і піламі,— пэўна зноў штосьці будуюць. Жанчыны, на хаду падвязваючы фартухі, па адной і чародкамі беглі паўз Ярыніну хату ў сушню церці і трапаць лён. Дзесьці тарахцеў матор.

Сонца яшчэ не паказалася з-за лесу. Ля ўваходу ў праўленне калгаса, перад школай і на грэблі, па якой снуюць грузавікі з торфам, паблісквалі на слупах электрычныя лямпачкі, а вакол ужо ўсё кіпела, гаманіла, жыло.

Можа соты раз гавару сабе: калі людзі зразумеюць мяне і павераць, я ўжо ніколі не пакіну родных мясцін.

## 5

Дзіўна сходзяцца дарогі людзей. Я ўжо расказаў бацьку, хто мяне вёз з Карэліч у Навагрудак. Я яшчэ пабачуся з дзядзькам Базылём.



Трэба спытаць, чаму ён адмовіўся ехаць у Польшчу на вочную стаўку з Бешчатам. Той жа заявіў, што Аўдоля са Стасяй самі прыехалі да яго. А Стася помніць, як Томчак пад канец вайны злавіў іх у лесе і адправіў з праважатым у Польшчу.

Бешчат лютаваў, як звер, калі аднойчы, вярнуўшыся аднекуль дамоў, убачыў ля саней цешчу з малым дзеўчанём на руках. Стася была на валасок ад смерці. Па дарозе яна высахла ад голаду і захварэла. А цётка Аўдоля яшчэ калацілася ад страху... Няўжо Стася яшчэ нічога не гаварыла дзядзьку Базылю? Калі не, дык я сам усё раскажу яму.

Пройдзе яшчэ колькі дзён, і я добра асвойтаюся, прыжывуся ў Зачэпічах. А пакуль што я ўвесь ва ўспамінах.

Чаму ж я, дачуўшыся ад дзядзькі Базыля, што яго ўнучка Стася ў Навагрудку, не астаўся там ды не пабачыўся з ёю? А вось чаму: мне няёмка было паказвацца дзяўчыне на вочы ў сваім паношаным дажджавіку ды яшчэ ў такі люты мароз. І кашуля на мне была не першай свежасці. Для людзей, якія добра ведаюць адзін аднаго, гэта не мае ніякага значэння. І ўсё ж я струсіў. Крадком, як злодзей, хутчэй папёрся дадому.

А дзядзька Базыль, напэўна, незадаволена круціць носам і дзівіцца: «Што гэта за птаху прытарабаніў я ў Навагрудак? Мусіць, недзе з прывязі сарваўся, калі нават не сказаў дзякуй». А можа, ён стаіць перад Стасяй, разгладжвае далоняй сваю густую сівую бараду і ціха пасмейваецца: «Мяне вы не ашукаеце, галубкі! Хлопец гол, як сакол, але ж і я не з гаршком золата на свет нарадзіўся. Калі якая бяда зноў не перашкодзіць, дык хоць заўтра спраўлю вяселле». «Чаго гэта вы, дзеду, гэтак утаропіліся на мяне?» — спытае ў яго Стася. «Так сабе,— адкажа стары.— Яшчэ не скеміў, чаму ты не сказала, што некага чакаеш тут?..»

А хутчэй за ўсё, стары, наогул, забыўся пра мяне. Хіба мала на дарозе розных людзей бадзяецца? Падвёз да горада, высадзіў перад самым уваходам у гасцініцу — і да пабачэння. На яго месцы кожны бывалы калгаснік гэта зрабіў бы.

Не ведаю, як каму, а для мяне ў жыцці не было зацішку. Усё неяк рабілася не так, як трэба. І вось сёння я зноў дыхаю на поўныя грудзі. Няўжо і гэты раз мне не пашанцуе? Зрэшты, час пакажа, як быць і з чаго пачынаць сваё жыццё на радзіме. Галоўнае, каб, як кажуць, не далі ад варот паварот і тут, у калгасе, без якога я — мурашка, чарвяк, і там, дзе спадзяюся знайсці сваю папараць-кветку — знайсці Стасю ў нашым старадаўнім і вечна маладым Навагрудку...

Ціхая, утульная прыстань — Ярыніна хата.

Восенню Ярына ўставіла падвойныя рамы ці, як у нас кажуць, дубэльты: «Калі ёсць за што, дык чаго ж скупіцца?» З дубэльтамі стала крыху цяплей. Цётка падсунула да акон вазоны, чыста прыбрала стол і накрыла яго новым абрусам з доўгімі махрамі. На сценах — вышытыя на тонкім белым палатне краявіды з меднастволымі налібоцкімі соснамі, букеты палявых кветак. Відаць, усё гэта рабілася прыхваткам, але шчыра, ад душы.

— Дзе вы навучыліся так хораша вышываць? — пытаюся я, падаючы цётцы Ярыне венік, каб абабіла снег са сваіх гумовых «шоптанікаў».

— Што, вышываць? А-а...— цётка Ярына акінула позіркам сцены і засаромелася:— Не хвалі мяне, Ігнатка, не трэба... Хіба ў маім узросце варта марнаваць час на ўсе гэтыя прычындалы? Але вось забаўляюся

яшчэ, калі знайду якую хвіліну вольнага часу. Не хочацца ж, каб у маёй хаце было горш, як у людзей.

— І гэта ўсё?..

— А ну цябе, Ігнат! От, як прыстане, дык хоць ты яму кол на галаве чашы... Выліты бацюсь! Той таксама заўсёды ўсё хоча ведаць... Вышывала, бо інакш не магла... Звар'яцела б адна ў пустой хаце. Ты вось глядзіш на мае кветкі, як прахожы на чужыя вароты: пакажацца хто-небудзь з іх — добра, не пакажацца — таксама не вялікая бяда. Абы хутчэй дапнуцца туды, дзе яго чакаюць. А я, Ігнатка, і дома, як у чужых людзей у падсуседзях жыла. Азірнешся вакол — толькі мох ды голыя сцены на цябе глядзяць. А вышываючы, з кожнай кветачкай гаварыла, па нітачцы аддавала ім цяпло сваіх рук і ад душы радавалася, калі яны сплочвалі такой жа цеплынёй. Удовіна жыццё — пакута. Балазе, хоць людзі ў нас спагадлівыя, хату, бачыш, памаглі паставіць, сені перасыпалі і не забываюцца заглянуць да мяне.— Яна ўзяла жалезны таўкач і пачала мяць свінням бульбу.— Раней як жылося: трапіў чалавек у бяду — век табе гараваць. Людзі і рады былі б падсабіць, але не было з чаго. Самі ў лютай нястачы гібелі, пад старыя лахманы ў хатах ад дажджу хаваліся. А цяпер што? Цяпер у некаторых хіба толькі птушынага малака не хапае. От пажывеш — сам пабачыш... Ідзі сустракай бацьку.

— Угаварылі?

— Угаварыла. Сам ужо збіраўся ісці. Цяпер ён і аднаго дня не ўседзіць на хутары...

Вяртаючыся дадому, цётка Ярына зайшла ў магазін, купіла мужчынам «маскоўскай», а маладзіц будзе рознымі наліўкамі частаваць...

Заходзіў Моніч. Толькі на адну хвілінку. Вечарам прыйдзе пагаварыць. Млын — даўно абжытае ім месца. І пахваліцца ёсць чым — разагнаў адтуль хэўру п'янчужак. Пра мяне чуў ад свайго сына. Той паспеў ужо пабываць у нас на хутары. Дасужы, мазурык! Я рад, што ў Сяргея такі рухавы і кемлівы памочнік расце. Расказаў, як мы пазнаёміліся ноччу каля млына. Моніч хітравата ўсміхнуўся, паклаў мне на плячо руку:

— А ведаеш, адкуль мне буслы прынеслі гэтага свавольніка? Эх ты, Шэрлак Холмс!.. З лесу, адтуль, дзе табе калісьці адна наша разведчыца гаварыла: «Замучылася я з вамі, вяду вось, а ці вернецеся назад — ніхто не ведае...»

— Хопіць, я ўжо здагадаўся, каго ты маеш на ўвазе!— перапыніў я Моніча.— Гэта ж Метакава сястра, Данута. Яна паказвала Антосю дарогу да Томчака. Калі ж ты пазнаёміўся з ёю?

— О, гэта, Ігнат, доўгая гісторыя. Лепш я табе другім разам раскажу...

Моніч стаў нейкі вельмі скрытны. Яго трэба запрасіць у госці, тады, можа, што скажа. А мне ўсё ж крыху непрыемна. Я ведаю, што Антось трызніў аб нашай колішняй праваднiцы. Запала яна хлопцу ў душу. А Моніч выкручваецца, не хоча мне нічога расказаць пра яе. Зрэшты... у нас яшчэ ўсё наперадзе. Скажа.

— Ну, дык я чакаю цябе вечарам? — сказаў я Монічу.— Прыходзь з жонкай.

— Што ты, што ты,— замахаў ён рукамі.— А дома хто застанецца? Я адзін прыйду...

Ён яшчэ якую хвіліну патаптаўся ля стала, хацеў штосьці спытаць, але перадумаў і ціха вышмыгнуў з хаты.

А цётка Ярына тым часам падпаліла ў печы. Мусіць, будзе нешта гатаваць.



— Госці яшчэ не скора прыйдуць. Адпачні трохі,— гаворыць яна мне.— Прыляж на тапчан за перагародкай.

Ды мне не ляжыцца. Перад вачыма зноў яна — Стася.

З выгляду яна мала чым адрознівалася ад сваіх польскіх сябровак. Адзін раз яны гарэзлівыя і крыху палахлівыя, другі раз — строгія, пякучыя і нават прыдзірлівыя. Але ў Стасі не было таннага какецтва. Дзяўчына адзявалася з густам, але не крыклiва, з хлопцамі трымала сябе сціпла, нахабнікаў ненавідзела і ніколі не дазваляла ім нічога лішняга. А на мяне яна дык і зусім не звяртала ніякай увагі. Мы цокалі на польскай мове — яна з паморскім акцэнтам, скрагаворкай, а я нараспеў, як усе беларусы... Дзяўчыну гэта вельмі смяшыла.

— Магдачка, мілая, адкуль ты выпарала яго?— шэптам пыталася яна ў Марчуковай.— Па-мойму, гэта дзеля цябе ён кожны вечар ацiраецца ў нашым яхтклубе...

Магда ціха адказвала:

— Мы яшчэ не ведаем, хто гэта. Хлопцы кажуць, што яго нядаўна з турмы выпусцілі. Можа, які бандыт або кантрабандыст...

«Эх вы, вароны!— кпліва ўсміхаўся я.— Вы яшчэ не бачылі сапраўднага бандыта...» Але падысці да гэтых паморскіх прыгажунь не асмельваўся. Пасля астрожнай шэрасці яны здаліся мне залішне далікатнымі і легкадумнымі паненкамі. Я шукаў сабе сяброўку сярод простых маладых рыбачак, з якімі мне, вясковаму хлопцу, было лягчэй гаварыць і якія адразу адчулі ва мне свайго чалавека. Гэтаму спрыяла і тое, што я ўсё лета працаваў у іх рыбацкай арцелі.

Аднак і Магда была не чужая для мясцовых памораў. Аднойчы, вярнуўшыся з лову, я зайшоў у барак да кладаўшчыка па чаўнок і шпагат, якімі лапілі невады. Кладаўшчык, пажылы, бязногі памор, уважліва выслухаўшы мяне, сказаў:

— Ідзі адпачывай. Сеткі жанчыны дагледзяць. Гэта іх справа.

— Але ж дагэтуль мы самі гэта рабілі,— запярэчыў я.

Стары пажаваў цыбук люлькі і строга звёў бровы.

— Рабілі, а цяпер не будзем! Цябе тут засмяюць, хлопча, калі будзеш хапацца за бабскую работу. Бачыш вунь тую свавольніцу, што павяла дзяўчат на бераг? Гэта мая дачка Магда. Яна першая прагоніць цябе ад сетак...

Са страхі ўпала на руку кропля. Кладаўшчык дакрануўся пальцамі да павек. Не, вочы сухія. Проста пачаў імжыць дождж, вось і пацякло зверху. Але стары не супакойваўся. Дачка была рэдкім госцем у яго цесным пакойчыку на ўзбярэжжы. Без яе сумна было б у яхтклубе. Гарыць, стараецца дзяўчына. Ды яшчэ ж і вучыцца на інжынера.

У нядзелю — гэта было перад Антосевым судом — каля шалаша нехта зарыпеў на губным гармоніку. Магда падышла да мяне, запрасіла танцаваць... Я адмовіўся, бо яшчэ ні разу не танцаваў у сваім жыцці.

— Мядзведзь! — насупілася Магда, потым схапіла мяне за руку і выцягнула на сярэдзіну круга:— Ты будзеш паненкай, а я кавалерам. Ясна?

Я наступіў ёй на туфель, і Магда зморшчылася ад болю, але не адпусціла мяне.

— Я ведаю Антося, твайго стрыечнага брата, Ігнась,— сказала яна, калі мы перасталі танцаваць.— Прыстойны хлопец. Мы яго хацелі накіраваць на прыстань. Там не хапае грузчыкаў, няхай, думалі, трохі папрацуе ды прыадзенецца. Ды, бачыш, не пашанцавала яму. Хаця б усё было добра... Сама не ведаю, як яму цяпер памагчы. А ты,— яна акінула мяне прыдзірлівым позіркам,— мусіць, прапіваеш усё. Чаму на табе такі бедны касцюм?

— Проста не было калі падумаць аб гэтым...
— То чаго ж пачырванеў? — дзяўчына жартаўліва пацягнула мяне за нос.— Часцей заходзь у яхтклуб. Грошы ёсць?
— На цукеркі табе хопіць...
— Дурань! — зноў насупілася Магда.— Я не мамчына дачушка... А прыадзець цябе трэба.
Пасля гэтай размовы я месяцы два яшчэ не хадзіў у яхтклуб. Потым папрасіў гаспадыню кватэры, каб адпрасавала мне кашулю, выцягнуў з куфэрка нейкі заваляшчы гальштук, пачапіў яго на шыю, прычасаўся і падышоў да люстэрка.
— Можаш не глядзецца, прыгожы! — пачулася ззаду. Я азірнуўся, на парозе стаяла Магда, свежая, уся ў сонцы і нейкая такая свая, родная, што я аж здрыгануўся.
— Зайшла па мяне?
— Угу. Венікамі шараваць будзем! — весела засакатала яна.— Кажуць, што гэта лепшы сродак ад нуды. А ты ж яшчэ і ашуканец нікчэмны. Абяцаў і не прыйшоў. Я ўжо на цябе аднаму міліцыянту паскардзілася. Ты пана Метака Жмігроцкага ведаеш?
— Ведаю, разам каровы пасвілі. Ну, а потым яшчэ ваявалі крыху. От так, нішто сабе хлопец...
— Эх ты, разява! Метак ужо другі тыдзень у вячэрнюю школу ходзіць. Сама, можна сказаць, зацягнула яго туды. А ты доўга вурчэў на яго, не хацеў сустракацца... Бяры плашч ды пойдзем да нас на гулянне...
Потым, калі мы ўжо былі вельмі добра знаёмыя, сказала:
— Мой бацька кажа, што зрабіў з цябе добрага шкіпера. Шукай сабе асобную кватэру ды жаніся... Ці, можа, табе не падабаецца ў нас?
— Падабаецца,— шчыра прызнаўся я.— Нават вельмі. Але мяне чакаюць дома... У таго ж Метака спытай, калі што.



— Пойдзеш туды рыбачыць? У вас жа няма мора.
— Цяпер ёсць. І не адно. У Савецкім Саюзе мае сябры... Пачакай, што гэта? Ты плачаш?
— Вось яшчэ! — Магда адвярнулася, выцерла хустачкай вочы.— Не глядзі на мяне... не глядзі...
Мне хацелася сказаць ёй штосьці ласкавае, цёплае, ды не хапіла адвагі. Магда цярпець не магла, калі яе шкадавалі... Зрэшты, праз якую хвіліну яна ўжо выбегла з барака на бераг, бестурботна шпурнула ў мора пустыя ракавіны і засмяялася, калі да яе з усіх бакоў пачалі злятацца галодныя чайкі.
— Дурненькія, я ж сягоння нічога не ўзяла з сабою,— сказала ім Магда.— Кыш назад! — Спахапіўшыся, павярнулася да мяне: — Ты яшчэ тут?! Ну, добра, можаш пабыць... Напэўна, і я не лепшая была б. Птушкі і тыя пільнуюцца сваіх берагоў, а мы ж — людзі...
Дамоў вярталіся моўчкі. Стаяла дажджлівая восень. На глухіх, далёкіх ад цэнтра вуліцах, па якіх мы ішлі, было гразка. Я колькі разоў браў Магду на рукі і пераносіў цераз лужыны.

## 6

Дзе яны, куды падзеліся тыя цёплыя сяброўскія словы, якія мне хацелася сказаць Монічу? Па дарозе дамоў, у Зачэпічы, я многа думаў аб ім, рыхтаваўся да сустрэчы з гэтым некалі зразумелым мне чалавекам. Ды ўсё паляцела к чорту. Мне непрыемна з ім быць аднаму, нават цяжка. «Моніч — добры арганізатар. Людзі паважаюць яго за прынцыповасць і розум,— гаварылі мне ў сельсавеце.— Праўда, наш старшыня яго недалюблівае, але вы не звяртайце на гэта ўвагі».



І рад бы, ды не магу.

За перагародкай чуваць крокі. Новыя дошкі ў падлозе парассыхаліся, скрыпяць. Бацька камандуе, дзе каму сесці.

Зайшоў і Моніч. Я чую яго прастуджаны тэнарок. Пытае пра мяне. Бацька пасадзіў яго на покут, жартуе:

— Паспееце з козамі на таргі, нагаворыцеся яшчэ. Ігнат цэлы тыдзень спаў, як забіты. А я толькі што з лесу. План на мяне вялікі налалі. Лаўлю лісіц ды ваўкоў — а іх не ўбывае.

Стары не любіць хваліцца. Я ведаю, што ён прыцягнуў многа рознай зверыны.

— Піць мы яшчэ не пачыналі, а ты ўжо, як мочаны агурок, пажаўцеў,— смяецца Моніч, даючы мне месца.— Сядай побач. Я табе нешта цікавае шапну на вуха.

Бацька ўстаў, налівае гарэлку. Выпілі залпам. Нехта прычмокнуў языком, смяецца:

— Але ж і моцная! Не скупіся, Пятрусь, налівай яшчэ. Усяго не перап'ем.

— Вы толькі не перабірайце меры! — абсек гаваруна Моніч.— Піць трэба з розумам.

Ён ужо трохі захмялеў. У чорных, як парэчкі, вачах яго — задор, шчокі пачырванелі.

— Падсунься да мяне бліжэй!— Моніч стукнуў кулаком аб стол, хацеў нешта сказаць, але не праглынуў яшчэ скваркі. Госці прыціхлі, недаўменна пацiскаюць плячыма.— Што гэта я хацеў у цябе спытаць? — нарэшце прамовіў ён.— Ага! Ты, пэўна, ужо і не думаеш аставацца ў калгасе. Араць, сеяць і ўсё такое не кожнаму падабаецца. Нябось, махнеш у сталіцу, га? А то я магу і тут знайсці для цябе месца. Не бойся, заціскаць дужа не будзем.

— Мяне і раней ніхто не заціскаў...

— Маўчы. Заціскалі ды яшчэ як! Я, братка, усё помню. Сам жа тады часта злаваў і насякаўся на цябе. Нябожчык Барыла, калом яму зямля, падвёў. Выжылі з калгаса, бандытам зрабілі. Ты хоць ужо не крыўдуй. Сказаць табе, што тут рабілася, калі ты пайшоў у лес па Антося і не вярнуўся? Старшыня, а потым і ўсе калгаснікі так узеліся на мяне, што нават здароўкацца не хацелі. А гэта, браце Ігнаце, страшней за той суд. Дурныя мы былі, між трох сосен заблыталіся.

— Не перажывай,— гавару я.— Мы з Антосем нічога да цябе не маем. Бо таксама шмат у чым вінаваты. Час быў такі. Брэшучы адзін на аднаго, мы і галовамі маглі налажыць.

— Калі прыедзе Антось?

— Скора... У яго яшчэ з дакументамі не ўсё ў парадку.

— Скажаш, што я не вораг яму. Калі хочаш, дык я і на сходзе паўтару гэтыя словы. Чаго ж саромецца, га?

Моніч, відаць, яшчэ не хутка супакоіцца. Госці ўжо разышліся дадому, а ён праветрыўся крыху на двары і зноў грукае кулаком аб стол — намагаецца ўцямяшыць мне, што ён, Сяргей Моніч, яшчэ пакажа сябе ў калгасе. Пустыя талеркі і бутэлькі з недапітай гарэлкай цётка Ярына вынесла ўжо ў кухню. На стале, апрача кавалкаў хлеба, відэльцаў і вялікай міскі з кіслай капустай, нічога няма, а грукату многа. Моніч на дзіва строгі сягоння. Мне проста не хапае аргументаў спрачацца з ім. Я кручу галавой, балбачу нешта неўпапад, нібы той цецярук у сілку, але Моніч і не думае выпускаць мяне з-за стала.

— Сядзі, я табе яшчэ не ўсё сказаў,— сіпіць ён, аблізваючы патрэсканыя ад ветру губы...— Цярпець не магу, калі мяне слухаюць з пятага на дзесятае.



За акном ужо світае. Бацька пашаптаўся з Ярынай і палез на печ. Маці, падперазаўшыся ручніком, мые пасуду. Можна было б і потым зрабіць гэта, але яна, пэўна, зноў не паладзіла са старым. Ярына прыцягнула з каморкі сяннік. У хаце запахла лугам, прэлай травою.

— Дзе ты навыскубала столькі мурагу? — накінуўся Моніч на Ярыну, пнуўшы нагою ў сяннік.— Хадзіла з рэзгінамі за рэчку на здабычу?

— Хадзіла,— з'едліва адказала яна.— І не адзін раз... Але не па сена, а трыснягу там некалькі бярэмкаў дастала з-пад снегу. Мы ж восенню ўсю зеляніну павыкошвалі з ракі, думалі на подсціл жывёле будзе, а перавезці дамоў не паспелі.

— Так і скажы,— Моніч дастаў капшук, закурыў. Відаць, яму няёмка, што пакрыўдзіў жанчыну. Гаворачы, ён злаваў; злуючыся, яшчэ больш гарачыўся, бегаў па хаце. Не, не такім уяўляў я сабе Сяргея.

— Чаго ты злуеш? — не змоўчаў я, калі ён зноў падсеў да мяне.— Быў хлопец, як хлопец, а цяпер...

Моніч зморшчыўся, адсунуўся ад мяне ў покут:

— Глядзі, каб я на цябе не пакрыўдзіўся, Ігнат. Зойдзеш заўтра да мяне, зробім па чарцы і тады пагаворым. Мы ж тут не адны. Гэтая сакатуха,— ён паказаў на Ярыну,— з мухі слана раздзьмухае.

— Аё-я-ёй,— зноў цяжка ўздыхнула цётка Ярына.— І не брыдка табе, Сяргей, плявузгаць на мяне ліха ведае што. Няўжо ты да гэтага часу не зразумеў, што не ўсе мы такія паганыя, як ты думаеш? Ідзі дамоў, нам ужо спаць трэба!..

Вось-вось паднімецца з-за лесу сонца. Каб не кляваць носам, я трохі асвяжыўся вадой і любуюся праз акно на ўсход сонца. Як хораша ў нас! Я шмат дзе пабыў, але ніколі не забываўся на родныя мясціны. У Навагрудчыне, з яе пагоркамі, дубовымі загайнікамі, векавымі барамі і глыбокімі сухадоламі ёсць нешта непаўторнае, што міжволі кранае чалавека, зачароўвае, вабіць яго да сябе. А колькі тут прастору на палях! Хораша тут і зімой. Яшчэ заўчора была мяцеліца, усё задыхалася пад снегам, а сягоння ўжо цурчаць струменьчыкі талай вады. Толькі ў вішняку, што ў агародчыку ля Ярынінай хаты, снег яшчэ ляжыць некрануты, сюды сонца дастане не раней як пасля абеду. Недзе кудахтаюць куры, гарлапаніць певень. Пакуль старыя адпачываюць, сяджу, зноў думаю пра Моніча.

Учора я быў у млыне. Моніча не было дома. Насустрач мне выйшла яго жонка Данута. Я адразу пазнаў яе.

— Прыйшоў! Вярнуўся, значыць! От добра... Ты ўжо не злуй на мяне, Ігнатка. Я толькі Сяргею сказала ўсю праўду пра цябе і пра Метака. Нашы яшчэ ў вайну заслалі яго ў Томчакаву банду. Добра, што хоць вы з Антосем памаглі яму.

— Значыць, Сяргей ведаў, як я трапіў у пастку?

— А як жа, але... Ды што гэта я балбачу? Садзіся, у нагах праўды няма...

«Чаго яна замітусілася, баіцца сказаць пра ўсё? Ну што ж, няхай. Я дзеля Антося сюды зайшоў, думаў, парадую яго добрай навіною. Але выходзіць інакш».

— І даўно вы пажаніліся?

— Даўно, гадоў восем ужо.

«Значыць, сын у яе не ад Моніча»,— падумаў я, успомніўшы хлапчука, які паказваў мне дарогу ў Зачэпічы і расказаў пра Задрапея.

Слаўны малы! Мне хацелася пагаварыць з ім. Але жанчына сумна адказала:

— Сяргей трохі пасварыўся на яго. Хлопец недзе схаваўся. Не слухаецца ён нас. Убіў сабе ў галаву, што яго тут зненавідзелі, і цэлымі днямі бадзяецца недзе.

Відаць, гэты неспакойны падлетак сапраўды не лішні ў Монічавай хаце. Яго маці сказала мне: «Я сустрэла чалавека, які шануе мяне і майго сына». Праўда, гаворачы, яна азіралася на дзверы, асцерагалася або чакала кагосьці.

7

Стасін дзед Базыль Калюжны сам ездзіў у Польшчу па Стасю, ведае, як і дзе памёрла яго жонка Аўдоля, хто забіў Ліду, але нічога не сказаў мне пра гэта.

А сёння нечакана завітаў да нас. Ці не Стася падбухторыла яго? Ён-то кажа, што яму патрэбна Ярына, дзеля гэтага ён і прыехаў да нас у Зачэпічы. Маці ўжо хуценька пабегла па яе.

А дзядзька Базыль тым часам, не распранаючыся, сцягнуў з печы майго бацьку і хітра паблісквае вачыма з-пад цёплай пушыстай шапкі-вушанкі:

— Пазнаеш? А я цябе, мядзведзь ты гэтакі, адразу пазнаў! Па калючай сівой барадзе і гарбатым носе. Але ж усохся ты, пастарэў, чалавеча, не зверналоў, а святы нейкі, хоць бяры ды на крыж чапляй... Відаць здорава цябе тады падсеклі бандыты. Я, чуеш, таксама крыху недамагаю, але паміраць не збіраюся. Няхай нашы ворагі паміраюць. Мы яшчэ можа і параднімся з табой... Сын дома?

Бацька маўчыць. Ён, відаць, думае, што сказаць. Дзядзька Базыль прыехаў здалёк, значыць, у яго ёсць нейкая тэрміновая справа і да нас. А мой бацька ў такіх выпадках тугаваты на вуха: пяць разоў перапытае, потым адкажа. І цяпер, абуваючыся, просіць дзядзьку Базыля, каб мацней гаварыў.

— Я да твайго сына прыехаў,— чуецца ў адказ.— Калі дзе блізка, дык пакліч. У мяне ёсць для яго прыемная навіна.

— Ад каго?

— О, гэта, браток, тонкая справа. Вось зірну на двор, каб не адвязаўся конь, і тады, ёлкі зялёныя, без гарэлкі не абыдзецца. Эх, і трасяну ж я цебе, Пятрусь! Колькі часу мы з табой не бачыліся? Пятнаццаць гадоў, дальбог жа, пятнаццаць! Вось цяпер і нагаворымся, бо ў вайну нам больш адбівацца ад немчуры даводзілася.

— Мы адбіваліся, а другія цалаваліся з імі,— пакрэктваючы, буркліва прамовіў бацька: — Распранайся ды паляжы, калі хочаш, за мяне на печы. Я сам выйду да твайго гнядога. Заадно і сына гукну ў хату.

Стары спрасоння не заўважыў, як я следам за дзядзькам Базылём ціхенька забег у кухню і на хвіліну прыпыніўся там, каб крыху супакоіцца. Убачыўшы мяне, сказаў:

— Ідзі пагавары з Базылём. Мне ён адразу ўсяго не скажа. Ого, гэта стрэляны верабей!

Базылёва навіна моцна ўзрушыла мяне. Ён прывёз ліст ад Стасі. Яна пакрыўдзілася на мяне, не разумее, чаму я быў у Навагрудку і не зайшоў да яе ў інтэрнат. Каб зайшоў, то ведаў бы ўжо, што наша польская сяброўка Магда Марчукова перабралася з Гдыні ў Шчэцін і там выйшла замуж за аднаго «фартовага» марачка. Стася перапісваецца з ёю і збіраецца запрасіць да сябе ў госці. Трэба, каб і я павіншаваў Магду са шлюбам.

Павіншую. Я рад за Магду. А сам, відаць, бабылём звякую. Нешта Стася вельмі суха канчае свой ліст. «Мы кепска зрабілі,— піша яна,— што пакінулі Антося Малочку аднаго. Трэба, каб ён хутчэй вярнуўся дадому...»

Зробім, Стасечка, абавязкова зробім! Ды Антось і ў Польшчы цяпер не адзінокі.

Дзядзька Базыль ужо запрагае каня. Неўзабаве, кажа, зноў да нас прыедзе.

І прыедзе, бо на развітанне доўга шаптаўся з маім бацькам, потым закруціўся ў кажух і сказаў:

— За адзін раз усяго не перагаворыш. Вясною, калі будзем жывы, прыеду... З кватэркай добрай настойкі і з жывою прыманкай на возе. Ого!.. Вочы ў мяне яшчэ не прытупіліся. Я ўсё бачу, Пятрусь. Ажэнім твайго сынка ды няхай поле арэ...

— Мы вам і без прыманкі будзем рады, дзядзька Базыль,— сказаў я, адчыняючы вароты.— Толькі прыязджайце хутчэй. Гэта нічога, што на двары мароз. Вясна пачалася...





Нэла ТУЛУПАВА

## СЭРЦА


Я сягоння цябе праверыла,
Чалавек паміраў ад пакут...
Я сягоння ў цябе паверыла,
Мне накладвалі першай жгут.

Я сама уколаў баялася,
Кволай звалі мяне заўжды...
Каб не крыкнуць — засмяялася
І адмовілася ад вады.

Чалавек пачаў захлынацца,
Трэба кроў была чалавеку...
Ускладнялася аперацыя,
Мне мінута здалася векам.

Чалавекам крыві шмат страчана,
Вусны смага яму пячэ,
Тухнуць зрэнкі яго вачэй...
Дык пульсуй, мая кроў гарачая,

Падганяю яе, струмень,
Напаўняй жа прасветы вен,



З сэрца ў сэрца твой шлях ляжыць —
Чалавек застанецца жыць.

Я сягоння цябе праверыла,
Мне не сорамна ад людзей,
Я сягоння ў цябе паверыла,
Ты не здрадзіш,
не падвядзеш!




На плошчы
вечны гарыць агонь...
Стаіць жанчына каля яго.
Лятаюць ластаўкі ўгары,
Яе ты ластаўкаю зваў,
Ты ёй пра сына гаварыў,
Як адыходзіў ваяваць.
Яна чакае з году ў год,
Чакае кожную вясну...
Табе запалены агонь
Ёй ноччу не дае заснуць.
З тае суровае пары
Засмяг на вуснах болю крык.
Журботу вуснам не схаваць.
А ім бы толькі цалаваць,
Рукам бы толькі абдымаць,
Сыноў люляць, якіх няма...

...Агонь трапечацца, гарыць,
Лятаюць ластаўкі ўгары...

## ВЫСОКАЕ


Дзе Аршыца шэпчацца з асокамі,
Дзе не замаўкае гул машын,
Ёсць пасёлак з назваю Высокае,
Паабапал Віцебскай шашы.

Можа спадабаецца не кожнаму,
Лесам не пахвалімся, ракой,
Восенню акружаны ён пожнямі,
А вясною — зелень навакол.

Тут дзяўчаты самыя фарсістыя,
Падавай нэйлоны сёння ім...

Кожная такая галасістая,
Што злуюцца нават салаўі.

Ну, а хлопцы — вы нам пазайздросціце,
Ці ж апішаш гэтакіх пяром,—
Прыязджайце к нам, дзяўчаты, ў госці,
Кавалера кожнай падбяром!

Прыгажосць, зірні, у нас якая,
Пахнуць хлебам летнія дажджы!
Мы не толькі ў госці вас чакаем,—
Назаўсёды запрашаем жыць!




ганькі за вокнамі палаты.
Муж цябе чакае, паглядзі!
Рознага узросту ходзяць таты,
Томяцца ад крыку парадзіх.

Іх ніхто за гэта не асудзіць,
Будуць ноч чакаць яны навін...
Мо дачка маленькая ў вас будзе,
Ці кірпаты і крыклівы сын!

Будзе ў рот цягнуць усё рукамі,
Адбярэш — нахмурыцца, як ты...
Знойдзе між чужых цябе вачамі,
Самы родны, самы залаты.

Усміхнецца радасна, як знойдзе,
Першы раз матуляй назаве,
Зробіць крок, другі, а там — і пойдзе
Любы твайму сэрцу чалавек.

Дык рыхтуйся, маці, да сустрэчы,
Вытры слёзы, родная, з павек...
Слухай, свет! Сягоння вечарам
Нарадзіўся чалавек.




ажуць мне, што дзяўчына я колкая,
Позірк кожнага коле іголкамі,
Кажуць мне, я вачамі жыгучымі
На Аршаншчыне хлопцаў замучыла!

А я хлопцам смяюся ў адказ:
— Пакажыце такога мне з вас,



Каб іголкі ў вачах прытупіліся,
Аганькі каб у іх паявіліся.

Кажуць, ты сваёй фермай цялятнай
Адцясніла хлапцоў самых знатных...
Хлопцы жэняцца ўсе, як адзін,
Ты ж сваю маладосць прасядзіш.

Станьце, хлопцы, усе на паказ,
Я сягоння прайдуся ля вас,
На такую, як ёсць, на мяне
Можа ўсё-такі хто і зірне.
Ці не?




аўно мароз палахлівы
Ад сонца ў рэчку залез.
Дазнаўся пра гэта лівень —
І шуганўў на лес!

Прыемна дубам, аж крэкчуць.
Даўно гэткі дождж не ліў!
Старанна труць свае плечы,
Аж рэха ідзе па зямлі.

Зялёная ў студзень і ў маі
Яліна, што ля гары,
Хваёвыя ванны прымае
І робіць масаж кары.

Мыў лівень бярозкам спіны,—
Свавольнік, што ні кажы!
Спалохаў ён так асіну,
Дагэтуль яна дрыжыць.

# КЛАДКА


етнім вечарам дзяўчына
Мурагом ішла,
Падышла да ручаіны —
Кладкі не знайшла.

Бачыць, хлопец побач косіць,
То ж сусед Якім.
І дзяўчына хлопца просіць:

— Кладку перакінь!

— Лазіну бяры, Маруся,
Кінь цераз ручэй.
— Я з яе, Якім, звалюся,
Адламі яшчэ!

Кладка гнецца, кладка гнецца,
Намачу касу! —
А хлапец стаіць, смяецца:
— Дай, перанясу!

— Адыдзі, хлапец, не кратай,
Ці ж не перайду?
— П'явак вельмі тут багата,
Паглядзі ў ваду.

— А я п'явак не баюся.
Солі пуд з'ясі,—
Усміхаецца Маруся,—
Вось тады нясі!

Кладка гнецца, кладка гнецца,
Абдымі ямчэй... —
А хлапец нясе, смяецца:
— Вузенькі ручэй!

★


нікому цябе не аддам,
Нават самай-самай прыгожай...
Я знайду цябе па слядах,
Размінуцца з табой не зможам.
Кожнай стрэчнай табе дзяўчыне, —
Прыгажуня яна ці не,—
Я усмешку сваю пакіну,
Каб нагадвала пра мяне.
А калі цябе стоміць дзень,
Прытулюся плячом к плячу,
Ты ад стомы не упадзеш,
Зможаш ты апору адчуць!

Я іду па тваіх слядах,
Размінуцца з табой не зможам,
Я нікому цябе не аддам,
Нават, самай-самай
прыгожай.

★


пяць вусатыя чараты,
Спіць ля хмаркі месяц барвовы...
Песні ціхай плыве матыў,
Зрэдку смех даляціць ці слова.



Двое ходзяць уздоўж ракі,
Пэўна, шчасце сваё шукаюць...
Можа гэта не спяць рыбакі,
Ці прачнулася птушка якая?

Пацалунак нясмелы чуецца,
А за ім і другі, і трэці...
Можа гэта рака хвалюецца,
Ці ў чаротах прачнуўся вецер?

Спяць вусатыя чараты,
Спіць ля хмаркі месяц барвовы...
Ой, не спіце, дзядзькі-сваты,
Запасайцеся добрым словам!

## ДЗЯЎЧЫНА ЧЫТАЕ МАЯКОЎСКАГА


нас яго вершы
Чытаюць мужчыны,
А яна была першай.
З халадком сустрэлі дзяўчыну.

Не чакалі мы, што яна
Загартоўвае кожнае слова —
Маякоўскі пачаў пры нас
З Леніным размову.
Пацяплелі пагляды адразу,
Мы з паэтам расказвалі разам,

Што сусвет на плячах падымем,
Перакроім па-свойму век,
Вашым, таварыш Ленін, імем,
Думаем, дыхаем і жывем!

Зноў паэтам сябры расчулены,
Кожны радасць з іх зноў пазнаў...
Маякоўскага сёння чулі мы,
Ленін слухаў сягоння нас.

★


можа мы
усё гэта прыдумалі,
І не было ні стрэч, ні салаўя?
Іду к табе. Іду к табе і думаю,
Мо гэта ўсё сасніла толькі я?

І гэта я загаварыла вершамі,
І песні распяваю цэлы дзень?!
«Каханне богам дадзена нам першае» —
Бытуе прымаўка сярод людзей.

Цябе ні бог, ні людзі мне не сваталі,
Тут кожная страфа звініць табой!..
Каханне часам пахне горкай мятаю,
Нясе з сабой сустрэч кароткіх боль.

Мы нашы стрэчы, любы, не прыдумалі,
Цябе мне не хапае кожны час...
Хай пра мяне, што хочуць, людзі
думаюць,
Няхай, што хочуць,
думаюць пра нас!



Міхась **ВЫШЫНСКІ**

# УХ, ЯК СТРАШНА

**Апавяданне**

Мал. М. Залознага.

1

Пад вечар, у самы гон работы, спыніўся нечакана, заціх вежавы кран.

Юрка здзіўлена азірнуўся і ўбачыў, як па лесвіцы злазіў з крана на зямлю Гарэнка. Злазіў павольна, старанна намацваў ботамі сходкі, якія пагупвалі ў нязвыклай цішыні.

А калі злез, нерухома хвілін колькі пастаяў з заплюшчанымі вачыма. Пасля, хваравіта зморшчыўшы твар, дастаў з кішэні зацёрты карабок з содай і, горбячыся, пасунуўся да вадаправоднай трубы. Там ён сыпнуў сабе з карабка ў рот соды і, крывячыся, запіў яе вадой, сеў на штабялёк цэглы, сплюнуў пад ногі і закурыў.

— А Гарэнку зноў нездаровіцца,— падумаў Юрка і ўважліва паглядзеў на сяброў па брыгадзе.

Тыя маўчалі. Яны ведалі, што кранаўшчык Гарэнка даўно хварэе страўнікам, і прывыклі амаль штодня бачыць, як ён злазіць на зямлю са сваёй будкі, доўга сядзіць на цаглінах і, абыякавы да ўсяго, усё нешта думае, думае...

— Зноў яму нездаровіцца,— сказаў уголас Юрка і, успомніўшы, што вось-вось скончыцца работа і ён па дарозе дамоў выкупаецца ў Віцянцы, радасна захваляваўся.

Гарэнка цяпер для яго як бы перастаў існаваць. Юрка ўжо бачыў сябе на шырокай, травяністай рачной лугавіне. Вось ён нібы распрануўся, ціха падкраўся да ракі, зажмурыўся і, заміраючы ад дрыготкага страху, сігануў у ваду. А потым расплюшчыў пад вадой вочы — новы, таямнічы свет са сваімі гукамі і фарбамі расхінуўся перад ім. Ух, як цікава! Дрэнна толькі, што не хапае дыхання. Юрка вынырне наверх, глыбока ўздыхне, нейкі час адпачываючы, паплавае на спіне, а потым зноў нырне.

Ах, як добра, што на свеце ёсць рака Віцянка!

Сёння пякло і парыла ўвесь дзень. Юрка надта распарыўся на будоўлі, і ён будзе купацца даўжэй, чым у мінулыя вечары. Але ён не забудзе забегчы на якую гадзіну да сваёй Мілы, не.

Як слаўна, што на свеце ёсць рака Віцянка і дзяўчына з ласкавым імем Міла!

Забыўшыся, Юрка і не прыкмеціў, калі хлопцы з брыгады кінулі работу і пайшлі. Ён ачнуўся, борзда сабраў свае мулярскія прычындалы, закруціў іх у камбінезон і па рыпучым трапе збег з падмосткаў.

Гарэнка сядзеў на ранейшым месцы. Каля яго ног валялася не менш як паўпачка недакуркаў, мокрых, парудзелых бычкоў.

— Пачакай, не рвіся, пойдзем разам,— буркнуў ён і нехаця падняўся.

Юрка ўвачавідкі звяў.

«Яшчэ не ставала,— паныла падумаў ён.— З ім пакуль дапляцешся да Віцянкі, ашалееш ад духаты». Але збавіў крок, пайшоў поруч з Гарэнкам.

Цвёрдай, няроўнай сцежкай яны моўчкі выбраліся на поле, ступілі на мяккую прасёлкавую дарогу.

Ззаду асталіся глухія катлаваны, пыльныя горы з цэглы і камення каля іх, недабудаваныя камяніцы.

Далёка наперадзе пад нізкім сонцам засінеў лес. Там, за лесам — рака Віцянка. За тым жа лесам у лесніковай хаце жыве Міла. І хочацца Юрку з усяе моцы пабегчы па дарозе, але ён стрымлівае сябе, ідзе памалу і толькі паглядвае спадылба на свайго марудлівага спадарожніка. Сёння Юрка можа нарэшце разгледзець яго.

Юрка наслыхам ведае ад людзей, што Гарэнка не такі ўжо стары, як усім здаецца, што яму не болей як сорак год. Юрка не хоча гэтаму паверыць: галава ў Гарэнкі да апошняга воласа сівая, а твар нейкі цёмны, змардаваны, глыбока пасечаны маршчынамі.

Людзі казалі, што Гарэнка перажыў шмат: у вайну быў у палоне — нешта каля двух год працаваў на падземным нямецкім заводзе. Кажуць, што захварэў ён страўнікам не то ў палоне, не то ў галодны пасляваенны год, калі памёрлі яго жонка і дзіця...

Юрка ведае, што Гарэнка жыве ў пасёлку, у дзесятым бараку. Яму чамусьці прыпомнілася, як аднойчы ён незнарок трапіў да яго ў пакой. Пайшоў да таварыша за туфлямі, якія той абяцаў даць на вечар, і заблудзіўся ў цёмным барачным калідоры — пацягнуў не тыя дзверы.

Ускочыў у пакой і — застыў, ашаломлены: за сталом, застаўленым пустымі бутэлькамі, закускай, сядзеў Гарэнка. А насупраць яго — нейкі аднавокі лысенькі дзядок.



Гарэнка спяваў... Спяваў нізкім, асіплым голасам, схіліўшы галаву і заціснуўшы рукамі твар.

Дзядок, дурнавата ўсміхаючыся, недарэчна пілікаў на скрыпцы.

Ніколі б Юрку не чуць такой песні! Слоў яе нельга было разабраць. Але такая невыказная туга была ў ёй, што Юрку стала не па сабе. Аднак жа стаяў, слухаў...

А калі Гарэнка на момант змоўк і падняў твар, Юрка схамянуўся, выскачыў на калідор і, сцінаючыся, як ад холаду, пабрыў дамоў, забыўшы і пра туфлі і пра клубны вечар.

...Юрка падхапіў з дарогі каменьчык, высока шпурнуў яго ўгору: ён не хоча думаць пра Гарэнку. Не хоча — і ўсё тут!

Юрка паглядзеў на лес, які памалу сунуўся, плыў насустрач, а пасля на ружова-пульхныя воблакі, на дрыготкую палявую імглу і раптам аціх, радасна здзіўлены, затаіў дыханне: падалося яму, што і ў воблаках, і ў сіняватай імгле — ва ўсім наваколлі ўзрушана, але ціха зайграла музыка.

## 2

А Гарэнка не чуў ніякай музыкі. І нічога наўкола: ні лесу, ні вялікага неба, нават дарогі, па якой ішоў, не бачыў.

Яго даймалі не такія, як Юрку, думкі. Невясёлыя думкі.

Даўно, яшчэ ў мінулую слотную восень, надумаў ён перайсці на другую, лягчэйшую работу. Але такой работы на будоўлі не знаходзілася. Ды і трэстаўскае начальства чамусьці не згаджалася пераводзіць яго.

Не, Гарэнка больш не можа ганяць кран. Хопіць, ён напрацаваўся за свае трудныя гады! Чалавек — не машына. Чаму гэтага ніяк не могуць зразумець. Ну, які з яго, Гарэнкі, кранаўшчык?! Няма ўжо ў яго



ні колішняга маладога спрыту, ні рухавасці і, галоўнае, сілы няма. Ды і вочы слабыя.

Хопіць, напрацаваўся. Сёння Гарэнка вырашыў, што адна работа яму па сіле, работа вартаўніка.

І ён свайго даб'ецца. Гарэнка падыме на ногі ўсіх. Ён учыніць ім такое пекла, якога сам Люцыпар не зазнаў.

Канечне, заработак у вартаўніка — кату на малако. Але яму, аднаму, хопіць.

Урэшце, хто яго ведае... Можа ён і парабіў бы на кране яшчэ які год. Ды каб жа не праклятая хвароба!

Сёння, як ніколі, яна мучыць яго. І сам жа вінаваты. Убачыў у абед, як Юрка гэты з хрумстам аплятае салёныя гуркі, такія пругкія, сакаўныя, зеленавата-жоўтыя, смачна прапахлыя кропам і вішнёвым лістам. Убачыў, успомніў, як даўно іх не еў. І так захацелася яму пакаштаваць агурка, што хоць кладзіся і памірай. Ну, не стрымаўся, папрасіў, з'еў адзін.

А пад вечар заблажыла. Спачатку адчуваў у жываце нуднае калаццё, а трохі счакаўшы, штосьці цвёрдае падціснула пад грудзі так, што захацелася сагнуцца ў дугу і нема завыць.

Прыйшлося злазіць з крана ды піць соду.

3

Так, кожны думаючы пра сваё, Юрка і Гарэнка нарэшце ўвайшлі ў лес. І адразу паглушэла святло — мяккі, прыемна свежы прыцемак ахінуў іх. Збоку, з глухой імшарыны, атуленай старымі ялінамі, патыхнула ягадамі, мокрым мохам, прэлым леташнім лісцем.

— Оррру... эррр... — раптам абазваўся адтуль казадой. І заціх.

У Юркі заблішчалі вочы.

Ён імгненна паднёс да губ складзеныя ў дуду рукі і радасна паўтарыў: — Оррру... эррр...

— Урррр... — адгукнуўся казадой.

Гарэнка схамянуўся. Дастаў пакамечаную папяросу, са смакам закурыў і пасвятлелым поглядам акінуў хлапца. Усміхнуўся.

Лясная дарога тым часам мінула імшарыну, прабегла праз густастволае ўрочышча, паднялася на ўзгорак, парослы дзікай пахучай дзяцелінай. Юрка зноў захваляваўся: з узгорка ён заўважыў тое, што хацеў,— рэчку. Там, уперадзе, дзе дарога выбягала з лесу на вольную лугавіну, залаціста паблісквала кароткая палоска вады. Да яе было ўжо якіх з паўкіламетра.

Юрка не мог болей трываць. Збег з узгорка ў неглыбокую лагчыну і нечакана там, ля ядлоўцавага куста, спыніўся. Нагнуўся, нешта падняў і ўважліва, з цікаўнасцю пачаў разглядаць.

— Ух, як страшна!— неспадзявана выкрыкнуў ён у чуйнай лясной цішыні і сам сабе засмяяўся.

— У-ух, я-як ...аашнааа! — далёка і весела паўтарыў лес і таксама засмяяўся.

— Што ты там знайшоў такое страшнае? — запытаў Гарэнка, падыходзячы да Юркі.

Юрка павярнуўся і паказаў аркуш з нейкага вялікага часопіса. Аркуш быў трохі пажоўклы і ў плямах тлушчу: відаць, хтосьці хаваў у ім свой дарожны харч.



Але гэткай дробязі Гарэнка не прыкмеціў.

Па вачах яго нібы што ўдарыла. Намаляваны на ўвесь аркуш, чарнеў вялізны атамны грыб.

Гарэнка правёў рукой па знямелым у задуменні твары, прамаўчаў. Ды Юрка і не чакаў ніякага адказу. Ён нагой загнаў аркуш пад той жа самы ядлаўцовы куст і кінуўся подбегам да сваёй Віцянкі.

Гарэнка падняў аркуш і, пазіраючы ўслед Юрку, нявесела падумаў: «Дзіця, зялёнае дзіця. Бач ты — «ух, як страшна!» Нічога не разумее. Ані».

А Юрка бег, не аглядаўся. А калі б ён аглянуўся, то, мусіць, са здзіўленнем убачыў, што Гарэнка не ідзе следам за ім, а сядзіць, сядзіць нерухома, як акамянелы, ля куста і камечыць у руках той аркуш.

...Калі Гарэнка выйшаў на лугавіну, Юрка сама што купаўся. Павіскваючы ад асалоды, ён штомінуты выскокваў на бераг у белых, не па росту вялікіх трусах, танцаваў там на адной назе, прыклаўшы да вуха далонь, узлазіў на гарбаты берагавы камень і, здзічэла крычучы, даваў адтуль нырца.

І Гарэнку нечакана расхацелася ісці дамоў. Ён спыніўся ля мастка, паглядзеў на пасёлак, які стаяў за лугавінай, і сышоў з дарогі на бераг.

Глыбокай у траве сцежкай ён дайшоў да галінастай бярозы, неталопка закурыў у яе густым, халаднаватым ценю, скінуў боты і лёг, з прыемнасцю выпростваючы гарачыя, натруджаныя хадой ногі.

Суцішыўся.

Вакол на лугавіне пад спакойным і добрым небам буйна цвілі травы: снежна-белыя, блакітныя, чырвоныя, пяшчотна-сінія... Была самая пара летняга цветабою.

І Гарэнка з крыўдай і горыччу падумаў, як даўно ён не адпачываў вось так, як цяпер, у засені дрэва, у густым і хмелістым водары траў, у пчаліным звоне, у цішыні.

Балючы смутак пракраўся ў душу.

Так ён і заснуў: са смуткам, горыччу і крыўдай на састарэлым да часу твары.

Недакураная папяроса ціха выпала з яго пальцаў.

І вось выплыла са змроку і паўстала ў сне другая, далёкая, напаўзабытая лугавіна.

Уся ў копах сухога сена.

— Алё-ёша-а! — звініць над ёй зазыўны дзявочы голас.

А ён, малады, здаровы, лёгка злятае са стога сена, падхоплівае вілы, адклікаецца:

— Бягу, Алена, бягу! — і смяецца, шчаслівы.

На возе ля капы сена стаіць яго стройная, белатварая Алена. Мяккі ветрык кранае яе доўгія, русыя валасы, паліналае паркалёвае плацце.

— Вунь хмары збіраюцца на дождж,— гаворыць яна і паказвае на цёмна-сіні небасхіл.— Хутчэй мне падавай сена, Алёшка!

І ён не марудзіць. Заганяе ў капу як не па самы чаранок вілы, напружваецца ўсім сваім тугім, налітым сілай целам і — цэлую гару сена валіць на драбіны. Потым другую, трэцюю яшчэ большую.

Ад духмянасці ў яго кружыцца галава, дыхаецца шырока і лёгка.

— Алена,— звонка крычыць ён,— давай буду ўкладваць воз.

Дзе там! Яна і слухаць яго не хоча. Падхоплівае, кідае, раскладвае сена і толькі смяецца, шчаслівая маладосцю і яго каханнем.

Гарэнка сніў...

А Юрка, пакупаўшыся, тым часам адзяваўся. Спяшаўся і не-не, ды паглядваў на лесніковую хату, што тулілася пад ялінамі на ўскраі лесу.

Але нейкая здагадка неспадзявана, відаць, працяла яго — на міг Юрка заціх, узнепакоена і хутка агледзеў лугавіну, пасля рыўком зацягнуў папругу, падбег да бярозы і, уражаны, нахіліўся над Гарэнкам.

Як перамяніўся яго твар! Глыбокіх і цёмных маршчын на ім як і не было. Гарэнка як бы памаладзеў, нават папрыгажэў — усміхаўся нечаму светла і лагодна, і ўсё нешта шаптаў, варушыў губамі...

Часам Гарэнка змаўкаў і, уздыхаючы праз сон, падымаў з травы і зноў бяссільна апускаў руку: пэўна, трывожыла сукаватая палка, на якой яна ляжала.

Юрка асцярожна прыўзняў руку, з шурпатымі закуранымі пальцамі, выцягнуў сук і шпурнуў яго на другі бераг Віцянкі.



Эдзі **АГНЯЦВЕТ**

# КУБІНЕЦ І МІНСКАЯ ВЯСНА

Белыя ў трамваі вокны,
Сцюжа белая палае.
Едзем.
        Трактарны далёка.
Ціха з раніцы ў трамваі.

Вось на лаўцы хлопец дрэмле —
Смугла-чорны не па-мінску:
Бачыць бэзавыя землі,
Сніць у Мінску сон кубінскі.

Мора фарбамі іскрыцца.
Дзе там снег? Няма ні знаку!
...Шапка хлопца серабрыцца,
Як луска, трымціць каракуль.

На хаду
        на пасажыра
Хтосьці вельмі цёпла глянуў.
І ўсміхнуўся хлопец шчыра,
Быццам ён сустрэў Гавану.

І на яве, нечакана,
Ўбачыў ён вясну ў трамваі:
Стала збоку
        і старанна
Кнігу нейкую гартае.

Быццам не яна зірнула
На кубінца вокам сінім.
...Шаль на бровы нацягнула
Ды з касы змахнула іней.

— Вы сядайце! —
Ён ускочыў,
Як прыцягнуты магнітам.
Заглядаў у тыя вочы,
Зачараваны блакітам.

Засвяцілася шчасліва:
— Viva Cuba! —
і пабегла
Тое сонечнае дзіва,
Зацярушанае снегам...



д плошчы Коласа
да вуліцы Купалы
За сем хвілін ён прабягаў адзін.
А разам з ёй, паўз гэтыя кварталы,
Ідзе,
ідзе не меней трох гадзін.

Здаецца вечар космасам жаданым
І зоркаю далёкаю — яна,
А рэчка Свіслач —
бурным акіянам,
Дзе ні граніц,
ні берага,
ні дна.

І трошачкі смуткую я, прызнацца.
(На ўсё ў жыцці прычына ёсць свая...)
Як быццам ходзіць там маё юнацтва,
Дзе месяц — ён,
а зорка — гэта я...



Уладзімір **ЛЯПЁШКІН**

# У КАПЦЁРЦЫ

капцёрцы апратка цывільная.
— Станавіся! — каманда гучыць...
Тупат ног на пляцоўцы на пыльнай,
Жаўрукамі звініць далячынь.
І пакрочыла ўперад рота,
Аж зямля пад нагамі гудзіць,
Гулкі крок выштампоўваюць боты,
А салдаты — адзін пад адзін:
У адзенні вайсковым зялёным,
Са смяшынкай на пухлых губах,
Ў рамянях, пры бліскучых пагонах,
І пілоткі набок на чубах.
Ірванулася песня прыгожая,
Залунала над строем-ракой,
З-пад рукі пазіраюць прахожыя,
А дзяўчаты махаюць рукой.
І бярэзнік густы за сталоваю
У здзіўленні галлём зварухнуў...
Ён таксама ўранку вайсковую
Форму сёння, як я, апрануў.



**Р.**

ізноў у бары,
Што туманам
Асеннім засмужан.
Лета схіл і дасвецце,

І сонная жнівеня ціш...
На дарогах лясных,
Нібы з волава,
Выліты лужыны,
Пад нагамі сушняк
І бярозаў лісцё шалясціць.
Я іду праз гушчар,
Цераз верас
Дзябёлы і сіні
На гару Барсукову
Ля хмурых каменняў-гарбоў,
Дзе наверсе—дубняк,
Дзе трапеча журботна асіннік
І дзе неруш
Любімых табою грыбоў.
Я хаджу па харомах
Баровых і залах,
Да балота іду,
Пад густую ў загары сасну,
Дзе, паставіўшы кошык,
Ты колісь сказала:
— Прыстала...
Незнаёмы мне лес.
Пасяджу. Адпачну.
Столькі многа хадзіць
Не магу з непрывычкі...
Паглядзі — ў пазалоце
Узлескі, лагчыны, раўкі...—
З-за яловай сцяны
Прагучала сяброўак тваіх пераклічка,
І цябе і мяне паднялі,
Павялі за сабой грыбнікі...
Я іду, а сасна аб тваім,
Невыказным, шапоча,
Чаго нельга ніколі ў адно
Мне з табой спараваць...
На бярозе сініца
Прыжмурыла пацеркі-вочы,
І на ростаньківае
Мне ўслед галавой сон-трава.





Вера ПАЛТАРАН

# НА ЗЯМЛІ ПАЛЕСКАЙ

Нарыс

Мал. Ю. Архіпава.

## ЗБОРЫ Ў ДАРОГУ

Хто куды, а я — на Палессе...

Камандзіроўка — у кішэні. Білет — вось ён. Аловак... Чыстая запісная кніжка... Чыстая, настроеная на запіс, плёнка памяці, і пераключанае на прыём сэрца...

Здаецца, усё?

Не, не ўсё. Трэба яшчэ не забыцца прыняць на дарогу добрую дозу аб'ектыўнасці, каб не засцілаў вочы ружовы лірычны туман, які густа клубіцца на сцежках маленства.

І вось яны, гэтыя сцежкі,— ужо не ў думках, а перад вачамі. Петрыкаў... Стаіць ён на высокім беразе Прыпяці, у вянку сасновых бароў. Паглядзіш адсюль на шырокую спакойную раку, на жоўтыя прырэчныя плёсы, на засмужаныя зарэчныя далі, прыслухаешся, як перагукваюцца на вадзе параходы і баржы, і табе раптам здасца, што ты стаіш дзенебудзь на Уладзімірскай горцы ў Кіеве ці на Мамаевым кургане ў Валгаградзе...

Але гэта толькі здаецца. Не падобны прыпяцкія берагі ні на дняпроўскія, ні на волжскія, як не падобна сама Прыпяць ні на Дняпро, ні на Волгу. У яе свая, больш сціплая прыгажосць. Прынамсі, цяпер. А там, хто ведае, можа царыца палескіх рэк некалі і памераецца харaством з бацькам-Дняпром ці матухнай-Волгай — гэта ж па ёй мяркуецца пракласці новы водны шлях з Чорнага ў Балтыйскае мора.

Драўляны аднапавярховы гарадок патроху забудоўваецца двух-

і трохпавярховымі дамамі. Радуе вока прыветны і сціплы будынак райкома партыі і райкома камсамола. Сюды хочацца зайсці — турбота ў цябе на душы ці радасць...

## ЦЯЖКІ ГОД...

Нас, чатырох пасажыраў райкомаўскага «газіка», сабрала разам адна дарога: дабіраемся ў калгас «Бальшавік». Перад дарогай пазнаёміліся: інструктар райкома камсамола Валодзя Іваноў... начальнік вытворчага ўпраўлення Аляксандр Барысавіч Петухоў... сакратар парткома Андрэй Сямёнавіч Ляхаў... Валодзі Іванову трэба правесці ў калгасе камсамольскі сход, падварушыць трохі камсамольцаў, а то прыціхлі нешта. У Аляксандра Барысавіча і Андрэя Сямёнавіча таксама ёсць у «Бальшавіку» нейкія свае справы і, відаць, пільныя, калі спатрэбілася ехаць адразу абодвум...

Трымціць, лапоча над галавою старэнькі, паліналы брызент, натужна вые матор, машына, выпаўзшы з аднае калюжыны, тут жа нырае ў другую. Эх, дарогі, слёзы шафёрскія! Колькі вы ўкарацілі веку машынам!.. Гэта ж каб сабраць усе тыя грошы, якія трацяцца з году ў год на рамонт разбітых па гэтых дарогах легкавушак і грузавікоў, то можна было б не тое што пазасыпаць дарогі гравіем, а пазаліваць гудронам...

Што, ці не Людзвіноў ужо гэта? Так і ёсць — Людзвіноў. Ну, то ўжо хутка і Курыцічы — цэнтр калгаса «Бальшавік», бо Людзвіноў — адна з яго васьмі брыгад.

Курыцічы... Некалі гэта была самая бедная вёска на Петрыкаўшчыне. Зямлі тут было мала. Ды і якая тая зямля — адны пяскі! А кругом, як вокам акінуць, ляжалі непраходныя балоты. Чаго-чаго, а ўжо лазы на лапці хапала. Ідзе, бывала, курыкавец у госці ў Бабунічы ці там Міхедавічы, за плячамі ў яго торба і нешта ладнае ў ёй целяпаецца. Што ж, мо чалавек гасцінец які нясе сваякам... А-ай, ліха яго мела, таго гасцінца — лапці там ляжаць, новыя, лазовыя: няхай сабе, усё не пустая торба...

Пазней ужо, у савецкі час, Курыцічы славіліся сваімі музыкамі. Жылі тут на ўсю Петрыкаўшчыну славутыя Пятры — адзін граў на скрыпцы, другі — на кларнеце, а трэці ў іх быў барабаншчык—на бубне падбіваў. Раскошная, я вам скажу, была па тым часе музыка!.. Як урэжуць, бывала, дзе на вяселлі марш, калі маладая са сваёй маткай прашчаецца,— дык, здавалася, не тое што людзі — зямля стогне ад жалю.

Не вярнуўся з вайны ніводзін Пятро. І ніхто не ведае, дзе яны палеглі і якія вятры граюць ім свае вечныя песні...

Ну, скажы ты, якія чэпкія гэтыя ўспаміны! Усплывае ў памяці адно, за ім пацягнецца другое... А тут вось яна ўжо і кантора. Прыехалі.

У пакойчыку, адгароджаным ад канторы фанернай сценкай, насустрач гасцям устае з-за стала высокі, у гадах, мужчына з разумнымі, праніклівымі вачамі.

— Лундзін, старшыня калгаса,— ён перш падае руку незнаёмай кабеціне, якая невядома адкуль і чаго прыехала, а потым нетаропка, паважна вітаецца з мужчынамі. Ні роспытаў, ні звычайнай у такіх выпадках мітуслівасці — адна добразычлівасць ды, схаваная недзе ў самай глыбіні вачэй, мужыцкая хітраватасць: маўляў, калі прыехалі, то не дзе дзенецеся, самі скажаце, чаго...



— Я, Мікалай Рыгоравіч, сход хачу правесці камсамольскі,— першы пачынае Валодзя Іваноў.

— Прыйдзецца адкласці, Валодзя. Ужо другі дзень у нас няма святла. Генератар новы ставім.

— То, можа, пры лямпах...

— А дзе яны?

— Ну, у людзей...

— Схадзі пашукай... За гэтыя дзесяць год, што ў нас свая электрастанцыя працуе, людзі ўжо забыліся, якія тыя лямпы...

— Што ж рабіць? — Валодзя хвіліну заклапочана хмурыцца, а потым рашуча кідае: — Паеду ў Смятанічы, там правяду, а ў вас — калі назад буду ехаць...

І толькі мы яго і бачылі, Валодзю Іванова...

— Ты, Мікалай Рыгоравіч, у гэтым годзе колькі цялят закантрактаваць думаеш? — пытаецца Аляксандр Барысавіч, падсоўваючыся бліжэй да старшынёвага стала.

— Галоў трыста...

— Трыста? — Аляксандр Барысавіч пераглядваецца з Андрэем Сямёнавічам.— А не мала гэта?

— Сказаў бы хоць пяцьсот — ваш жа «Бальшавік» цяпер спецыялізаванай жывёлагадоўчай гаспадаркай будзе. А ў цябе жывёлы на сто гектараў...

— Прабачце, Андрэй Сямёнавіч. Як гэта я буду гаварыць тое, чаго зрабіць не магу?.. Ну, закантрактую пяцьсот галоў, ды цяпер у нас 1 380. Пракормім мы такі статак?.. Вось пра што трэба думаць... А так, цяпер купляй, падганяй пад запланаваную колькасць, а вясной, худых, дохлых, прадавай... Каму яна патрэбна, такая музыка?..

— Ну, ты ўжо, бедны, не пракорміш...— смяецца Андрэй Сямёнавіч.

— Мы падлічылі, колькі пракормім... А на той год яшчэ пашырым кармавую базу і адпаведна — павялічым колькасць кароў. Праз два гады ў нас будзе тысяча галоў аднаго матачнага пагалоўя. Такім чынам, дойдзем да запланаванай на сто гектараў колькасці. Сумленна, без рызыкі.

— Та-ак... А цяпер як у цябе з кормам? — раптам паварочвае гаворку ў другі бок Аляксандр Барысавіч.

Мікалай Рыгоравіч хвіліну маўчыць. На твары яго паяўляецца ледзь прыкметная хітраватая ўсмешка, якую можна зразумець прыкладна так: «Ну вось... з гэтага і пачыналі б...»

— Корм?.. Ёсць яшчэ трохі,— неахвотна адказвае ён.

— Дык, можа, даў бы яшчэ тоны са дзве сена?..

— Слухайце, Аляксандр Барысавіч... Андрэй Сямёнавіч... Вы ж ведаеце, колькі я ў гэтым годзе перадаваў людзям сена... Самім жа трэба дацягнуць да травы....

— І ты паслухай, Мікалай Рыгоравіч, — голас у Аляксандра Барысавіча цвярдзее.— Ты ж ведаеш, у якім становішчы раён... Памажы людзям...

Мікалай Рыгоравіч устае і пачынае хадзіць па пакоі з кутка ў куток. Падымаюцца і госці.

— Дык што, прысылаць па сена?.. — пытаецца Аляксандр Барысавіч.

— Прысылайце, — неяк сумна гаворыць Мікалай Рыгоравіч і ўздыхае.

— Мы табе канцэнтратаў падкінем. Атрымаем скора... Чуеш, Мікалай Рыгоравіч?.. Ну, будзь здароў!

— Шчасліва. Куды ж вы цяпер?

— Як куды? У нас цяпер адзін клопат...

Ля ганку завуркатала машына. Гул матора аддаляецца, цішэе. Паехалі...

Мы маўчым. Ды і што тут скажаш?

— Вось жа трудны выдаўся гэты год, — Мікалай Рыгоравіч падыходзіць да стала і цяжка апускаецца на крэсла.— У нас тут кругом балота. Што і паспелі скасіць, то згніло ў пракосах. Не было ж ніводнага пагодлівага дня за ўсё тое лета. І вясна, бачыце, якая: палавіна красавіка, а снег і не думае таяць...

— Ну, добра, а ў вас хіба дажджы не ішлі? Ці «Бальшавіку» па заказу свяціла?

— Свяціла, як усім, ды мы тут угадалі пасеяць тое, што дажджу не баіцца.

— Як жа гэта вы ўгадалі?

— Ну, так гаворыцца... Добры аграном заўсёды ўгадае. А наша Шура Кавалеўская якраз з такіх. Ды і сам я аграном... Дык вось, я ж кажу, пасадзілі мы буракі цукровыя — вельмі добрыя параслі. Кукуруза... хоць яна і любіць сонца, але ў нас і ў мокры год парасла нядрэнная — сілас яшчэ і цяпер на фермы возім. Ды бульба, гарох, боб... Ну, а для сеяных траў пагода была, як па заказу.

— Во-во... Такі мне і казалі ў раёне, што старшыня ў «Бальшавіку»— моцна за траваполле трымаецца...

— Хто гэта вам казаў? — Мікалай Рыгоравіч насцярожваецца, у вачах яго загараюцца нядобрыя агеньчыкі. — Ведаеце, ёсць такія людзі: сваёй галавы ў яго на плячах няма, дык ён толькі тое і робіць, што прынюхваецца, адкуль вецер падзьме. Сёння пакрытыкуюць тых, хто праз меру траваполлем захапляецца, дык ён першы ў сябе ўсе без разбору травы — пад корань, заўтра каго другога паправяць — ён і тое падхопіць, не падумаўшы, не разабраўшыся. А што выходзіць?.. Ды тут во дзве брыгады побач, а зямля ў іх розная. Трэба з гэтым лічыцца?.. Трэба, бо зямля чаго не любіць, тое не родзіць... Ну, дык, можа, пад'едзем ды паглядзім, чым у траваполынчыка жывёлу кормяць?..

— Пакрыўдзіліся, Мікалай Рыгоравіч?

— За што?.. Каб я за ўсё крыўдзіўся... Коля! — стукае ён у фанерную перагародку. — Паехалі...

Едзем па ціхай шырокай вясковай вуліцы. Па абодва бакі — хаты, з гародчыкамі, з садкамі. На платах сушыцца бялізна. Спакоем і даўнасцю павявае ад гэтага знаёмага з маленства свету.

На ўзгорку, непадалёку ад просценькага, пафарбаванага абеліска, ляжаць кучы бярвення, цэглы.

— Што гэта будзе, Мікалай Рыгоравіч?

— Гэта?.. Гэта будзе кантора — з агранамічным кутком, з пакоямі для парторга, агранома, бухгалтара і старшыні, вядома. Вы ж бачылі, якая ў нас цесная кантора?.. Лесу і цэглы навазілі яшчэ калі, а цвікоў і па сённяшні дзень дастаць не можам. Скажыце вы мне, дакуль гэта будзе? Лес і цэгла — не праблема, а цвік — праблема. Ды яшчэ якая!.. А вунь там, налева,— голас у Мікалая Рыгоравіча становіцца мяккі, лагодны...— Гэта нашы новыя механічныя майстэрні... Коля, завярні!..

Мы пад'язджаем да вялізнага, з добры двухпавярховы дом, цаглянага будынка. І знадворку ён, як кажуць, мае выгляд, а ў сярэдзіне... Паравое ацяпленне, механічныя пад'ёмнікі, добрыя стэнды, спецыяльныя «кабінеты» — такарны, слясарны, электразваркі... А святла, а прастору!..

— Ну, і колькі ж вам абышлося гэтае апошняе слова тэхнікі?

— Дзёшава,— задаволена ўсміхаецца Мікалай Рыгоравіч.— Лічыце, што мы яго пабудавалі на сэканомленыя сродкі. Як гэта?.. А так... У нас у калгасе чатырнаццаць грузавых машын, шаснаццаць трактараў, чатыры збожжавыя і чатыры сіласаўборачныя камбайны, электрастанцыя, млын, піларама. Я ўжо не лічу малатарань, сячкарань і іншай драбязы... «Сельгастэхніка» бярэ за рамонт трактара ў чатыры разы даражэй, чым гэты рамонт каштуе нам самім. Вось і палічыце, колькі мы выгадваем кожны год на рамонце. Праўда, за гэта нам запасныя часткі даюць у самую апошнюю чаргу, але мы ўжо і да гэтага прывыклі: самі амаль усё робім. Механізатары нашы—майстры на ўсе рукі. Той жа Іван Картыннік ці Аляксандр Рудаўскі... Я ўжо не кажу пра механіка Адама Такуна. Яны ж табе што хочаш зробяць. Чулі, Андрэй Сямёнавіч пра спецгас гаварыў. Дык кірунак наш — мяса-малочны, а шлях — механізацыя, самая шырокая. Вось мы і ствараем базу. Праблему механізатарскіх кадраў мы ўжо вырашылі сваімі сіламі.

— І тэхнічную адукацыю вашы механізатары маюць?

— Ведаеце, па-мойму, самая грунтоўная адукацыя — гэта практыка. Ну, паехалі, а то мы сёння не дабярэмся да той забалоцкай брыгады. Ці не, пачакайце... Яшчэ тут у адно месца падскочым. Коля, на лазню трымай... Ды вы не смейцеся...

А які тут смех?.. На Палессі, можа, даўжэй, чым дзе, жыў стары дзядоўскі звычай: чалавека мылі два разы за ўсё жыццё — як родзіцца ды як памрэ. Праўда, цяперашнім часам палешукі мыюцца часцей, але мала хто ў тутэйшых мясцінах можа пахваліцца такою лазняю, як у «Бальшавіку». Тут нават ёсць свой абслугоўваючы персанал: машыніст і баншчык. А зроблена ўсё так, як у добрай гарадской лазні — прасторная раздзявалка, агульны вялікі зал, душавыя кабіны. А парыльня якая! Паляжаўшы з паўгадзіны на гэтым во палку, не меней як пяць гадоў з плячэй скінеш, а не пашкадуе машыніст пары — то і ўсе дзесяць...

Не, я не смяюся, Мікалай Рыгоравіч. У мяне радасна на душы, што на маім родным Палессі так хораша, так па-людску ўсталёўваецца жыццё.

Едзем, нарэшце, у Забалоцце. Ды якое яно цяпер Забалоцце, калі няма ўжо таго балота — асушылі... Пахарашэлі ад гэтага палескія краявіды. Роўныя, як стол, набрынялыя вільгаццю палеткі млява паруюць пад красавіцкім сонцам. Здаецца, дыхае чорная пульхная зямля. Зірнуць бы на гэтыя палеткі, калі тут загудуць трактары, калі калыхнецца тугою хваляй збажына...

Забалоцкая ферма — новая доўгая будыніна з вялікімі шырокімі вокнамі пры самай зямлі. Вось з-за яе выпаўз трактар з прычэпам, прасунуўся паволі да акна і спыніўся. Жанчыны набіраюць з прычэпа ў кашы цукровыя буракі, адчыняюць вокны і сыплюць туды. З вокан даносіцца ціхае, задаволенае: «му-у!» Зазіраю ў вокны: чыстыя, гладкія каровы смачна хрупаюць салодкія буракі.

Разумная галава прыдумала такія кароўнікі! Ён жа цёплы, бо да палавіны — у зямлі, светлы — вунь колькі тут вокан! Ды і наколькі тут лягчэй жанчынам працаваць. Пацягай гэтыя кашы з канца ў канец такой будыніны. А так пад'ехаў трактар, і сып сілас ці буракі проста ў кармушку. І сена гэтак жа кладзі... І гной выкідвай...

— Дзень добры, Васіль! Добры дзень, жанкі! — вітаецца Мікалай Рыгоравіч з брыгадзірам і даяркамі. — Як у цябе тут, Васіль, яшчэ ёсць чым кароў карміць?

— А чаму ж? От буракі яшчэ вядуцца, і сілас даем...

— А сена?

— І сена, канечне. А як жа?..
— Колькі яго ў цябе?
— Паглядзіце.

Васіль адмыкае адрыну. Мужчыны мераюць крокамі даўжыню сцірты, шырыню, прыкідваюць вышыню, памнажаюць... А я выцягваю каліва аўса са сцірты — тоўстае і пругкае, як чараціну, — стаўлю на зямлю... Якраз па пахі... Авёс сеялі з гарохам і вікай і скасілі на сена. Нічога сабе сянцо, падкінеш такога карове — не пашкадуе малака...

— Дык у цябе, Васіль, яшчэ тон пятнаццаць сена, — задаволена гаворыць Мікалай Рыгоравіч. — Добра. Да травы дацягнем. А там зноў будзем пра будучую зіму моцна думаць. Пасеем больш аўса з гарохам і вікай, падсеем травамі сенажаці... Само сабою, дадзім большыя плошчы пад цукровыя буракі і кукурузу — выручылі яны нас сёлета, што б мы і рабілі, каб не яны... Ды, канечне, на бульбу не паскупімся, — у тым годзе мы трохі прагадалі. Вось так яно і будзе... Быў гэта я ўчора на семінары ў Гомелі — пра асваенне тарфянікаў гаворка ішла. Дык там адзін кандыдат навук, забыў яго прозвішча, пра травасеянне лекцыю чытаў. От жа смех, чэснае слова, як ужо ён выкручваўся: хоча сказаць, што без траў нам цяпер не абысціся, і баіцца, каб часам у травапольшчыкі не трапіць... А я так скажу: ва ўсякай справе трэба разумны гаспадарскі разлік — ці то ў травасеянні, ці ў чым іншым. Шарахание з адной крайнасці ў другую да дабра не даводзіць... Ну, Коля, паедзем. Мне трэба паглядзець, як там генератар.

Машына асцярожна ідзе па коўзкай дарозе. Гэткай парою які б гарачы ні быў шафёр,— забывай на хуткую язду...

— Мікалай Рыгоравіч, вы даўно ў «Бальшавіку»?

— З пяцьдзесят дзевятага. Дваццаць восьмага лютага — нават дзень запомніў... Прыйшоў я ў гэты самы «Бальшавік», а тут — ні сянінкі, ні саломінкі... У касе — хоць шаром пакаці. Ды яшчэ доўгу 500 тысяч. І што самае горшае — людзі на работу хадзіць не хочуць. Ты яму пра работу, а ён табе сваё: «Старшыно, аддай заробленае... Дакуль мы бясплатно будзем рабіць?..» Думаеце, лёгка было слухаць гэта?.. Пагаравалі мы ў той першы год. Але дзе якую капейку выгадаем, то і тую раздзелім: гэта — на гаспадарку, а гэта — таму, хто робіць. З гэтага і пайшло... Людзі тут працавітыя... Залатыя людзі. За калгаснае дабро душой хвараюць. Неяк не ў мінулае, а яшчэ ў тое лета здарылася ў нас бяда: маланка запаліла кароўнік. Гэты, дзе мы цяпер былі. Позна ўночы. Прымчаліся мы туды — полымя аж гудзе. Выйшаў я з машыны — і зямля ў мяне паплыла з-пад ног: восемдзесят кароў!.. Потым чую, нехта мяне за рукаў торгае: «Старшыно, апомніса... Мы павыводзілі кароў... Усіх да аднае...» Толькі тут я адчуў, што жывы. І людзей убачыў. Адкуль яны тут узяліся ў такі позні час? І як паспелі дабегчы — ферма ж далекавата ад вёскі... Коля, глядзі, ці не Адам гэта выходзіць з канторы? Давай, гані...

— Адам, што там з генератарам?

— Іскру не ўсюды роўна дае. Што мы ні рабілі...

— Слухай, Адам, бяры машыну, едзь у Петрыкоў ды прывязі таго п'яніцу... Чаго думаеш? Чакаць больш нельга — стаіць жа ўсё каторы дзень.

У мяне ўжо гатоў быў сарвацца з языка жарт: «Мікалай Рыгоравіч, у вас жа праблема тэхнічных кадраў вырашана поўнасцю...» Але я зірнула на заклапочаны, стомлены старшынёў твар, на якім разам адбілася прыкрасць і засмучэнне, і ахвота жартаваць адпала.



## ВЯЛІКІ ЧАЛАВЕК



Цётка Насця падпаліла ў печы, унесла ў хату кош бульбы і высыпала ў таз з вадой. Вось дык бульба! Чатырыпяць бульбін — і поўны чыгун. Ды не той пабляяны, у якім вараць есці сабе, а вядзёрны! Цётка Насця рэжа бульбу на кавалкі, каб больш улезла ў чыгун, і расказвае:

— Ето яшчэ малая... Лето мокрае було... А то ж як парасце каторы год — і кош не трэба: кладзі на руку, як паленне, і нясі.

У печы ўгараюцца дровы, у комін шугае вясёлае барвовае полымя. Пахне дымком, пралітаю на цэглу вадою, кіслым цестам. Цётка Насця падсоўвае да прыпечка ўслончык з дзежкаю і ставіць у печ, на гарачае вуголле, скавараду.

— А яшчэ жыто ў нас расце моцно дабрэннае,— упраўляючыся ля печы, расказвае яна.— Спячэш хлеб, дык як булка. Калі праўду сказаць, то ўсё добра расце на нашых тарфяніках. Цераз іх мы і ў людзі выйшлі. І яшчэ цераз свайго старшыну. От бо чалавек справядлівы! І да людзей добры...

На ганку нехта шкрэбае падэшвамі: мусіць выцірае ногі. Бразгаюць адны дзверы, другія, і на парозе паяўляецца малады бялявы мужчына ў ватоўцы з рудаватымі плямамі мазуту.

— Дзень добры!

— Добрага здароўечка!— адзываецца ад печы цётка Насця.— Што ты нам скажаш, Віця?

— Дай мне, Насця, мяхоў. Жыто хочу палучыць.

— Ты яшчэ не палучаў?..

— Не трэба було, то і не палучаў... А ты свае ўсе палучыла?

— Картопель не палучала. Не було куды сыпаць: пограб сваімі з агарода засыпалі... Не чуў, не раскрывалі буртоў?

— Не, не чуў.

— Сколькі ж табе мяхоў даць?

— Сколькі не шкода. Дай шэсць... Дзякуй, заўтра прынясу...

— Ето ж мой стрыечны брат,— гаворыць цётка Насця, калі за Віцем зачыняюцца дзверы.— На трактары робіць. До-обра зарабляе...— Міхаліно! — гукае яна ў чысты пакой, дзе маладая танклявая дзяўчына засцілае ложкі.— Занясі ты брату гладышачку малака, я там наліла... У іх жа кароўка яшчэ не ацялілася...

Міхаліна завязвае хустку, надзявае ватоўку і выходзіць з хаты.

— Калі ж шкода ўсіх,— уздыхае цётка Насця.— Ето ж Міхаліна і яе брат — сіраты, сястры маёй дзеці. Бацьку на вайне ўбіло, а маці памерла... Так пры мне і гадаваліся. Сваіх дзяцей у мяне няма... Було, праўда, адно, ды памерла, даўно, яшчэ да вайны...

На ганку зноў чуваць нечыя крокі, і ў хату заходзіць жанчына з бляшанаю міскай пад пахай.

— Добры дзень!

— Добрага здароўя!— цётка Насця, павярнуўшы ў печы скавараду, глядзіць на жанчыну.

— Ето чаго я да цябе прыйшла, Насця... Налажы ты мне місачку капусты. У цябе смачная...

— Давай налажу.

Цётка Насця бярэ з рук у жанчыны міску, і яны выходзяць у сенцы; хвілін праз колькі яна вяртаецца ў хату, выціраючы фартухом рукі.

— Упадабалі жанкі маю капусту. Няхай ядзяць на здароўе, я не шкадую. Самой усяк жыць прыходзілася — і адной, і па людзях цягацца, ды яшчэ ў тую чортаву Германею трапіць... О-ой, ето ж каб каму расказаць...

Цётка Насця адстаўляе ад агню гаршкі, адцягвае скавараду, і, абапёршыся на вілачнік, доўга стаіць моўчкі, пазіраючы некуды далёка, мабыць, у свае маладыя гады.

— Жытка мая была нялёгкая,— сумна ўздыхае яна.— Расла я ў такой беднасці, што і спомніць страшно. Замуж пайшла маладая, ды не пайшло мне на дабро тое замужжа. Буў у нас тут адзін чалавек. Бага-ато жыў! Мы, маладыя, усё да яго ў заработкі хадзілі. Ну-к, прыгледзеўся ён, што я да работы такая падкая, ды і прысылае сватоў: за сына сватаць. Падумала я, паразважала сваім дурным розумам, ды і рашыла — пайду: можа хоць кавалку хлеба жадна не буду... О-ох, доўго ж мне ад таго хлеба ў роце горко було...

І года я не пражыла замужам, як пачалося раскулачванне. От тут я і агледзелася, куды завяла мяне ліхая доля. Агледзелася, і загаласіла — моцно, на чым свет стаіць: «А якое ж ліхо несла мяне ў етую хату... А што ж я буду рабіць — у мяне ж скоро малое будзе...»

Пашкадавалі мяне добрыя людзі, не выслалі з тою сям'ёй. Аддалі бацьку з маткай на парукі, пакуль дзіця родзіцца...

Стала я зноў жыць у бацькавай хаце — ні дзеўка, ні ўдава. Бувало, дзе ні іду, што ні раблю, а ў душы адзін страх, адна трывога: от скажуць — збірайся... от скажуць... І тое дзіця маё то мне нямілае робіцца, то аж заходжуся ад жалю да яго...

Ну, радзілася дзіця... Месяц праходзіць — ніхто мне нічога не кажа. Паўгода... год... Ціхо. Так і мінулася тое ліхо.

Дзіця не доўга пажыло на свеце, памерло, і засталася я адна. Було мне тады семнаццаць-васемнаццаты год, і людзі казалі, харошая була... Пачалі мне трапляцца і хлопцы, і мужчыны, але хто раз апёкся, той доўга будзе студзіць на рану.

Неяк перад самай ужо вайною трапіўся мне харошы чалавек. Пажаніліся мы з ім, ды пажылі нядоўга. Пачалася вайна, яго забралі ў армею, і я зноў засталася адна.

Але самае большае гора я пабачыла, калі сюды прыйшлі немцы. Не давядзі божа, каб ето калі вярнулася... Спалілі яны нашы хаты, людзей многа пабілі... Бачым мы — бяда, і давай у лес уцякаць. Пакапалі там сабе зямлянкі і сядзім, як тыя краты. А тут — аблава за аблаваю, аблава за аблаваю... І да таго, бувало, заганяюць етых бедных людзей, што ўпадзеш дзе ля купіны і — сілы няма падняцца. Але ж як стрэляць блізка, то адкуль тая і сіла бярэцца — падхопішся і ляціш без душы, як заяц...

От так загналі яны нас аднаго разу ў страшно гразкае балото. Сядзім мы ў тым балоце — хто аберуч абшчапіў паваленае дрэва, хто за куст учапіўся. А каля нас усё нешта шлёп-шлёп у ваду, шлёп-шлёп... Што за ліхо?.. Прыгледзелася, аж ето курыныя галовы ў твань ляцяць — немцы на беразе курэй на абед рэжуць... А мы галодныя, перамерзлі ў вадзе, дрыжым. Ды і дрыжаць баімся — бераг жа блізка...

Зварылі яны абед, наеліся, а тады сабраліся і некуды пайшлі. Мы падаждалі яшчэ трохі — ціхо... Вылезлі мы з таго балота ды і кінуліся да сваіх зямлянак — там у нас трохі круп було: голад, ён жа, бувае, і за смерць страшнейшы. Тут, ля зямлянак, яны нас і акружылі... Тых, хто ўцякаў, перастралялі, а астатніх — на станцэю, ды — ў вагоны, ды — у Германею... От тады і той наш лес, і тыя нашы багны мне здаліся раем. Ну і што ж, што було страшно — схавацца ж можна було: лес кругом свой, і зямля свая. А тут... Ведаеце, не магу я пра ето...



Цётка Насця адварочваецца да печы і доўга б'е чапялою па галавешках. Потым бярэ з паліцы талерку, нож і моўчкі выходзіць з хаты.

Ціха патрэскваюць галавешкі ў печы, сіпіць каля гаршкоў гарачае вуголле, мерна, адна за другою, падаюць з вядра ў таз важкія кроплі вады. Цішыня. Спакой. І ніщто не напамінае аб тым, што ў гэтай цішыні і спакоі жыве вялікі чалавечы боль.

Вось каб яго не трывожыць... Каб як не трывожыць яго...

Цётка Насця вяртаецца ў хату, несучы на талерцы кавалак сала і яйкі.

— Загаварылася і пра снеданне забула,— вінавата ўсміхаецца яна.— Здаецца ж, і даўно тое було, а от не забуваецца... Ето ж вярнуліся мы, хто — з лесу, хто — з армеі, хто — з Германеі, глядзім, няма нашага сяла, адзін бур'ян, як мора, калышацца. Пабедавалі мы, паплакалі ды — за сякеры, за лапаты... Ой і рабілі ж людзі! Як падумаеш, дык адкуль у іх столькі сілы бралася. Галодныя, халодныя, а не було ім ні дня, ні ночы. Палажылі сілы на етае балото, але ж затое што ні пасееш, што ні пасадзіш — расце, як на дражджах. Ето ж ці не траім чалавекам з нашага калгаса Героя далі... Пастойце, успомню. Рудаўскаму, Сітніцы і Будай...— траім! А ардэяны дык многа ў каго ёсць...

Цётка Насця хвіліну памаўчала, а потым неяк сарамліва і збянтэжана ўсміхнулася і сказала:

— То можа ж і ў мяне нешта ёсць... От я вам пакажу...

Старанна выцершы ручніком рукі, яна пайшла на чыстую палавіну, прынесла адтуль нешта загорнутае ў белую хусцінку і пачала асцярожна разгортваць. На твары ў яе свяцілася ўсё тая ж нясмелая, сарамлівая ўсмешка, а рукі ледзь прыкметна дрыжалі.

— От,— працягнула яна маленькую тоненькую кніжачку, зверху якой ярка бліснуў чырванню і срэбрам ордэн.

«...Грэська Анастасія Іванаўна... ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга... 31 мая 1952 года...»

— Цётка Насця, дык вы ж вялікі чалавек!

Цётка Насця збянтэжана бліснула затуманеным слязою позіркам, пачырванела і пачала хутка загортваць свой скарб у хусцінку...

Праз момант яна ўжо развязвала мяшэчак з насеннымі гарбузікамі:

— Пазабаўляецеся, як будзе час... А цяпер будзем снедаць. Вунь і Міхаліна ідзе... Міхаліно! — пастукала яна ў шыбу...— Заві старого... Ето ж я вам яшчэ не сказала... Чалавека я сабе ўзяла. Няма ўжо ў мяне сілы ні дроў насекчы, ні сена кароўцы ўкасіць... То няхай памагае... Ох, толькі ж моцненько хочацца, каб усё добра було...

Я пазіраю на цётку Насцю і кажу ёй моўчкі, адною душой:

«Няхай у вас усё будзе добра, цётка Насця, харошы вы мой, вялікі чалавек...»

## У ЦЯБЕ ХАРОШАЕ ІМЯ, МІХАЛІНКА

— Вы ў каго жывяце? — пытаюцца жанкі, сустрэўшы мяне раніцай на вуліцы ля праўлення калгаса.

— У цёткі Насці Грэська.



— Ето ў якое ж Насці?

— Ну, у Міхаліны...

— А-а, у Міхаліны! Ве-едаем...

Цётцы Насці пяты дзесятак год, Міхаліне — два дзесяткі вёсен.

Курыцінскіх дзяўчат бог не абдзяліў прыгажосцю, а Міхаліну сярод іх прыкмеціш адразу. Зайдзі ў клуб у суботу ці ў нядзелю, калі сюды збяруцца дзяўчаты з усяго калгаса, дачакайся, пакуль гарманіст сыпане вясёлую польку, ды і прыкмячай: católaя з дзяўчат, пайшоўшы ў танец, запаліць і ў цябе зямлю пад нагамі, то гэта і будзе Міхаліна. Ну, а калі каму яшчэ ўдасца зазірнуць у Міхаліміны вочы,— вясёлыя, з залатымі іскрынкамі, прамяністыя,— той не ўтрымаецца, каб не сказаць самому сабе са здзіўленнем: «Харо-ошая дзяўчына. Слаўная...»

Недзе там, каля гадзіны ночы, гарманіст, пашаптаўшыся з загадчыкам клуба, зайграе марш. Міхаліна, незадаволена нахмурыўшы цёмныя тонкія броўкі, пагардліва скажа:

— І ето мне танцы!... Калі ўжо можна будзе пагуляць па-людску, хаця б да трох...

Але танцы — танцамі, а так не бывае, каб у вёсцы, дзе людзі добра ведаюць адзін аднаго, чалавека паважалі толькі за тое, што ён хораша танцуе. Тут ёсць яшчэ нейкі сакрэт. Трэба ў людзей папытацца.

Міхаліна была яшчэ малая, калі памёрла яе маці. Цётка Насця гадавала яе і ў школу выпраўляла, і вельмі хацелася цётцы, каб Міхаліна вучылася. Але дзяўчына скончыла шэсць класаў і ў школу больш не пайшла. Што тут была за прычына, сказаць цяжка. Ці то большыя дзяўчаты, з якімі яна падружыла і якія хадзілі ўжо не ў школу, а на вячоркі, пацягнулі яе за сабою, ці то сіротчая доля прымушала дзяўчыну хутчэй станавіцца на свае ногі — хто яго ведае. Але ні ўгаворы настаўнікаў, ні цётчыны просьбы і грозьбы — нічога не памагло: Міхаліна ў школу не вярнулася, а пачала хадзіць на работу ў калгас. Працавала яна разам з дарослымі жанчынамі, і не раз ёй даводзілася чуць, як тыя незадаволена перагаворваліся між сабой: «Дзіця горкае... Ужо яно наробіць...» Міхаліна старалася, як толькі магла, і ёй было крыўдна слухаць гэта: ці ж яна вінавата, што ў яе яшчэ не такая, як у іх, сіла...

Неяк аднойчы Міхаліна схадзіла ў Петрыкаў і, вярнуўшыся адтуль, паказала цётцы Насці новенькі пашпарт. Цётка ўзяла пашпарт, паглядзела на Міхаліну, вусны яе задрыжалі, з вачэй пасыпаліся слёзы.

— От, мае дзеткі, і пагадавала я вас... То адзін у армеі, цяпер ты некуды збіраешся... Застануся я адна.

Міхаліна поўнымі слёз вачамі зірнула на цётку Насцю, узяла з яе рук пашпарт і паклала яго ў шафу. Што ж, дарэмна старалася. Столькі выхадзіла, столькі выпрасіла... Відаць, тая дарога, па якой суджана хадзіць, праходзіць недзе тут, недалёка ад цётчынай хаты.

Міхаліна зноў пачала дзень пры дні хадзіць на работу — і на поліва, і на сенакос, і на жніво — і так старалася, так цягнулася за старэйшымі, што тыя аж здзіўляцца пачалі: «Бач ты, малая, а якая цягавітая...»

Ішоў месяц за месяцам. Міхаліна ўцягнулася ў работу, і цяпер ёй было ўжо лягчэй. А тут і час павярнуў на лепшае: у калгас прыйшоў новы старшыня — Мікалай Рыгоравіч Лундзін. Адразу павесялела ў Курыцічах.



Знайшлася ў Мікалая Рыгоравіча работа і для маладых дзяўчат. Іх сабралі, пагаварылі, і неўзабаве семнаццаць заўзятых танцорак і песенніц сталі называцца агароднай брыгадай.

Агародніцы ўзяліся за работу з усёю душой. Усё роўна, калі ў клубе закончыліся танцы — у дванаццаць ці ў дзве гадзіны, з сонцам дзяўчаты ўжо на нагах. Міхаліна забяжыць па сваю неразлучную сяброўку Джэму Рог ці Джэма па яе, а там глядзіш — выходзяць з двароў дзяўчаты то адна, то другая. Пазяхаюць — не выспаліся. Ідуць на поле, і кожная сама сабе думае: «Ну, ужо сёння нікуды не пайду. Хоць высплюся». Ды хто не ведае, што гэтыя добрыя намеры — толькі да першага рыпу гармоніка...

Разыдуцца кожная на свой участак — і за работу. На Міхаліміным участку пасеяна морква, ёсць трохі буракоў і гуркоў. Яна глядзіць на роўныя, у яркім зіхаценні расы радкі пасеваў і дзівіцца: як падрасло ўсё за ноч... А зелле дык проста на вачах з зямлі лезе. Няхай бы прыдумалі тыя вучоныя людзі і на яго якую раду. Вунь лён — апыляць яго нечым, і павяла пустазелле, пасохла. А тут жа не ўпраўляешся з ім ваяваць: толькі канчаеш першую праполку,— і адразу ж вяртайся ды бярыся за другую. А там і за трэцюю... Ужо не ведаеш, як і поўзаць сярод гэтых радкоў — і на каленцах, і прысеўшы, і нагнуўшыся... А так бы прайшоўся з палівачкай ці з якім апыляльнікам, і ні спіна табе не адзеравянела б, ні рукі... Э-э, ды пакуль тое будзе... Міхаліна прысела між зялёных радкоў і пайшла, пагнала з канца ў канец поля, толькі трашчыць-порацца зацвярдзелая скарынка зямлі ды мякка сыкае, падаючы ў кучу, росная, у пяску трава.

Добра працавалася б раніцай, каб не гэтая камарэча. А то ж во накінуліся, во абляпілі — і рукі, і ногі, і твар... Міхаліна падхопліваецца, дастае з кішэні запалкі, бярэ смаляк ці галавешку і, падпаліўшы, кладзе перад сабою. Азіраецца на дзяўчат — па ўсім полі ля схіленых у рабоце постацей курацца тонкія шызыя дымкі... Міхаліна зноў бярэцца за поліва, адной рукой вырываючы зелле, а другой пасоўваючы перад сабой дымную галавешку.

Яно і дым гэты — не вялікая прыемнасць, але што ты зробіш, калі нашы вучоныя, якія часта друкуюць у газетах артыкулы: «Хімія — сельскай гаспадарцы», яшчэ не дабраліся да палескіх камароў. Вось бы іх сюды... Ды смаляка не даць у рукі і паадбіраць «Антыкамарын», якім яны, вядома, запасліся б у мінскіх аптэках, бо ў Курыцічах яго няма. Гэта быў бы моцны стымул для работы ў вельмі патрэбным кірунку...

Поле Міхаліна моркву, дым вочы есць, а тут жа трэба добра прыглядацца, колькі каліўцаў вырваць, а колькі пакінуць, каб ім было вольна расці. Залішне прарэдзіш — недабярэш увосень ураджаю, загусціш — зноў жа толку будзе мала: збуяе морква, толькі адно цяўе парасце.

— У Міхаліны — ювелірная работа. Ужо калі яна прайшлася па полі, то на ім застанецца роўна столькі каліваў, колькі трэба — ні адным больш, ні адным менш,— смяецца Мікалай Рыгоравіч.— У Гомелі на семінары па асваенню тарфянікаў пра сорак тон морквы з гектара гаварылі, як пра нейкае дзіва. А наша Міхаліна летась тыя сорак тон узяла са сваіх шасцідзесяці сямі сотак. Ды і астатнія дзяўчаты з агародняй брыгады не на многа ад яе адсталі. Гэта, я вам скажу, такія работніцы...

Добрая Міхалініна слава даўно перасягнула межы яе роднага «Бальшавіка». У дзевятнаццаць год Міхаліна Качэля была ўжо дэпутатам райсавета. Яна ж — удзельніца ўсіх абласных нарад перадавікоў сельскай гаспадаркі і,— бярыце вышэй,— дэлегат XXIII з'езда камсамола Беларусі. Міхаліне — гадзіннік, Міхаліне яшчэ ўсялякія прэміі. І куды

ні павярніся — усюды пачуеш з любоўю і павагай сказанае: «О, наша Міхаліна! Залатыя рукі!»

Трымаючы пад пахай адну газету і на хаду разгортваючы другую, Міхаліна пераступае парог хаты і тут жа звыклым позіркам прабягае па газетных палосах.

— Во, сёння хоць будзе што чытаць. Расказ надрукавалі. Я люблю, калі пра людзей расказваюць... Наце, пакладзіце,— працягвае яна газеты цётцы Насці і бярэцца за клямку.

— А ты куды? Абедаць жа будзем...

— Я зараз. Карова па двары ходзіць... Заганю...

Трымаючы руку ў кішэні, з якой выглядвае белы ражок канверта, Міхаліна хуценька выскоквае за дзверы.

— Мо пісьмо? — ціха пытаецца цётка Насця. — Ето ж зімою сваты прыходзілі. Дык сказала — падумаю...

Вяртаецца ў хату Міхаліна. Яна скідае і вешае на цвік ля парога жакетку, хустку, мые рукі, і ўсё гэта робіць ціха, павольна, нібы прыслухоўваючыся да нечага ў сабе самой. Потым бярэ ручнік і, пазіраючы некуды далёка ў акно, задуменна гаворыць:

— Чаму мяне назвалі — Міхаліна?.. Няхай бы ў мяне было нейкае харошае-харошае імя...

Мы з цёткай Насцяй моўчкі пераглядваемся: старая, як свет, і новая, як кожны новы дзень, песня...

## ЗНАЁМСТВА, ЯКОЕ НЕ АДБЫЛОСЯ

Яшчэ зусім рана— толькі развіднела. Мы не паспелі навесці сякі-такі парадак у хаце, як да нас ужо завітаў госць. Ён жвава пераступіў парог хаты, неяк па-маладому ўвішна зачыніў за сабой дзверы і акінуў усіх нас быстрым позіркам маленькіх калючых вачэй.

Цётка Насця перастала класці дровы ў печ і пазірае на чалавека: што ён скажа.

Дзядзька частымі злоснымі крокамі тупае да стала і, нібы тут жа раздумаўшы, вяртаецца зноў да парога.

— Як ваша жонка, падужала трохі? — пытаецца цётка Насця, каб завязаць размову.

— Якая была, такая і ёе... Не трэба нядужым жыць на свеце, от што я вам скажу...

— Ну, а як вы занядужаеце?..

— Не занядужаю. Я здаровы, як косць!

Цётка Насця адварочваецца і пачынае класці дровы ў печ.

— Чаго вы топчацеся ля дзвярэй? Прайдзіце ды сядзьце,— гаворыць яна без асаблівай гасціннасці.

— Я не выседжваціа прыйшоў. Тут жа нехто, кажуць, прыехаў, то я пажалаваціа хачу, от што... Бо што тут у нас робіцца, то ето свет не бачыў...

Пры апошніх дзядзькавых словах адчыняюцца дзверы, і ў хату заходзіць наш заўсёдны ранішні госць — трактарыст Віктар. Дзядзька неяк адразу нікне, стульваецца і пачынае шукаць рукой клямку.

— Куды ж вы? Пачакайце, пагаворым...

— А-а... пра што мы будзем гаварыць?.. Хіба я вам што казаў?.. Я вам нічога не казаў,— і дзядзька мігам выкульваецца за парог.



Вечарам, калі мы зноў збіраемся ўсе разам і ў гаворцы неяк успамінаем таго дзядзьку, цётка Насця кажа:

— Мо ён яшчэ і прыйдзе...

— Не пры-ыйдзе,— смяецца Віктар.— Ето яму раніцай брыгадзір каня не даў у тую ж мінуту, як ён папрасіў... От ён сюды і пашыбаваў...



## ДЗЕ ПАДЗЕЛАСЯ ДЗЯДЗЬКАВА ДАВЕДКА

З дзядзькам Ігнатам Семяніцкім мы сустрэліся на калгасным двары. Ён дагнаў нас, усхваляваны, задыханы, і слова прамовіць не можа.

— Ты што, Ігнат Іванавіч, можа да мяне чаго? — пытаецца Мікалай Рыгоравіч.

— Да вас... і да ўсіх... — ледзь пераводзячы дух, гаворыць дзядзька Ігнат. — Мо б вы мне памаглі... Ето ж колько гадоў б'юся...

— Ты пра пенсію?..

— А пра што ж...

— Цяжкая гэта справа, Ігнат Іванавіч.— Мікалай Рыгоравіч трэ далонямі шорсткую, даўно не голеную шчаку. — Я гаварыў у раёне...

— Ну, я вінават, што так выйшло... Але няўжо нельга знайсці ніякіх канцоў?..

— Раскажы во таварышу з рэдакцыі, можа яны табе чым памогуць...

Гісторыя, якую расказаў дзядзька Ігнат, сумная і горкая.

Усю вайну праваяваў Ігнат Іванавіч Семяніцкі радавым стралковага палка. І ці то каторы з багоў моцна трымаў дзядзькаву руку, ці сам гарачы свінец меў літасць да простага палешука, які пакінуў дома кучу малых дзяцей, але дзядзька Ігнат дайшоў цэлы і здаровы да самае Віслы. Тут, на беразе польскай ракі, і развіталася з дзядзькам Ігнатам яго шчасце. 14 верасня 1944 года пры пераправе цераз Віслу вялікі, з далонь, асколак снарада пеканув дзядзьку ў грудзі і пагасіў у яго вачах святло на многа доўгіх тыдняў. Дактары і сёстры франтавых шпіталяў, якія ўсяго пабачылі за вайну, глядзелі на вялікую, глыбачэнную рану, якая ззяла на валасок ад сэрца, і толькі галовамі ківалі: як ён застаўся жывы, гэты чалавек!?.

Але дзядзька Ігнат і не думаў здавацца. Ішоў час, і чалавек усё больш упэўнена перасяляўся зноў з таго свету на гэты. Шпіталь у Растове, батальён выздараўліваючых у Чаркасах і нарэшце — перакамісія... Радавы стралковага палка Ігнат Іванавіч Семяніцкі быў прызнаны непрыгодным для вайсковай службы і адпушчаны дадому.

Вярнуўся дзядзька Ігнат у свае Курыцічы, на папялішча, глянуў у галодныя вочы дзяцей, і нібыта яго раніла другі раз — цяпер ужо ў самае сэрца... Што рабіць, куды кінуцца? Кажуць, у заходніх абласцях Украіны, дзе вайна не так спустошыла сёлы, людзі памагаюць, калі іх папросіш: то кавалак хлеба дадуць, то жменю якое збажыны. Праўда, тыя мясціны недзе за светам, але дарога салдату — не перашкода...

Дабраўся дзядзька Ігнат да тых уцалелых сёл. Што зарабіў, а што людзі і так далі, і ўжо вяртаўся дадому, як з ім здарыўся той недарэчны выпадак.

Сядзеў дзядзька Ігнат на станцыі, чакаў поезда, калі міліцыянеру раптам уздумалася праверыць дакументы. «А хто вас ведае, хто вы такія... Можа спекулянты»,— сказаў ён і пачаў па чарзе абходзіць усіх на станцыі. У дзядзькі Ігната пашпарта не было, у кішэні ляжала толькі даведка аб тым, што ён цяжка паранены і лячыўся ў шпіталі... Ён паказаў гэтую даведку міліцыянеру. Той пакруціў яе ў руках, падумаў і, сярдзіта буркнуўшы дзядзьку: «Зойдзеш у міліцыю, разбярэмся... Можа яна яшчэ і не твая», паклаў даведку сабе ў кішэню.

Калі прыйшоў поезд, дзядзька Ігнат пастаяў хвіліну ў нерашучасці, думаючы, што яму рабіць, потым махнуў рукой, узяў свой мяшок з чэрствымі кавалкамі хлеба і падаўся да поезда. Праціснуўшыся ў вагон, ён зірнуў цераз акно на гэтую нешчаслівую для яго станцыю, на міліцыянера, што стаяў на пероне, і з палёгкаю ўздыхнуў: «Ліха яе бяры, тую паперку... От хутчэй бы даехаць дадому ды даць дзецям у руку па кавалку хлеба...»

— Вось дзе падзелася тая мая даведка,— сумна гаворыць дзядзька Ігнат.— Каб жа я тады падумаў, што ето я яму свой кавалак хлеба аддаў, які мне ад гасударства, як інваліду, назначаны!.. Але што ж, калі голад не ўмее глядзець наперад... Усім з нашага сяла, хто быў цяжка паранены ў вайну, плацяць пенсію, а я ўсё хаджу, усё дабіваюся... І хадзіць мне ў той Петрыкоў ужо нялёгка — не маладзён, шэсцьдзесят дзевяць гадоў маю. Але не веру, што няможна да праўды дайсці: ето ж у нашым гасударстве... Пастойце... От памяць у мяне стала — як рэшата... Ето ж што я яшчэ хацеў у вас папытацца... От мы возім на поле гной і торф. Скінем торф, на яго — гной, а зверху яшчэ торфам прыкідаем. А я неяк чуў па радзіве, што людзі іначай робяць: кладуць гной з торфам уперамешку. То як лепш рабіць: ці так, як мы, ці як па радзіве кажуць?..

Дзядзька Ігнат зірнуў на мяне, чакаючы адказу, а мяне па самым сэрцы палаcнула вострая, як нож, думка: які ж неадольны, які ўсемагутны творчы дух чалавека!..Ён узнімаецца над усім горам, над усімі няшчасцямі свету, як вялікая гаючая сіла, якая ачышчае душу ад горычы і пакут і поўніць яе светлаю прагай творчасці...

І яшчэ мне падумалася: які ж трэба было даць разгон жыццю, якое паскарэнне, каб сённяшні паляшук, кладучы ў зямлю гной, скрозь свой будзённы нястомны клопат бачыў і чуў сэрцам усіх людзей, увесь свет...

...У Ленінградзе ёсць установа, якая носіць назву: «Ваенна-медыцынскі архіў Савецкай Арміі». Там захоўваецца медыцынская дакументацыя былых ваенных шпіталяў... Кожны дзень, дастаючы газеты з паштовай скрынкі, я шукаю сярод іх пісьма з Ленінграда. І хоць яго пакуль няма, я, як і дзядзька Ігнат, цвёрда веру: «Не можа быць, каб мы не дайшлі да праўды! Ето ж у нашым гасударстве!»

## ЦЁТКА КУЛІНА—ПАЛІТЫК

Дзень хіліцца к вечару. У акно свеціць сонца, і ў яго мяккім святле адчуваецца халадок і блізкія прыцемкі.

Цётка Насця сядзіць ля акна і спяшаецца нешта завідна дашыць.





Кравецкую работу яна не вельмі любіць, але што ты зробіш, калі жанкі, то адна, то другая, просяць:

— Пашый ты мне, Насця, кохту, а я табе грады выпалю ці яшчэ што памагу...

І хоць цётка Насця палола б грады з большай ахвотаю, аднак, сядзіць, слепіцца: і жанкам хочацца ўдружыць, і кравецкая ж слава чаго-небудзь ды варта...

Паўз акно мільгае нечая постаць. Цётка Насця, хутка сцелючы шывок за шыўком, заклапочана гаворыць:

— Не паспела... Ідзе ўжо мая Куліна...

Чуюцца прыглушаныя крокі ў сенцах, гулчэйшыя — у кухні, і праз адчыненыя дзверы ў пакой заглядвае рослая, ладная, з маладым ружовым тварам і густымі сівымі валасамі жанчына.

— Заходзь, чаго стала ў парозе? — цётка Насця адсоўваецца на край услончыка, даючы месца госці.

Цётка Куліна, не спяшаючыся, скідае ватоўку, хустку, вешае ля парогу і абводзіць усіх нас вясёлымі сінімі вачамі.

— У цябе ето, Насця, мо госці? — пытаецца яна, прысаджваючыся на ўслончык ля цёткі Насці.

— А што ж, госці...

— Здалёк?

— З Мінска.

— Добра, што Мінску да Курыціч клопат йе. Толькі дзе ж вы былі, нашы дарагія госцейкі, як у етых Курыцічах усё на грамы мералі. От тады трэба было паглядзець, а то цяпер... Чаго ты, Насця, на мяне пазіраеш?.. Я праўду люблю.

— А хто табе што кажа?.. От на, прыкінь, ці добра я рукавы ўставіла...

Цётка Куліна надзявае чырвоную квяцістую кофту, абцягвае і абгладжвае яе на сабе і, памаладзелая, прыгожая, бліскае белазубаю ўсмешкай:

— Мо які дзед і зірне...

— Дзіва што! — смяецца цётка Насця.

— О-ой, божухна-бацюхна, якія ўжо дзяды тут мне будуць на ўме, пражыўшы такую жытку... На табе, Насця, тваю кохту і дай мне з чалавекам пагаварыць.

— От вы пытаецеся, як жывём. Жывём, хлеб жуём, як той казаў, толькі нялёгка нам той хлеб даўся. Павваявалі мы са сваім балотам — ето ж яшчэ да вайны пачалі яго асушваць. Канавы тыя трэба було капаць у шырыню — паўтара метра, ды ў глыбіню метр трыццаць. Дык, паверыце, па дваццаць метраў за дзень выганялі. Ідзём, бывала, увечары дадому, мокрыя па пояс, флаг чырвоны перад сабою, як перадавікі, нясём, а рукі аж гудуць ад стомы і ногі, настуджаныя за дзень у вадзе, служыць не хочуць... А назаўтра прыйдзем, паглядзім — паддаецца-такі тое чортава балото!— дый зноў за лапаты ды на дрыгву. І асілілі-такі, не былі б то палешукі... Ведаеце, ето ж я вельмі люблю слухаць радзіва... Ну, дык слухаю другі раз і чую: то Дзень чыгуначніка аб'яўляюць, то Дзень шахцёра, то Дзень будаўніка... Я сабе і думаю: няхай бы быў і Дзень хлебароба. Праўда! Каб на мяне — я ўстанавіла б... Чаго смеяцеся? Дзень ураджаю, кажаце? Не-е, што той Дзень ураджаю... Трэба каб чалавеку гонар быў, а не снапу... Пра што ето я расказвала? Ага, як

балото асушвалі. Ну, у тыя гады мы многа паспелі зрабіць і ўжо абжывацца трохі сталі, як пачалася вайна. От ужо скоро дваццаць год, як яна кончылася, а як успомню, што прыйшлося пережыць за яе, то і сягоння сэрца ў грудзях камянее.

Дзе толькі не насіла мяне маё гора ў тыя старшныя годы! І па лесе хаваласа, калі немцы сяло спалілі, і па балотах, а ўратавацца — не ўратаваласа.

Помню, палавілі нас немцы ў лесе, запёрлі ў таварныя вагоны і павезлі ў Германею. Суткі едзем, другія, чацвёртыя... І за етыя чэцвера сутак у мяне макавай расінкі ў роце не було — толькі пальцы смактала ад голаду.

Ну, а ў Германеі рабіла ў памешчыка, па-іхняму баўера. У яго було многа парабкоў: хто са скацінаю ўпраўляўса, хто на кухні прыслужваў, а я на поле рабіць хадзіла. Прыйду, бувало, на тое поле, нягожая, галодная, абадраная, зірну ў той бок, дзе сонца ўзыходзіць, ды як загалашу... Божухна літасцівы, колькі нашых слёз на той зямлі пралілося! Каб яна мела спагаду да етых слёз, то на ёй рос бы адзін горкі цалын.

Заходзіць сонца. Па хаце расцякаюцца мяккія, шэрыя прыцемкі. Ціха гаворыць радыё. Масква перадае апошнія паведамленні.

— Чуеце? Бон... — цётка Куліна насцярожана ўслухоўваецца ў роўную, спакойную гаворку дыктара і сумна ўсміхаецца: — От напужалі чалавека. На ўвесь век. Няма для мяне цяпер страшнейшага слова, чым етае — Бон. Была я там, у тым Боне. У лагеры, за калючым дротам. Яшчэ і ето трэба було перажыць...

Аслабанілі нас з таго лагера амерыканскія салдаты.

Прыехала я ў Брэст, выйшла з чужога поезда, каб у свой перасесці, ды як глянула, што ето ж ужо наша зямля, і людзі кругом нашы, і гаворка наша, дык і не ведаю, што са мною пачало рабіцца... Не помню, як дачдалася таго поезда, як села ў вагон, толькі назаўтра глянулі на мяне жанкі, з якімі я да Брэста разам ехала, і рукамі ўспляснулі: «Ой, што ж ета з табой зрабілася?.. Глянь: ты ж сівая ўся!»

Цётка Куліна выцірае ражком хусткі вочы, прыгладжвае густыя сівыя валасы і, уздыхнуўшы, гаворыць:

— От як я са сваёю роднаю зямлёю стрэлася. Ну, а прыехала ў Курыцічы, і не пазнала іх: ні аднае хаты, ні аднаго двара, толькі вецер з канца ў канец сяла па бур'яне гуляе... Пайшла я па етаму бур'яну на сваё селішча. Стала, гляджу. І ні слёз у мяне няма, ні голасу, толькі чую, як усю мяне з галавы да ног холадам праймае.

Не ведаю, колькі я так прастаяла, як раптам нешта з бур'яну — шусь мне пад ногі. Гляджу — кот. Наш, што да вайны ў нас жыў. «Коцічак мой, коцічак...» — нагнулася, каб яго пагладзіць, а ён як фыркне ды — у бур'ян. Глядзіць адтуль, па ўсім відно — пазнаў, але страх мацней за етую памяць. Так ён больш ніколі і не пайшоў у хату, як мы потым яго ні звалі. Мы ўсё дзівіліся: ето ж, мусіць, бедны, нешто такое страшнае перажыў, што ўся яго каціная прырода перамянілася, і ён не цягнуўся больш ні да чалавека, ні да цёплага кутка.

Каб расказаць, як мы тут, на етых папялішчах, жыць пасля вайны пачыналі, то не хапіла б усяе ночы. Не було ж у нас ні каня, ні вала — усяе тае і скаціны на ўсё сяло, што мой кот. То, бувало, упражэцца баб дванаццаць у плуг, а я іду за плугам, на хаду адваленую скібу нагой прытоптваю ды яшчэ і пагукваю: «Но-о, жаначкі, но-о! Весялей, мае конікі, варушыцеся!» А тыя «конікі», галодныя, цягнуць-цягнуць, выб'юцца з сілы, пападаюць у баразну ды як загалосяць! О-ой божухна-бацюхна... А сягоння—боль іх матары!—тыя, што ў тым Боне сядзяць, зноў



сюды, на нашыя хаты, пазіраюць! То як ето ты будзеш спакойны, як у цябе не будзе балець душа!

Ну, з часам перабылося, пережылося і етае гора. І калгас мы свой адстроілі, і хат сабе панастаўлялі. Толькі б і жыць цяпер — дык здароўя няма. Бачыце, якая ў мяне рука? То цяпер яшчэ нічого, а то ж распухне — як калода. Ето ж што ў мяне за праява була з етаю рукою...

Іду я неяк з работы, бачу — у адным двары людзей многа сабралася. Я — туды:

— Што тут такое робіцца?

— Карова здыхае. Сонешнікам падавілася.

— Дык чаго ж вы стаіцё, разявы, боль вашай матары? Пусціце! Закасала я рукаў, усадзіла карове руку ў горла, намацала кавалак сонешніку, змяла яго ў жмені, а тут мая карова хапіла паветра ды як сцісне сківіцы... Свету божага не пабачыла я ад болю!

Карову то я выратавала, а сама от папанасілася з етаю рукою, от папаенчыла. Правая ж, карміцелька. Пайду, бувало, палоць, параблю трохі і чую — анямела мая рука, пальцам паварушыць не магу. Тады пачынаю біць яе левай рукой ды прыгаворваць: «Рабі, гультайка, рабі! Нам з табою ніхто не наробіць!» Налупцую етак, трохі ажыве мая рука, і зноў я — за паліва ці за капаніцу.

От якая яна ў мяне выйшла, мая жытка. Пражыла я яе, і не малую, а не агледзелася, калі ето яна прамільгнула. Паверыце, другі раз і душа баліць, і рука баліць, а як гляну на белы свет, то цераз еты мой боль ён мне яшчэ мілейшы робіцца. І так хочацца, каб усё було спакойна і ціхо, што, здаецца, кінула б рынула ўсё чысценька і, як стаю, босая і проста-валосая, усю зямлю аббегла б ды агледзела: ці не гарыць дзе, ці не тлее дзе якая іскра... Ціхо... Што ето зноў там радзіва кажа? Во-во... Чуеце?.. Зноў Бон... Калі ж ён будзе, спакой на душы?..

За цёткай Кулінай даўно зачыніліся дзверы, а мне здаецца, што ў насцярожанай вячэрняй цішыні ўсё яшчэ гучыць яе ціхі, трывожны голас:

— Чуеце?.. Бон...

. . . . . . . . . . . . . .



Сінім полымем буйных верасоў гарыць на Палессі восень. Светлай ціхай журбою па адышоўшым леце журацца на курыціцкіх сенажацях стагі — іх тут сёлета гусцей, чым у мінулае лета.

І бульбы больш, і цукровых буракоў, і кукурузы пасеялі сёлета ў «Бальшавіку» — няхай мінулы мокры год і не нарабіў тут бяды, але курыцаўцы ўмеюць вучыцца не толькі на сваім, а і на чужым горкім вопыце. Глядзіш, як набіраецца новых сіл, пашыраецца і ўмацоўваецца спецыялізаваны калгас «Бальшавік», і неяк моцна верыш: быць у Петрыкаве таму запланаванаму на недалёкае будучае вялікаму масла-сыраробчаму заводу, бо на Петрыкаўшчыне такі калгас не адзін.

А глянеш на Прыпяць, як ідуць і ідуць па ёй параходы і баржы з лесам і жалезнай рудой, і не можаш не нарадавацца за тое, што гэтая ціхая палеская рака становіцца адным з моцных звенняў новага воднага шляху краіны, што гісторыя ўсё часцей і часцей пракладвае свае трасы цераз беларускае Палессе.

# ІДУЦЬ, ІДУЦЬ УДАРНІКІ...

Рэпартаж



Перазменка. Ля прахадной завода.

Раніцай, калі над шэрымі заводскімі карпусамі ўзмые ў неба гудок, да прахадной спяшаюцца людзі. Ідуць пехатой, едуць на матацыклах, на веласіпедах... У рабочых блузах плячыстыя мужчыны, хораша апранутыя дзяўчаты. Ля прахадной паток расцягваецца ланцужком — кожны спыняецца на хвіліну, каб паказаць вахцёру пропуск, і прыспешвае крок.

Ад прахадной асфальтавая дарога, па баках яе, як ганаровая варта, узняліся стройныя таполі і вітаюць прахожых, як добрых знаёмых. Спяшаюцца людзі, але ўсе яны кідаюць кароткія позіркі і на гэтыя таполі, і на Дошку гонару, дзе вывешаны партрэты перадавікоў, і на маляўнічы шчыт, на якім залацяцца словы: «Калектывы камуністычнай працы»,— прозвішчы тых, хто ўжо сёння заваяваў права называцца разведчыкам і сейбітам будучыні.

Як радкі захапляючай кнігі, як гімн новаму чалавеку, чытаюцца гэтыя лаканічныя запісы:

«Брыгада фармоўшчыкаў-ліцейшчыкаў. Брыгадзір Д. Лабкоўскі. Званне калектыву камуністычнай працы прысвоена: XII.1958 г.»

«Брыгада токараў. Брыгадзір К. Глушакоў. Званне прысвоена: XI.1959 г.»

«Брыгада токараў. Брыгадзір І. Клепчукоў...»

«Брыгада слесараў. Брыгадзір Г. Шпакоўскі...»

«Слясарна-зборачны ўчастак. Майстар Казлоў...»

«Кавальска-нарыхтоўчы ўчастак...»

Калі чытаеш доўгі спіс брыгад — калектываў камуністычнай працы, калі глядзіш на заводскую Дошку гонару, міжволі прыгадваюцца словы з вядомай песні:

Ідуць, ідуць ударнікі
Камуністычных брыгад!..

Мінула пяць год, як маскоўскія чыгуначнікі, наследнікі ўдзельнікаў першага суботніка, выступілі з новым, выдатным пачынам разгарнуць спаборніцтва за камуністычную працу.

Пяць год!

Зярняты, кінутыя на мяккае, цёплае ворыва, далі прыгожыя ўсходы. Як ручайкі сходзяцца ў бурлівыя рэкі, так праца асобных людзей і клектываў зліваецца ў магутны паток камуністычнага багацця.

І сярод кіраўцаў іх былі спачатку адзінкі. Яны — першыя ўдарнікі і брыгады камуністычнай працы — пракладвалі першыя сцежкі, яны ішлі ўперадзе. Як і ўсім разведчыкам, першаадкрывальнікам, ім было не лёгка, але яны ішлі, асветленыя натхнёнай марай, і былі ўпэўнены, што пераможуць. За першымі пайшлі наступныя. За імі — новыя і новыя атрады...

І сёння іх ужо сотні. Заўтра будуць тысячы. А неўзабаве ўсе рабочыя завода скажуць: «Мы прыйшлі да перамогі камуністычнай працы. Мы — ударнікі!»

У камітэце камсамола, куды мы зайшлі перад сустрэчамі ў цэхах, было шумна. Камсамольскія актывісты разам з сакратаром Уладзімірам Карнеевым гаварылі пра справаздачны камсамольскі сход, які меўся быць на заводзе. Раптам у пакой віхурай уляцеў яшчэ адзін такі ж няўрымслівы хлопец-актывіст і крыкнуў:

— Весляры з інструментальнага кубак адхапілі!..

— Вось малайцы! — сказаў Уладзімір Карнееў і тут жа ўзрадавана дадаў: — У інструментальным цэху камсамольцы горача змагаюцца за ўсё новае, перадавое. І спорт вельмі любяць. Нядаўна стварылі каманду весляроў, якая і выйшла пераможцам на агульназаводскім першынстве. Інструментальны ўжо другі цэх, якому прысвоена званне калектыву камуністычнай працы. Абавязкова пазнаёмцеся з людзьмі!..



Першая самастойна апрацаваная дэталь у цэху вялікага прадпрыемства. Які гэта гонар для Вечаслава Шабанава і Генадзя Капчэлава — вучняў прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча!

Інструментальны цэх. Прасторнае, светлае памяшканне. Але ў ім цесна. Цесна ад станкоў, машын. Паўз сцяну — вузкі праход, як размінуцца двум чалавекам. Стаіць роўны, працяжны гул — ля станкоў схіліліся людзі ў берэтах. Многа маладых, загарэлых твараў.

Разгаварыліся з начальнікам цэха Фёдарам Мікалаевічам Райковым. Гэта — пажылы чалавек, ветэран завода, стары камуніст. На яго вачах рос завод, перабсталёўваўся інструментальны цэх, які сёння з'яўляецца правафлангавым усяго прадпрыемства. Сёння ў цэху 190 ударнікаў камуністычнай працы. І большая палавіна — людзі крылатага камсамольскага ўзросту.

— Так, — задумліва жмурыць вясёлыя шэрыя вочы Фёдар Мікалаевіч, — выхаванне новага чалавека — нялёгкая, карпатлівая справа. Мы колькі год ужо змагаліся за высокае камуністычнае званне. Заваявалі яго. Але, скажу шчыра, работы ў нас яшчэ шмат. Яшчэ многім патрэбна, як гаворыцца, добрая даводка, каб свядомасць чалавека была чыстая, аж блішчала!..

Начальнік цэха называе адно прозвішча за другім, грунтоўна расказвае пра сваіх людзей, прыводзіць яркія прыклады таго, як гадуе іх калектыў, як памагае пазбавіцца ўсяго благога, наноснага.

Вось адзін з прыкладаў. Георгі Шпакоўскі. Ударнік камуністычнай працы. Брыгадзір. Наватар. Выступіў з пачынам: «Навучыся сам — памажы таварышу!» Пад яго наглядам пяць маладых рабочых павысілі разрад. Зусім нядаўна ў яго брыгаду прыйшлі слесары-навічкі Аляксей Собалеў і Уладзімір Мельнікаў. Не ладзіліся ў іх справы. Не ўмелі яны як мае быць «чытаць» чарцяжы. Георгі



**Вытворчасць — гэта родны дом і для тэхнолага Вольгі Пунінскай, і для механіка Данілы Міронава, якія прыйшлі да згоднай думкі па спрашчэнню канструкцыі шаравых млыноў, што рыхтуюць сумесі для пакрыцця электродаў. Вось і зайшлі яны параіцца з інжынерам бюро рабочага вынаходніцтва Аляксандрам Сідлеравым.**

сам стаў побач з хлопцамі, не адыходзіў, пакуль яны адчулі ўпэўненасць у сваіх ведах. Георгі Шпакоўскі, як і ўсе вопытныя рабочыя, якія навучаюць моладзь, робіць гэта па загаду свайго сэрца, на грамадскіх асновах.

А хіба Георгі быў заўсёды такі? З ім таксама давялося нямала папрацаваць. Яршысты быў хлопец. І камсамол, увесь калектыў узяўся за яго як мае быць. Таварышы знайшлі ключык да яго душы, і Жора стаў сапраўдным чалавекам-калектывістам. Сёння Георгі Шпакоўскі — кандыдат у члены КПСС, сам з натхненнем удзельнічае ў шліфоўцы і даводцы чалавечых характараў.

Цікава, што ў выхаваўчым працэсе актыўна ўдзельнічаюць усе рабочыя. Раней можна было пачуць: «Гэта мяне не датычыць. Што мне больш за ўсіх трэба?» Цяпер на сходах, на лятучках, калі гаворка ідзе пра таго ці іншага рабочага, усе ўзнімаюць голас, усе заклапочана абмяркоўваюць паводзіны свайго сябра і даюць грамадскую ацэнку яго ўчынку.

Зусім нядаўна быў такі выпадак. Аднаго слесара пазбавілі высокага звання ўдарніка. Самі рабочыя, на цэхавым сходзе. І, вядома, няма большага сораму, як стаяць перад таварышамі і чырванець за свой дрэнны ўчынак. Калектыў—строгі, але і справядлівы суддзя—узважыць усе «за» і «супраць». Хлопец той, які збочыў з правільнай дарогі, пакляўся, што яму гэта будзе ўрокам на ўсё жыццё. І сябры паверылі, вярнулі яму званне.

— Мы працуем, — заканчвае свой роздум Фёдар Мікалаевіч, — і час працуе на нас. Усе, хто паступае ў цэх, асабліва моладзь, знаёмяцца з нашай запаведдзю, якая вунь вывешана на відным месцы. З навічкамі гутараць парторг, камсорг цэха, старыя камуністы. Мы знаёмім кожнага, хто ўліваецца ў нашу рабочую сям'ю, са сваімі традыцыямі, якія нарадзіліся ў калектыве. Гэта, на маю думку, вельмі важна. Гэта тое новае, што прынесла нам спаборніцтва за камуністычную працу.

І гэта новае запісана ў цэхавай запаведзі ўдарнікаў камуністычнай працы. Там, між іншым, ёсць такія канкрэтныя патрабаванні:

«Лічы так: адзін лодар — ганьба для брыгады, адзін прагул — пляма на ўсіх; адзін выпадак браку — бяда ўсяго калектыву».

«Бачыш, сусед адстае,— памажы. Сам не здолееш зрабіць, звярніся да таварыша, не ганарыся. Адпрацаваў — не траць часу дарэмна: цябе чакае школа, тэхнікум, інстытут».

«Пакрыўдзілі на тваіх вачах чалавека — і ты нясеш віну. Паважай старэйшых на вуліцы, дома, у сям'і, будзь ветлівы, тактоўны, таварыскі».

Сёння ўжо гэтыя наказы-правілы, запісаныя на аркушы паперы, знайшлі водгук у людскіх сэрцах, сталі нормай, жыццёвай неабходнасцю для ўсіх членаў рабочага калектыву.

Інструментальшчыкі спаборнічаюць з механазборачным цэхам. Гэта самы вялікі рабочы калектыў. У цэху тры блокі. Зусім нядаўна рабочыя справілі яшчэ адно наваселле — атрымалі новы, цудоўны будынак, сапраўдны палац. І ў новым светлым, прасторным памяшканні найперш з'явіўся на сцяне такі заклік: «Кожны камсамолец — ударнік камуністычнай працы».

У механазборачным цэху, праўда, яшчэ не ўсе камсамольцы — ударнікі. Але і тут ёсць яны — смелыя разведчыкі будучыні. Ёсць людзі, на якіх раўняюцца, з якімі лёгка працуецца.

Ударнікам № 1 называюць на заводзе Івана Клепчукова, які ўзначальвае адну з лепшых брыгад токараў. У брыгадзе дваццаць чалавек. І ўсе — перавыконваюць зменныя заданні, даюць прадукцыю выдатнай і добрай якасці. А Іван Клепчукоў, камуніст, нядаўні выхаванец камсамола, заўсёды наперадзе. У яго залатыя рукі: сярод зусім нямногіх рабочых токар мае свае кляймо, яго прадукцыю не правярае кантралёр.

Шлях, які прайшоў Іван Клепчукоў, — гэта шлях нашага маладога сучасніка. Школа. Завод. Тэхнікум. Набыўшы добрую спецыяльнасць токара, хлопец не спыніўся на палавіне дарогі. У яго хапіла і ведаў, і настойлівасці, каб паступіць у інстытут. Ён дае кожны месяц не менш як па паўтары нормы і паспяхова вучыцца ў Магілёўскім машынабудаўнічым інстытуце, ужо здаў экзамены за другі курс.

— Як гэта ты, Іване, спраўляешся: і працуеш, і ў інстытут паспяваеш?— пытаюцца ў яго іншы раз сябры.

— Зусім проста, — усміхаецца Іван і сур'ёзна дадае: — Трэба толькі моцна захацець. А ўсё астатняе ў тваіх жа руках!

Іван Клепчукоў такі не адзін. У яго ёсць малады сябар Віктар Кастрыцкі, з такім жа настойлівым характарам і такой жа працавітасцю. Іншыя маладыя хлопцы, чаго грахі таіць, адбудуць змену і трацяць час на пагулянкі, на танцы, а Віктар — у бібліятэку, садзіцца за кнігі. Іван і Віктар вучацца разам у інстытуце, у іх агульныя інтарэсы, яны часта збіраюцца, каб пагутарыць, абмяняцца думкамі, уражаннямі. А хто Віктара прымушае вучыцца? Ён мог бы сказаць: «Я скончыў тэхнічнае вучылішча. Маю пяты разрад, і з мяне хопіць». Але ў Віктара Кастрыцкага жыццёвы дэвіз — як мага больш ведаць, шукаць, каб прынесці больш карысці людзям.

Іван Клепчукоў — брыгадзір, а Віктар яго намеснік, бліжэйшы памочнік. Канечне, хлопцы за гэта нічога не атрымліваюць. Гэта іх грамадскае даручэнне.



**«Кароль» расточнікаў Іван Іванавіч Губанаў. Ён будаваў завод, ён працуе на ім з першых дзён, ён вучыць цяпер маладую змену.**



**Брыгада камуністычнай працы, якой кіруе Іван Клепчукоў, ужо даўно выканала сямігодку. Новае абсталяванне вымагае ад рабочых няспыннай вучобы. Івана Клепчукова і Віктара Кастрыцкага часта можна сустрэць у фізічнай лабараторыі машынабудаўнічага інстытута.**

У калектыве, у працэсе працы гартуецца новы чалавек — гаспадар сваёй дзяржавы, стваральнік шчаслівай будучыні. За гэтыя пяць гадоў, якія прайшлі ў змаганні за тое, каб працаваць і жыць па-камуністычнаму, нарадзілася шмат новых форм ідэйна-выхаваўчай работы ў масах. І першая сярод іх — гэта ўзаемная дапамога, пачуццё адказнасці кожнага за лёс калектыву.

У кожным цэху можна бачыць такі малюнак. Ля станка ці каля варштата за чарцяжом схіліліся двое: бязвусы хлапчук у тэнісцы ці гімнасцёрцы рамесніка і пажылы рабочы з добрым, ласкавым тварам настаўніка. Бывае і так: хлопец кіруе станком, а настаўнік стаіць тут жа і згодна ківае галавой:

— Добра, Генка. Так і трымайся, малайчына!..

Адзін з такіх добраахвотных настаўнікаў расточнік Іван Іванавіч Губанаў, яшчэ не стары чалавек, але ў якога больш як дваццацігадовы працоўны стаж, расказвае:

— Ніхто нас не прымушае, каб мы вучылі іншых, гэта наша асабістая справа. Але які ж з мяне будзе ўдарнік, калі я толькі ўсё буду пхаць у сваю кішэню. Мы ж савецкія рабочыя. А савецкі чалавек заўсёды падзеліцца з суседам, з таварышам. І глядзіце, як прыемна, —



**Скрэпер на выпрабаванні. Колькі яшчэ турбот у людзей, што стваралі яго:** (справа налева) **вядучага канструктара Дзмітрыя Кузьмічова, шафёра-выпрабавальніка Мікалая Чулкова, тэхнолага Аляксандра Файкова, начальніка канструктарскага бюро Пятра Рэўзіна і шафёра-выпрабавальніка Мікалая Сарокіна!**

расточнік выпроствaецца, акідвае цёплым позіркам цэх: — і там вунь мой вучань працуе, і там вунь... Здаецца, больш дзесяці навучыў, перадаў сваю ўхватку!..

А ўхватка, цягавітасць у Івана Іванавіча зайздросная. Не дарма яго называюць «каралём» расточнікаў. Трапнае вока і залатыя рукі ў Івана Іванавіча, хаця вучыўся ён мала. Дзве нормы за змену — вось яго закон. І якасць, канечне, выдатная. Да «караля» звяртаюцца не толькі навічкі, якія прыйшлі на завод без спецыяльнасці. З ім раяцца, яго майстэрства вывучаюць і спрактыкаваныя расточнікі.

— І я вучыўся ў Івана Іванавіча, — гаворыць камлюкаваты малады чалавек, які пачуў нашу размову. — Маё прозвішча Пухоўскі. Генадзь. Працаваў я токарам. А потым спатрэбіліся расточнікі, і мне ахвотна ўзяўся памагаць Іван Іванавіч. Цяпер і я ўжо маю сваіх вучняў. Вось і сёння на маім станку — новы хлопец. Альберт Клепчукоў. Ужо, бачыце, сам стаіць ля станка!..

У Генадзя Пухоўскага натхненне на твары, радасны бляск ў вачах. Яго радасць зразумелая: ён падзяліўся з сябрам самым дарагім — сваімі ведамі.

У эксперыментальным цэху заканчваецца выпрабаванне новага, палепшанага скрэпера. Інжынеры і канструктары шмат папрацавалі, каб новая машына была больш эканомная і вынослівая. Эксперыментальны скрэпер пабываў у Маскве на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі і атрымаў станоўчую ацэнку.

Пабываў скрэпер ужо і ў кар'еры. Цяпер зноў каля машыны сабраліся інжынеры, канструктары, рабочыя. Што цікава: вельмі ўжо ўважліва выслухоўваюць інжынеры заўвагі простых рабочых. Заклапочана і дэталёва шафёр-выпрабавальнік Мікалай Чулкоў выказвае інжынерам свае думкі, якія ўзніклі ў яго пры вытворчай эксплуатацыі машыны.

І тыя, хто стварае дэталі і вузлы машыны на ватмане, у чарцяжах, і тыя, хто ператварае творчыя задумы канструктараў у метал, усе працуюць з адзіным жаданнем — даць краіне цудоўныя машыны.

У эксперыментальным цэху — моладзь. І сам начальнік цэха Барыс Смірноў — нядаўні выпускнік Мінскага політэхнічнага інстытута! І тэхнолаг Аляксандр Файкоў — камсамолец. Вырас на заводзе. Скончыў машынабудаўнічы тэхнікум. Вучыцца на вячэрнім аддзяленні ў інстытуце. І слесары Алесь Філіпенка, і Фелікс Наварыта, і шафёр-выпрабавальнік Іван Чарнякоў — вучацца. Вучоба стала жыццёвай неабходнасцю рабочага.

Не дзіўна, што ў цэхах, на ўчастках вірыць творчая думка. Шырыцца рух рацыяналізатараў і вынаходнікаў. Рацыяналізатарская хваля разлілася па ўсіх закутках.

Начальнік заводскага бюро па рацыяналізацыі і вынаходніцтву Аляксандр Мікалаевіч Сідлераў прывёў цікавыя лічбы. Ужо ў гэтым годзе эфект ад прапаноў, якія ўнесены, складае 95 тысяч рублёў. Шмат прапаноў уносіцца па зніжэнню працаёмкіх працэсаў. Калі іх ўсе ўкараніць, то можна будзе дадаткова выпусціць 160 маставых кранаў.

Нядаўна ўкаранёна ў вытворчасць рацыяналізатарская прапанова майстра электраўчастка Вольгі Пунінскай і механіка Данілы Міронава. Здаецца, простую рэч прапанавалі рацыяналізатары: падключылі шаравыя млыны па два да аднаго матора. І якая выгада! Эканоміцца 218 кілават-гадзін электраэнергіі ў год, рэзка ўзрасла прадукцыйнасць працы на падрыхтоўцы кампанентаў для электродаў.

— І такіх у нас многа, — адзначае Аляксандр Мікалаевіч Сідлераў. — У рацыяналізацыі і вынаходніцтве ўдзельнічае кожны шосты рабочы. Гэта ўжо нядрэнна, калі ўлічыць, што машынабудаўнічая вытворчасць — складаная галіна...

І яшчэ шмат незабыўных сустрэч было ў нас на заводзе. Цікавыя людзі. Цудоўны завод. Можна было б доўга расказваць і пра тое, як працуюць ліцейшчыкі — першыя, хто атрымаў на заводзе званне калектыву камуністычнай працы, і пра тое, як заводскія канструктары і інжынеры ўдасканальваюць серыйныя машыны і ствараюць новыя, і пра тое, як загартоўваецца непасрэдна на вытворчасці будучая змена — вучні і студэнты-практыканты. Завод мае базавае прафесійна-тэхнічнае вучылішча, якое няспынна дае рабочае папаўненне.

Закончана змена. З цэхаў выходзяць рабочыя — гаспадары прадпрыемства. Ля галоўнага ўваходу — скопішча матацыклаў, легкавыя машыны. Рабочых людзей чакае заслужаны адпачынак — бібліятэкі, дом культуры, стадыён, кіно. Непадалёк — сівы Дняпро, на беразе якога ў летнія месяцы любяць бавіць час кіраўцы.

У людскім патоку — ударнікі. Такія ж простыя і звычайныя рабочыя, як і тыя, хто яшчэ змагаецца за гэта гордае званне. Ідуць разам, плячо ў плячо. З усім калектывам.

Перад імі — шырокія, светлыя далягляды.

**Сцяпан КУХАРАЎ.**

Фота **Віталя БАРАНОЎСКАГА.**

**Магілёў, завод пад'ёмна-транспартнага абсталявання імя Кірава.**



Хрыстафор ПРЫБЫЛЬ

# ЗАРАНКІ НОВАГА ЖЫЦЦЯ

**Запіскі былога камсамольца**

Мал. Ю. Архіпава.

## НОВЫ ДОМ

Цудоўны чэрвеньскі дзень. Над палямі бруілася цёплая дымка. Мы вясёлым гуртам вярталіся з Калінкавіч. Кожны, як вялікі дарунак, нёс у руках камсамольскі білет. Я ўжо каторы раз глядзеў на запаветную кніжачку. 12142! — запамятаўся мне нумар членскага білета.

Ітак, мы камсамольцы.

Нота Шэрман заспявала звонкую прыпеўку:

Як нам весела, рабяты,
Эх іграй, іграй, баян.

Усе падхапілі:

Камсамол вядзе змаганне
За рабочых і сялян!

З песняй, радасныя, узбуджаныя, і ўвайшлі мы ў вёску. Насустрач выбеглі хлапчукі, акружылі нас, закрочылі разам. Людзі пазіралі праз вокны на вуліцу, задаволена ўсміхаючыся. Але нечакана з трухлявай, падслепаватай хаціны выбегла згорбленая жанчына з венікам у руках. Гэта была салдатка-ўдава Арына Пракопаўна, прыгнечаная горам жанчына.

— Антыхрысты, бязбожнікі, — лемантавала яна, размахваючы венікам. — Прыйшлі на наша гора, чарцей наклікалі!..

— Чаго крычыш? Якіх чарцей! — падскочыў да яе Міхаіл Палазнік.

— Рагатых ды хвастатых, — крычала жанчына. — На возеры яны, ля Жалезнай гары. Мікодым бачыў...

А неўзабаве ляснік дзядзька Нічыпар прывалок у вёску «чорта».

Мы ўбачылі вялізнага шчупака, на спіне якога сядзеў, учапіўшыся кіпцюрамі, каршун. «Чорта» мы пацягнулі да школы. Амаль уся вёска глядзела на вадзяны цуд. Прыйшла і Арына. Паглядзела, вырачыла вочы, пляснула рукамі і пабегла, крычучы:

— Чорт! Чорт!

— Ох, як глыбока сядзіць рэлігія ў народзе, — пакруціў галавой наш настаўнік Міхаіл Пятровіч Малыхін, глянуўшы ў бок гэтай жанчыны. Ён павярнуўся да нас і дадаў: — Няхай бы вы як-небудзь памаглі людзям вызваліцца ад царкоўнага дурману?

— А што тут памагаць, — рашуча адрэзаў Міхаіл Палазнік. — Закрыць царкву, выгнаць Святаслава, і — песеньцы канец!..

— Не, гэта справа больш сур'ёзная, — запярэчыў настаўнік. — Месцейка каб асобнае для моладзі збудаваць. Каб сабрацца можна было дзе, пагутарыць, кніжку пачытаць, у шашкі згуляць... Я ў Дудзічах быў. Там хлопцы за клуб узяліся. Вартая справа!

Захопленыя такімі марамі, мы накіраваліся да старшыні сельскага Савета Антона Пенькі. Ён — былы балтыйскі матрос — сядзеў за сталом у бесказырцы, у расхлістанай кашулі, з-пад якой стракацела цяльняшка, і нешта пісаў.

— Вам... што... салага... трэба? — спытаў ён.

— Клуб хочам будаваць. Лесу каб нам, — пачаў я.

— І аркестр...

— І кнігі... І сцэну, — загаварылі мае сябры разам.

— Цішэй, браткі, затлумілі галаву — нічога не разбяру. Дык што вам трэба, хлопцы?

Мы зноў паўтарылі нашу просьбу. Ён некалькі хвілін маўчаў, расціраючы рукамі скроні, і раптам нечакана сказаў:

— Будзе вам клуб. Забірайце «манапольку» к чортавай матары. Пайшлі.

Ён прывёў нас да «манапалькі» — крамы з пазабіванымі вокнамі, адарваў гнілыя папярэчкі на дзвярах, шырока расчыніў іх і крыкнуў:

— Забірай, браткі, усё ваша. Памятайце балтыйскага марака!..

Мы спачатку баяліся, што не справімся. Але Пенька пагаварыў з сялянамі, потым Міхаіл Пятровіч прайшоўся па хатах. І пацягнуліся людзі. Адзін нясе дошку, другі лаўку, трэці ідзе з сякерай, чацвёрты — з рубанкам. Нават багацей Лука Садоўскі прыйшоў, разам з намі на насілках смецце цягаў.

Адчувалася, што народу падабаецца калектыўная работа. Рэдка ж бывае такое, калі вось гэтак талакой, адной сям'ёй папрацуеш.

На гэтай будоўлі і новыя камсамольцы выраслі. У члены камсамола ўступілі Сава Мельнік, Мацвей Міневіч, Сідар Вінакур і Кузьма Палазнік. Райком дазволіў нам стварыць ячэйку. Тут жа, на будоўлі, мы правялі і першы сход. Сакратаром выбралі мяне. Пад канец сходу выступіў Міхаіл Пятровіч.

— Давайце, хлопчыкі, — сказаў ён, — да адкрыцця клуба спектакль які змудруем...

Усе адразу захапіліся добрай прапановай.

Міхаіл Пятровіч падшукаў п'еску аб грамадзянскай вайне. Развучвалі яе вечарамі. Міхаіл Палазнік выконваў ролю чырвонага камандзіра, на маю долю выпала іграць бандыта-белагвардзейца. Астатнім дасталіся ролі сялян, белых, чырвонаармейцаў. Суфлёрам быў Міхаіл Пятровіч.

Клуб адбудавалі дзён за дзесяць. Міхаіл Пятровіч праседжваў у сваім пакойчыку ночы навылёт, малюючы на газетах, абгортачнай паперы і старых шпалерах плакаты і лозунгі. Сакратар райкома камсамола Шнітко прыслаў партрэт Леніна.

І вось настаў урачысты дзень. У клубе — не праціснуцца. На першых лаўках размясціліся старыя і жанчыны, за імі шчыльна паселі маладзейшыя. У прэзідыуме занялі месца Міхаіл Пятровіч, член сельсавета Барыс Купчык і старшыня камітэта беднаты Арцём Вінакур. Перш чым адкрыць сход, настаўнік запрасіў у прэзідыум мяне. Як дамовіліся, адкрыццё клуба павінна было адбывацца так: настаўнік зробіць невялічкі даклад аб савецкай уладзе, потым слова дадуць мне — прадстаўніку моладзі, і пасля гэтага адразу ж пачнецца спектакль. Але ўсё пайшло інакш. Не паспеў Купчык даць слова Міхаілу Пятровічу, як па прыступках на сцэну ўзняўся дзед Андрыян у свежай палатнянай кашулі, падпяразанай чырвоным поясам.

— Ты, дзядуля, нібы на вяселле сабраўся, — пачуліся галасы.

— Але, на вяселле і прыйшоў, — рашуча адказаў стары. — Бачыце, што для нас савецкая ўлада робіць, — ён шырока абвёў вачамі клуб і ўсклікнуў: — Дык павянчаем жа яе, нашу родную ўладу, з мужыком на векі вечныя!..

У зале зашумелі, заляскалі ў далоні. Андрыян пачакаў, пакуль людзі супакояцца, і працягваў:

— Мне ўжо за семдзесят, і колькі, я скажу вам, гора тут людзі пабачылі... Іншы бедалага апошнюю кашулю пакідаў, іншы ад жонкі медны пятак сюды прыносіў. А бойкі, а лаянка... І ўсё гэта аднаму ліхвяру ішло на карысць, каб на яго паралюш. І добра, што цяпер гэтаму пагібламу месцу каюк прыйшоў. Туды яму і дарога! Дзякуй нашым маладым хлопцам...

— Правільна, дзядуля, — закрычалі ў зале. — Няхай камсамольцы наперад выйдуць, каб народ бачыў іх!

Пакуль хлопцы праціскаліся да сцэны, пакуль ім апладзіравалі, часу прайшло нямала. Міхаіл Пятровіч не стаў рабіць даклад, толькі афіцыйна адкрыў клуб і сказаў, што ён будзе ў нашых Шыічах месцам, адкуль павінна разыходзіцца ленінская праўда.

Спектаклем людзі засталіся задаволеныя. Нам апладзіравалі, крычалі: «Здарова! Малайцы!». Мы добра зрабілі сваю справу — клуб ёсць. Яго людзі назвалі новым домам.

## ПАРТЫЙНАЕ ДАРУЧЭННЕ



У Шыічах пабываў загадчык аддзела народнай асветы Андрэй Сяргейчык. Гэтага маладога камуніста добра ведалі ў раёне. Ён адкрываў у вёсках школы, арганізоўваў курсы лікбезу. Сяргейчык быў членам бюро райкома камсамола, таму работу з моладдзю ён заўсёды ставіў на пярэдні план.

— Вашай ячэйцы, — сказаў Андрэй Сяргейчык, — даецца важнае партыйнае даручэнне. Вы павінны памагчы настаўніку ў ліквідацыі непісьменнасці на вёсцы. Давайце выберам сакратара ячэйкі Прыбыля загадчыкам лікбезу. Прагаласуем.



Пасля гэтага загадчык райана падрабязна растлумачыў, як трэба весці заняткі, як камплектаваць групу лікбезу. Першым у групу запісаўся Нота Шэрман. На другі дзень мы пайшлі па хатах. Многія сяляне ахвотна запісваліся, горача дзякавалі нам, радаваліся, што хутка стануць пісьменныя. Але з некаторымі было вельмі цяжка. Сектанты, напрыклад, усе наадрэз адмовіліся вучыцца.

У адной з хат мы сустрэлі Фаіну, дзяўчыну год васемнаццаці, з беднай яўрэйскай сям'і. Яна была нечым устрывожана, увесь час выцірала слёзы ражком хусткі.

— Што з табой? — запытаў у яе Міхаіл Палазнік.

— Нічога, — адказала тая, сарамліва апусціўшы вочы.

— Не плач, Фаіна, — супакоіў дзяўчыну Міхаіл. — Мы да цябе з добрай прапановай. Хочаш вучыцца? Паможам. Будзеш кніжкі чытаць, пісьмы пісаць...

— Нічога мне не трэба, — лемантавала яна. — Замуж мяне выдаюць... За Рыдмана...

— За Рыдмана? — ускрыкнулі мы ў адзін голас. — Не можа гэтага быць!

— Пайшлі да Рыдмана. Я паб'ю гэтага старога гада, — пагражальна сціснуў кулакі Сава Мельнік.

Ісак Рыдман працаваў бракоўшчыкам на лесанарыхтоўках. Расказваюць, што ён да рэвалюцыі быў жанаты, але кінуў жонку і вось ужо год дзесяць называе сябе старым халасцяком. Яму пераваліла за сорак. Для чаго Рыдману спатрэбілася бедная, непісьменная дзяўчына? Мы рабілі самыя розныя здагадкі.

— Часы цяпер іншыя пайшлі, — растлумачыла нам яго служанка, пажылая жанчына. — Хіба раней Ісак на Фаіну паглядзеў бы? Ён на парог яе не пусціў бы.

З паўгадзіны мы чакалі Рыдмана на ганку. Ён некуды ездзіў. І вось не паспеў вылезці з брычкі, як Сава накінуўся на яго:

— На Фаіну можаце не спадзявацца. Камсамольцы вам яе не аддадуць.

— Пачакайце, пачакайце, — збянтэжыўся Рыдман. — Я з бацькамі Фаіны дамовіўся, яны згодны...

У той жа вечар у клуб прыбегла Фаіна. Яе нельга было пазнаць — вясёлая, радасная, шчаслівая.

— Рыдман адмовіўся ад вяселля, — паведаміла яна мне. — Цяпер я і вучыцца змагу. Запісвайце!..

Папрацавалі мы нямала. Займаліся ў дзве групы. Адну вёў Міхаіл Пятровіч, а другую — па чарзе — камсамольцы. Мы з Яўстратам і Кузьмой выкройвалі час і для сваіх заняткаў. Настаўнік праходзіў з намі праграму за пяты клас і патрабаваў строга, як і ў школе. Зімой з'явіліся новыя ахвотнікі займацца ў лікбезе. Давялося стварыць яшчэ адну групу.

Неяк я падслухаў размову сялян, якія сабраліся ў нашай хаце.

— Вось, Кандратавіч, час які настаў, — з гонарам гаварыў Сяргей Палазнік, бацька майго таварыша Міхаіла. — І старыя і малыя за грамату ўзяліся. Што толькі будзе. Усе вучонымі станем — савецкая ўлада для нас і пасад не набярэцца.

— Набярэцца, — перапыніў яго ляснік Нічыпар. — Калі нават і за плугам з розумам хадзіць, толку больш будзе!

— Так, — згадзіўся мой бацька. — Бачыце, як наша ўлада набірае сілу. Усіх навучае...

Я сядзеў на печы, слухаючы гэтыя словы, і адчуваў сябе на сёмым небе. Нехта ў лікбезе падаў добрую думку: як людзі навучацца пісаць, то трэба будзе сабрацца разам і напісаць ліст Леніну, расказаць дарагому правадыру аб тым, як ён вочы сялянам раскрыў, дарогу да новага жыцця паказаў. Прапанова ўсім спадабалася, людзі пачалі вучыцца яшчэ больш старанна.

І раптам — цяжкі ўдар. У Шыічы прыехаў на брычцы Андрэй Сяргейчык. Ён паведаміў, што памёр Ленін. У мяне як нешта абарвалася ў сярэдзіне, я не мог нават узняцца з лаўкі, не мог прамовіць слова. Вечарам ся-

ляне набіліся ў клуб. Міхаіл Пятровіч разгарнуў газету і прачытаў паведамленне Цэнтральнага Камітэта партыі аб смерці Вялікага настаўніка. Мне раней не даводзілася бачыць, як плакалі дарослыя сяляне. У той жа вечар я ўбачыў мора горкіх несуцешных слёз. Жанчыны галасілі, мужыкі плакалі моўчкі, забываючыся выціраць слёзы.

— Як жа цяпер без Леніна будзем? — пачуўся нечы голас.

— Ільіч пакінуў пасля сябе партыю, — сказаў Міхаіл Пятровіч. — Яна і павядзе нас па ленінскім шляху.

Камсамольцы абвілі партрэт Леніна чорнай стужкай, потым сабраліся грамадой каля яго і заспявалі «Інтэрнацыянал». Многія сяляне не ведалі словы гімна, але ўсе дружна падцягвалі камсамольцам.

Марозы ў тыя дні стаялі моцныя. Сяляне непакоіліся, што памерзнуць яблыні ў садах. У адзін з тых дзён і прыйшоў у камсамольскую ячэйку Барыс Купчык.

— Хлопцы, — звярнуўся ён да нас, — нарад на сельсавет прыйшоў. Трэба пасляць людзей на нарыхтоўку лесу. Будзем нарыхтоўваць рудстойку для шахтаў.

— Запісвай спачатку нас, дзядзька Барыс, — сказаў Міхаіл Палазнік і акінуў позіркам усіх камсамольцаў: — Мы паедзем. Правільна, хлопцы?

— Правільна, — закрычалі мы.

Праз некалькі дзён вёска праводзіла маладых энтузіястаў на працу. На першай фурманцы развяваўся чырвоны сцяг. Хлопцы трымалі прымацаваны на палках вялікі плакат: «Ленін памёр, але справа яго жыве!»

У лесе мы прабылі больш месяца. Рыхтавалі рудстройку для Данбаса. Працавалі самааддана, у маразы і ў мяцеліцу. На лесанарыхтоўках наша камсамольская арганізацыя яшчэ больш вырасла, умацавалася.

...Надыходзілі чарговыя выбары ў сельскі Савет. Тут нам упершыню давялося сутыкнуцца з моцным і здрадлівым ворагам — кулацтвам. Кулакі аблыталі былога балтыйскага матроса і ўсяляк імкнуліся зноў правесці яго ў Савет. Але, насуперак ім, старшынёй быў выбраны Пятро Новік.

На наступны дзень у клуб зайшоў новы старшыня сельсавета.

— Вось што, хлопцы, — падсеў ён да нашага стала, — давайце з першых жа крокаў дамовімся: камсамол і сельсавет заўсёды будуць за адно. Будзем рабіць тое, што загадвае партыя.

У той жа дзень камсамольская ячэйка, узброіўшыся рыдлёўкамі і сякерамі, ішла следам за Пятром Новікам да ракі, разбіраць стары спарахнелы мост.

## НЕ ДЛЯ ПРЫГОЖАГА СЛОЎЦА



Больш як два тыдні праляжаў я ў Калінкавіцкай бальніцы. У вёску я прыехаў апоўдні і адразу пабег да хлопцаў. Сустрэў Міхаіла Палазніка, Ноту Шэрмана. Якава Вінакурава. Яны пісалі ў клубе плакат — заклік да сялян, каб правесці веснавую пасяўную кампанію ў сціслыя тэрміны.

— Мы ўжо чулі, — сказаў Нота, — адусюль пішуць у Маскву. Упэўнены, што камсамолу прысвояць імя Ільіча. Ён жа нас вырасціў, па яго запаветах мы жывём.



Ва ўсіх быў бадзёры настрой. Мы жылі нібы перад вялікім святам. Ячэйка звярнулася ў сельсавет з просьбай выдзеліць для камсамольцаў спецыяльны ўчастак зямлі.

— Будзем праводзіць доследы, каб атрымаць высокія ўраджаі, — сказалі мы Пятру Спірыдонавічу. — Няхай сяляне ў нас вучацца.

Старшыня паказаў нам кавалак зямлі і шырока абвёў яго рукою:

— Атрымлівайце вашу камсамольскую палоску. Вырошчвайце высокі ўраджай!

Спраў у нас прыбавілася. Трэба было шмат працаваць і на сваёй гаспадарцы і камсамольскі ўчастак не забываць. Але мы паспявалі ўсюды, ніколі не скардзіліся на цяжкасці. Аднойчы камсамольская палоска прынесла нам шмат радасці.

Міхаіл Пятровіч прыдбаў у Мазыры мяшок мінеральных угнаенняў. На ўзаранай палосцы мы рассыпалі парашок вузкай дарожкай, так, каб атрымалася слова «цуд». Потым на ўчастку пасеялі проса. З'явіліся ўсходы, на ўгноенай стужцы яны былі большыя і гусцейшыя. Можна было прачытаць зялёнае слова «цуд».

Вось гэта і збянтэжыла кіраўніка баптысцкай секты Івана Рудзеню. Неяк, праходзячы міма нашай палоскі, Іван звярнуў увагу на высокія сцяблінь, спыніўся і прачытаў: «цуд». І кінуўся прэч, а праз якую-небудзь гадзіну ўся вёска ведала пра гэта. Збегліся мужыкі і жанчыны. Яны стаялі, здзіўляліся, ківалі галовамі. А мы скарысталі гэты момант, каб расказаць сялянам пра карысць мінеральных угнаенняў.

Праз месяц мы на сходзе з радасным хваляваннем чыталі пастанову VI Усесаюзнага з'езда камсамола аб прысваенні маладзёжнай арганізацыі імя Леніна. З рук у рукі пераходзіла газета з маніфестам з'езда да ўсіх камсамольцаў, да ўсёй рабоча-сялянскай моладзі. З натхненнем мы чыталі: «Не для прыгожага слоўца, не з жадання насіць лепшае з усіх імён, не толькі для таго, каб ушанаваць павагай памяць вялікага настаўніка, прынялі мы гэтае рашэнне. Не, мы прынялі яго для таго, каб уся працоўная моладзь усіх народаў, якія насяляюць СССР, разам са сваім перадавым атрадам — Камуністычным Саюзам Моладзі — праніклася адзінай воляй і цвёрдай рашучасцю навучыцца па-ленінску жыць, працаваць і змагацца, ажыццяўляць запаветы, пакінутыя нам Леніным...»

І мы пакляліся, што якія б перашкоды на нашым шляху ні стаялі, якіх бы ахвяр ад нас ні патрабавалі, — выканаем задачы будаўніцтва сацыялізма ў нашай краіне, не выпусцім з рук сцяг Леніна.

Першым канкрэтным адказам на рашэнне VI з'езда ВЛКСМ быў чырвоны хлебны абоз, арганізаваны камсамольскай ячэйкай. Дагэтуль кожны селянін здаваў збожжа дзяржаве ў адзіночку. Мы рашылі — і нас горача падтрымалі ў сельсавеце — дамагчыся таго, каб хлебаздача не зацягвалася, каб усе гаспадаркі разлічыліся з дзяржавай з першага абмалоту.

Кожнаму камсамольцу замацавалі дзесяцідворку — дзесяць гаспадарак, за якія ён і нёс адказнасць. Камітэт беднаты прыдбаў конную малатарню. Яе паставілі на таку ў Сяргея Палазніка. І людзі ўпершыню малацілі збожжа калектыўна. Спачатку аднаму гаспадару, потым другому, трэцяму... Работа спорылася. Пад канец жніўня вёска ўбачыла небывалы малюнак — ланцуг фурманак, нагружаных мяхамі, на ўсю вуліцу. На фурманках — плакаты: «Першы хлеб — Радзіме!», «Вёска Шыічы — дзяржаве!» Старшыня сельсавета прынёс чырвоны сцяг і перадаў яго возчыку на першай фурманцы Міхаілу Палазніку. Ехалі з песняй.

Усе сяляне — ад малога да старога — прыйшлі праводзіць чырвоны абоз. Яны доўга стаялі на дарозе, махалі рукамі, шапкамі, хусткамі, пакуль апошняя фурманка не схавалася за аселіцай.

Ураджай, сабраны з камсамольскай палоскі, мы здалі ў сельсавет. Няхай сяляне карыстаюцца нашым насеннем. А мы ўжо задумалі стварыць маладзёжны сельскагаспадарчы гурток. У клубе з'явіліся першыя аграномічныя кніжкі, якія набыў для нас камбед.

# ГАРТАВАННЕ

Неяк мы папрасілі Міхаіла Пятровіча выступіць з лекцыяй пра кааператыўны план Леніна. Настаўнік сур ёзна аднёсся да гэтага даручэння, з'ездзіў у Капліцкую камуну, якая была створана адразу пасля рэвалюцыі



ў былым маёнтку пана Ванакоўскага, пазнаёміўся з жыццём камунараў. Пра лекцыю было аб'яўлена за некалькі дзён. Але... на яе амаль што ніхто не прыйшоў. У клубе былі адны камсамольцы. А з сялян толькі Ісак Палазнік, Арцём Вінакур, Пятро Новік і ляснік.

— Малавата сабралася, — сумна ўсміхнуўся Міхаіл Пятровіч.

Аднак ён прачытаў лекцыю з вялікім уздымам. Лекцыя на многае адкрыла нам вочы. Камсамольцы смялей павялі агітацыю за таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі. У нас з Савам Мельнікам быў першы двор, дзе жыў Васіль Палазнік.

— І не прасіце, не пайду, — замахаў ён рукамі, як толькі мы пачалі гаворку пра калектыў. — Спаць пад адной коўдрай, есці з агульнага катла, выходзіць на працу па званку, — забіце мяне, не згаджуся...

— Гэта хлусня, — перапыніў я яго. — Сяляне самі вырашаюць, як ім жыць.

— Не, не ўгаворвайце, — упарціўся Васіль.

Першы блін комам! Затое ў другім двары нас чакала ўдача. Ісак Палазнік сустрэў нас ветліва.

— Абавязкова запішуся і мужыкоў падгавару, — паабяцаў ён.

Мы пайшлі ад яго акрыленыя. «Вось, — думалі мы, — каб усе былі такія, як дзядзька Ісак, за год-два можна было б перабудаваць усё жыццё ў вёсцы».

Але, на вялікі жаль, Ісак Палазнік быў адзіны ў нашай дзесяцідворцы, хто згадзіўся запісацца ў калектыў.

Увечары камсамольцы сабраліся ў клубе. Вынікі ў нас былі зусім слабыя. У таварыства заявілі жаданне запісацца ўсяго толькі пяць сем'яў.

— А нашы сем'і? — сказаў я.

Хлопцы сустрэлі маё пытанне дружным рогатам. І сапраўды, усюды пабывалі камсамольцы, толькі свае хаты абмінулі. На наступны ж дзень мы пачалі агітаваць сваіх бацькоў. Трэба сказаць, што размова была не лягчэйшая, чым з астатнімі сялянамі.

— Ты наперад бацькі ў пекла не суньcя, — абсек мяне бацька, калі я паспрабаваў загаварыць з ім пра таварыства. — Прымерыць трэба, прыглядзецца...

Але я не адступіўся ад свайго. І бацька нарэшце, можа каб я адчапіўся ад яго, сказаў:

— Ладна. Як другія, так і я.

У доме Яўстрата Палазніка разгарэлася сварка.

— Выганю цябе разам з тваім таварыствам, — ускіпеў Яўстратаў бацька.

— Добра, — крыкнуў яму Яўстрат. — Пайду я ад вас, жывіце, як хочаце!..

Бацька збянтэжыўся, спужаўся. Ён шкадаваў свайго сына, спадзяваўся на свайго дастойнага памочніка.

— А хто ў арцель запісаўся? Сямён Кандратавіч уступіў? — урэшце палагаднеў ён.



— Так, уступіў, — адказаў Яўстрат, не ведаючы, чым скончылася мая размова з бацькам. — Кандратавіч не такі адсталы, як ты.

— Добра, — супакоіўся стары Мыліца. — Калі Сямён запісаўся, то і мяне запісвай.

А з Міхаілам Мажаркам бацькі зусім крута абышліся. Яны загадалі яму, каб неадкладна выпісаўся з камсамола. Мажарка не адважыўся выступіць супраць бацькоўскай волі і прынёс у ячэйку свой камсамольскі білет. Ні ў кога з камсамольцаў не раскрыўся рот, каб сказаць слова ў абарону яго. Слюнцяі нам не патрэбны былі...

Перад агульным сходам мы ўжо ведалі, што семнаццаць сем'яў былі гатовы запісацца ў арцель.

— Гэта нядрэнна, — паціраючы рукі, сказаў старшыня сельсавета Пятро Новік. — Добры пачатак.

Мы радаваліся — арцель нарадзілася. І, забягаючы наперад, я скажу, што гэта першае калектыўнае таварыства мацнела з году ў год, ператварыўшыся ў 1929 годзе ў буйны калгас, які аб'яднаў усіх шыіцкіх сялян.

Аднойчы нам з Міхаілам Палазнікам сустрэўся на беразе рэчкі стары, апрануты ў лёгкі парваны палітончык, на галаве абшмараваная шапка-аблавушка. Ён спытаў, як прайсці да Каліноўскага. Язэп Каліноўскі жыў у нашай вёсцы ўсяго некалькі год. І ўжо зарэкамендаваў сябе добрым слесарам, хутка зблізіўся з сялянамі. Мы паказалі дарогу, і ён нетаропка затрусіў па вузкай сцяжынцы, якая пятляла між кустоў. А раніцаю ў вёсцы з'явіліся чэкісты. Яны арыштавалі і дзядулю і Каліноўскага, павезлі іх ў Калінкавічы.

— За што гэта іх? — спытаў я ў майго сябра, члена райкома камсамола Трахіма Отчыка.

— Гэта польскі агент Уладэк, — адказаў Трахім. — Ён бадзяўся па вёсках і вынюхваў настроі сялян...

Хто мог падумаць, што гэты стары з пасінелым носам — заклятый вораг, перакінуты з-за мяжы. Можа яны, ворагі з-за мяжы, напалі і на нашага актыўнага селькора камсамольца Лапіцкага з вёскі Жырхаўка. Ён ішоў у Калінкавічы. Дарога вяла праз лес. Было ціха, і камсамолец па звычцы напяваў сваю любімаю песеньку:

Много стран на белом свете...

Нечакана з-за дрэў выскачылі чацвёра. Збілі з ног Лапіцкага, і яму толькі цудам удалося вырвацца з кіпцюроў бандытаў. З Лапіцкім мы сустрэліся ў райкоме камсамола.

— Гэта табе за тое, што ты выкрываеш кулакоў, — выказаў здагадку Нота Шэрман.

— Яны хочуць адпугнуць цябе ад газеты, — дадаў Міхаіл Палазнік.

— Няхай лепей не трацяць час дарэмна, — цвёрда заявіў Лапіцкі, выціраючы акрываўлены твар. — Як пісаў дагэтуль, дык і буду пісаць, пакуль не згіне апошні кулак на нашай зямлі!

А па вёсцы пранеслася новая жудасная вестка: у Булаўках стрэлам праз акно забіты актывіст, адзін з самых вядомых людзей у раёне Булаўка. Многія шыіцкія сяляне яго добра ведалі і паважалі. У клубе адбыўся мітынг, прысвечаны памяці Булаўкі.

Неўзабаве ў вёсцы засядала выязное бюро райкома партыі. Пры ўсіх сялянах разглядалася заява Ісака Сцяпанавіча Палазніка аб прыняцці яго ў партыю. Так у Шыічах з'явіўся першы камуніст.

# КУДЫ ВЯДЗЕШ, СЦЯЖЫНКА МІЛАЯ

Міхаіл Пятровіч, праверыўшы хатняе заданне па матэматыцы, усміхнуўся і сказаў



мне: «Ну вось, можаш лічыць, што праграму за сем класаў адолеў». Не паспеў я, радасны і ўсхваляваны, адчыніць дзверы роднай хаты, як бацька падаў мне ліст. Райком камсамола паведамляў, што мяне абяцаюць паслаць на вучобу ў Гомельскую саўпартшколу і прасілі паведаміць, ці згодзен я.

У мяне галава кружылася ад шчасця.

Бацькі і хлопцы-камсамольцы праводзілі мяне да Калінкавіч, пасадзілі ў вагон. Пачуўся прыглушаны гудок паравоза, і поезд крануўся. Што ж чакае мяне наперадзе?

Год у саўпартшколе праляцеў непрыкметна. Некаторыя мае таварышы хваляваліся, чакаючы, куды іх накіруюць. Я чамусьці быў спакойны. Дзе працаваць? А ці не ўсё роўна. Абы работа была па душы.

— Паедзеш у Тураўскі раён, на граніцу. Хатнікам, — сказалі мне на камісіі і спыталі: — Згодзен?

— Згодзен.

Граніца. Я шмат чуў расказаў пра бясстрашныя подзвігі пагранічнікаў, пра смелыя ўчынкі мясцовага насельніцтва на граніцы. І мне ўяўлялася жыццё ў прыгранічных раёнах нейкім асаблівым, зусім не падобным на тое, да якога я прывык. «Напэўна, страшна там», — думалася мне.

Параход «Слава» прыбыў у Тураў на світанку. Я сышоў па сходках адным з першых.

— Ваш пропуск, — строга спытаў у мяне пагранічнік, малады хлопец у акуратна запраўленай гімнасцёрцы, пацепваючыся на ранішнім халадку.

Фармальнасці з праверкай дакументаў закончаны, і я крочу ў горад. На пагорку міжвольна спыніўся, паглядзеў на захад. А дзе там гэта самая граніца? Але майму зроку адкрыліся адны лясы, якія зубчатай сцяной хаваліся на даляглядзе. У светлым небе маляўніча грувасціліся воблакі, лёгкі ветрык мякка шалясцеў у галінах дрэў, якія з абодвух бакоў цісну-ліся да дарогі. Нячутна падала на зямлю пажаўцелае лісце. Бралася ў сілу залатая восень.

Сакратар райкома, чарнявы хлопец у паўвайсковай форме, абцягнуты бліскучымі рамянямі, сустрэў мяне прыязна. Ён дастаў з сейфа карту раёна, расклаў яе на стале і ўсміхнуўся:

— Выбірай, куды хочаш?

Ён мне не даў сказаць слова і прапанаваў:

— А больш за ўсё культмасавік патрэбен у Букчы. Бачыш, вось яна, Букча. На самай граніцы...

— Калі трэба ў Букчу, паеду, — спакойна адказаў я.

— Вось і добра, — згарнуў карту сакратар. — Сёння, дарэчы, будзе пленум райкома. Гаворка пойдзе пра букчынскую камсамольскую арганізацыю. Прыходзь, пачатак у дванаццаць...

Пакінуўшы свой драўляны чамаданчык у сакратара, пайшоў прагуляцца па Тураве. За якія-небудзь дзве-тры гадзіны я многае ўбачыў: тут што ні камень, то гісторыя...

Пленум райкома камсамола пачаўся дакладна, хвіліна ў хвіліну. Спачатку гаварылі аб падрыхтоўцы да святкавання дзесяцігоддзя савецкай улады, потым размова пайшла аб рабоце букчынскай ячэйкі. Букчынскіх камсамольцаў крытыкавалі за тое, што яны замкнуліся ў сваім вузкім гуртку, забываючы пра астатнюю моладзь. Некаторыя хлопцы прыахвоціліся да гарэлкі, амаль усе дзяўчаты ходзяць у царкву.

Хацелася хутчэй дабрацца на месца. Я ледзьве дасядзеў да канца. І ўжо зусім доўгай здалася ноч. Напэўна, разоў дзесяць прачынаўся, але як ні пагляджу ў акно — цемень. Нарэшце, зашарэла. Я падхапіўся і выйшаў на вуліцу. У хуткім часе прыехала па мяне фурманка.

— Сядайце! — весела запрасіў мяне ў «палескі экіпаж» увішны хлапчук у шэрым саматканым бурносіку.

Я паклаў свой чамадан-скрыначку, сеў побач з возчыкам, і фурманка, рыпаючы нямазанымі коламі, цяжка пацягнулася па пясчанай дарозе. Дабраліся мы ў Букчу позна ўвечары. Спыніліся каля прыземістай хаціны. Было цёмна, неба засейвалася буйнымі зоркамі.



— Думаю, што вы ад нас не ўцечыцё, — засмяяўся хлапчук-возчык, выцягваючы з-пад сена маю скрыначку.

— Чаму гэтак думаеш?

— Прыкмета ў мяне ёсць, — шырока ўсміхнуўся хлапчук: — Дарога. Хто вытрымае нашу дарогу, таму, лічы, усё астатняе будзе няцяжка...

Не паспела гасцінная гаспадыня, маленькая, рухавая і гаваркая, падаць на стол вячэру, як у хату адзін за другім набілася з дзесятак сялян. Кожны, заходзячы, здымаў шапку, здароўкаўся спачатку з гаспадыняй, потым са мной, абыякава хрысціўся на абразы і сядаў на лаўку.

— Дазналіся, што новы чалавек прыехаў, — кожны з іх гаварыў заходзячы.

Неўзабаве на стале з'явіліся агуркі, сала, хлеб, бутэлькі самагону.

— Ну, чокнемся за прыезд, — сказаў гаспадар, падсунуўшы і мне кубак, напоўнены сівухай.

— Не п'ю. Дзякуй, — адмовіўся я.

— Э-э, не-е, — працягнуў ён, зноў падсунуўшы мне кубак. — У нас так нельга. Не хочаш выпіць з намі, значыць нас не паважаеш.

— Правільна, Ігнаце, — заўсміхаліся сяляне.

Я выпіў паўкубка, захліпаючыся, выцерся рукавом і ўхапіў вялікі агурок.

— Вось гэта на-нашаму, — наперабой хвалілі мяне сяляне, што сядзелі побач.

— Значыць, назусім да нас, — спытаў гаспадар. — Савецкая ўлада прыслала?

— Камсамол, — удакладніў я.

— Гэта ўсё адно, — згадзіўся Ігнат. — Я гэта к таму, што тут гавораць, нібыта польская граніца адсунецца на ўсход, аж да самага Дняпра. Як жа нам? Ці заставацца пад панамі, ці ў Расію ехаць? Але вось савецкая ўлада сваіх людзей да нас прысылае...

— Хлусня гэта наконт Дняпра, — рашуча сказаў я. — Кулацкая хлусня. Савецкая ўлада на Палессі дарогі новыя будуе, новае жыццё ў вас наладзіць жадае. А вы, Дняпро...

— Гавораць, што камсамол цэрквы закрываць збіраецца, абразы з нашых хат павыкідвае? — спытаў шыракаплечы селянін, якога, як я тут пачуў, называлі Рыгорам Лукачом.

Я не стрымаўся ад смеху.

— Царква і абразы — ваша справа. Настане час, і вы самі забудзеце дарогу да папа, абразы ў печку выкінеце...

— Крый божа, — захрысціліся сяляне. — Як жа мы будзем жыць без боржанькі?

— Пражывяцё. Я вось жыву, і нядрэнна!..

Размова пра бога, адчувалася, не спадабалася сялянам. Яны пачалі ўставаць, дзякуючы гаспадыні за пачастунак. Я чуў іх размову, якая даносілася з сенячак.

— Бязбожнік, муціць людзей прыехаў...

— Хлопец, напэўна, з нашых. Не гарадскі...

Раніцаю мне паказалі хату-чытальню. Прасторны, але вельмі закінуты будынак. Вокны павыбіваныя, заткнутыя анучамі, а ў сярэдзіне — на сценах і па кутках густая павуціна, на падлозе бруд, ля сцен усяго дзве лаўкі, ды і тыя паламаныя.

З чаго ж пачынаць? Я думаў-думаў і прыдумаў. Пайшоў да сваёй гаспадыні, узяў у яе венік, анучу, вядро з вадой і, закасаўшы рукавы, узяўся за ўборку. І так захапіўся работай, што не заўважыў, як у дом зайшоў хлопец у старым паліняўлым шынялі і зашмараванай вушанцы. Ён весела ўсміхаўся.

— Кідай анучу, — сказаў ён сур'ёзна. — Мужыкі ўбачаць — засмяюць. Не наша гэта справа — бабская...

— А наша справа, па-твойму, у гразі корпацца, — раззлаваўся я і зноў узяўся за анучу.

— Кідай гавару, — настойваў хлопец. — Абсмяюць — з вёскі ўцячэш. Лепей я паклічу дзевак. А ты кідай!..

Мы пазнаёміліся. Гэта быў Пятро Пацукевіч, першы з букчанскіх камсамольцаў. Аказваецца, ён таксама быў на пленуме райкома.

Праз гадзіну-дзве ў чытальні ўжо кіпела работа. Дзяўчат, праўда, прыйшло мала — усяго трое, затое хлопцаў набралася парадкам. Працавалі весела, з жартамі. Хлопцы майстравалі лаўкі, змяталі павуціну са столі і са сцен, выносілі вёдры з бруднай вадой. Хутка ўсё аж блішчэла. Над уваходам я павесіў шыльду: «Букчанская хата-чытальня». А крыху вышэй прыбіў свежавыструганую дошку з надпісам: «Калі ласка!»

Увечары мы справілі наваселле. У хаце-чытальні адбыўся сход камсамольскай ячэйкі. Сакратаром, між іншым, выбралі мяне.

— Гэта табе знаёмая справа, — даверліва сказалі камсамольцы.

А мне чамусьці ўспомніліся родныя Шыічы, дарога на Мазыр, па якой я накіраваўся ў самастойнае жыццё.

## ТРЫВОГА



У нас ужо набралася цэлы стос плакатаў, напісаных на шпалерах. У іх былі заклікі да сялян, ісці па шляху, які ўказаў XV з'езд партыі, расказвалася аб урачыстым пуску Волхаўскай і Шатурскай электрастанцый, аб тым, што ленінградскі завод «Чырвоны пуцілавец» выпусціў першыя трактары, а маскоўскі «АМО» — першыя аўтамабілі. Мы пісалі плакаты і марылі аб тым часе, калі трактарамі будзем узнімаць цаліну на Палессі.

Раптам з вуліцы пачуўся конскі тупат. Пятро — мой актыўны памочнік — кінуўся з хаты і на ганку сустрэўся з пагранічнікам, які саскочыў з каня і бег насустрач.

— З ячэйкі ёсць хто? — спытаў ён з трывогай.

— Ёсць, — адказаў Пятро і запрасіў пагранічніка ў хату.

— Раніцай парушана граніца, — гаварыў вайсковец. — Завірухай замяло сляды, і мы іх згубілі. Прашу памагчы.

Праз якую паўгадзіну амаль уся вёска была на нагах. Я зразумеў, што збірацца па трывозе сялянам было не ўпершыню. Падзяліўшыся на групы, яны накіраваліся да лесу. Ісці было цяжка, ногі глыбока правальваліся ў снег. Тыя, хто быў на лыжах, вырваліся наперад. Я ішоў побач з Пятром.

— Здараецца, — абыякава прагаварыў Пятро. — Але нічога. Па-першае, ты сам бачыш, у таго-сяго ёсць стрэльба, а па-другое, пагранічнікі з намі. Падай толькі сігнал, і яны будуць тут.

Людзі ішлі наперадзе і ззаду, злева і справа, некаторыя ўжо схаваліся ў лесе. Паўдня блукалі мы па лесе.

— Уцёк, напэўна...

— Далёка не ўцячэ, — упэўнена заявіў Пятро.

— Не ў нашым лесе, дык у другім зловяць. Кожная вёска ведае свой участак.

Аднекуль з-за пералеска данесліся глухія стрэлы. Хутка міма нас па прасецы прамчаўся конны пагранічны нарад. А праз паўгадзіны мы ўжо з цікавасцю разглядалі чужака з таго боку. Гэта быў рослы здаравяк у старым кажушку і ў палапленых валёнках, бледны, напалоханы.

— Прабачце, грамадзяне, — прасіў ён на чыстай беларускай мове. — У гасцях я быў, у швагра ў вёсцы, ды заблудзіўся па п'янцы. Другі дзень блукаю па лесе, дзякуй, вас сустрэў. Жыву ў Лунінцы, працую на чыгуначнай станцыі. Няхай камендатура справіцца...



— Што ж ты збялеў так? Не бойся, не з'ядзім, — гаварыў здаравяку Ігнат Акуліч. — Разбяруцца. Калі на самай справе заблудзіўся, то трымаць не будуць. Яшчэ на чарку да швагра паспееш...

Сяляне зарагаталі, заўсміхаўся і парушальнік.

Я з зайздрасцю і гордасцю глядзеў на пагранічнікаў. Вось якія яны!

Праз дзень мы даведаліся, што ў «лунінецкага хлопца» знайшлі пад латкай у валёнку шыфроўку. Вось вам і «прабачце, грамадзяне»! Граніца, нічога не скажаш.

Я прывык да парадку на граніцы, і мне ён вельмі падабаўся. Людзі тут усе ведалі адзін другога. Варта каму-небудзь заўважыць незнаёмага чалавека, як пра яго адразу было вядома ў камендатуры. Ды што чалавек — след падазроны які заўважаць і адразу пагранічнікам паведамляюць. Байцы не аднойчы гаварылі сялянам: «І мы, і вы адну вахту нясем».

Іншы раз сяляне-суседзі так пасварацца між сабой, што адзін на аднаго глядзець не хочуць. А варта вёску ўзняць па трывозе, як гэтыя самыя «ворагі» бяруць стрэльбы і бягуць у лес, пільна высочваючы перабежчыкаў.

Зусім побач з граніцай быў стары хутар Таргонскага. Яго, як гаспадара, паважалі ў Букчы. Таргонскі працаваў у полі сам, на дапамогу з боку нікога не наймаў. І на ўсю ваколіцу славіўся як стараннны гаспадар.

І вось што адбылося аднойчы. Ігнат Акуліч вяртаўся з лесу з вязанкай галля. Ён заўважыў, як у варотах Таргонскага схавалася нейкая жанчына ў чорнай хустцы і праз колькі хвілін выйшла назад, кіруючыся па дарозе ў суседнюю вёску. Ігнат пазнаў яе. Гэта была дачка багатага селяніна — Надзея.

Жанчына зайшла на хвілінку да знаёмых. У нашых калінкавіцкіх вёсках на гэта ніхто б не звярнуў увагі. Ці мала якія ў жанчын справы. Але тут Ігнат Акуліч задумаўся: «Чаму гэта Надзея нават не перадыхнула ў Таргонскага, бо прайшла ж яна без малога восем кіламетраў. Няўжо гаспадары так і не пачаставалі яе?»

У вёсцы Ігнат даведаўся, што да Таргонскага прыехаў у госці нейкі сваяк. Толькі ж во, увечары, на хутары была гулянка. «Дзіўна, — падумаў Акуліч. — Таргонскі так паважае Надзею, але нават не пачаставаў яе.» Пра ўсё гэта ён расказаў у камендатуры. І хутка выявілася цікавая гісторыя.

— Што рабіла ў Таргонскага? — спыталі пагранічнікі ў Надзеі.

— Масла насіла. Пазычалі мы ў Таргонскіх, — адказала жанчына.

— Як госць? — пажартавалі байцы. — Спадабаўся?

— А ну вас, — сарамліва затулілася рукой Надзея. — Не бачыла я яго. Спіць п'яны. Я пабыла трохі і пайшла...

Пагранічнікам усё стала ясна. Хлусіць жанчына. Не магла яна за адну хвіліну нагасцявацца. Хоць больш ніякіх доказаў не было, але на ўсякі выпадак за госцем Таргонскага, які прыехаў з Паволжжа, наладзілі нагляд. І неўзабаве раніцаю ён быў захоплены пры спробе перайсці граніцу. У яго знайшлі хітра схаванае ў ботах і ў паліто золата. Як выявілася, Таргонскі і Надзея даўно ўжо былі звязаны з кантрабандыстамі.

Трывога! Гэта хвалюючае слова даволі часта раздавалася ў Букчы. Я прывык да яго, яно не раз узнімала мяне і днём і ноччу, у летнюю спёку і зімовую халадэчу.

Аднак наша жыццё ішло сваім парадкам.

## СОНЦА НАД БУКЧАЙ



Колькі разоў даводзілася мне ўставаць з усходам сонца, але

ўсё неяк не было часу налюбавацца цудоўным малюнкам нараджэння новага дня. У тую красавіцкую раніцу чамусьці я не спяшаўся ў хату-чытальню. Выйшаў за аселіцу і спыніўся зачараваны. Нізінай слаўся густы туман, было яшчэ цемнавата, а ўжо над далёкім лесам, на даляглядзе, разліліся пунцовыя фарбы зары. Вось стрэліў першы залацісты прамень, за ім другі, трэці... І хутка над лесам усплыў акраец сонца. Мне стала неяк радасна. Самі сабой усплылі на памяць словы любімай песенькі:

Зара нам свеціць новая
Святлей і гарачэй!..

Я і не заўважыў, як апынуўся ля хаты-чытальні. Там ужо на ганку мяне чакалі камсамольцы. Мы надумаліся абмеркаваць скаргу двух маладых батракоў, якую яны падалі на кулака Лукашэвіча. Яго ў Букчы ўсе называлі «сірата». Расказваюць, што некалі яго выклікалі ў сельсавет і паведамілі, што ён абкладзены цвёрдым заданнем. Лукашэвіч расплакаўся і, усхліпваючы, прасіў:

— Людзі добрыя, пашкадуйце мяне, сірату няшчасную...

«Сірата» часта парушаў дагавор, прымушаў хлопцаў працаваць ад зары да зары, дрэнна карміў іх, вось батракі хадзілі босыя, у рызманах.

Мы з хлопцамі пайшлі да Лукашэвіча. Нас яшчэ здаля ўбачыў Міцька, яго сын, здаравяк такі. Міцька выхапіў з плоту кол і стаў у варотах.

— Хто першы сунецца, галаву расквашу!..

— Напэўна, думае, што мы біць яго ідзём за тое, што ён нам надоечы сход сарваў, — прашаптаў мне на вуха Пятро Пацукевіч.

— Ты, Міцька, не пагражай, — смела сказаў я. — Мы не да цябе, а да твайго бацькі.

— Усё роўна не пушчу, — Міцька ўзняў кол, вочы ў яго наліліся крывёю, як у быка.

Я рашуча пайшоў на двор, думаючы, што Міцька спалохаецца і не будзе нам замінаць. Але ён нечакана размахнуўся і ўдарыў мяне па галаве.

Ачнуўся я, не цямячы, што са мною і дзе я ляжу. Скрозь пеляну ўбачыў плакаты на сцяне, нада мной хлопцы, а таксама зарослы рэдкім, сівым шчаціннем твар старога Лукашэвіча. Вусны яго калаціліся, ён нешта гаварыў, але я нічога не мог разабраць. Я здагадаўся, што ляжу на лаўцы ў хаце-чытальні.

— Ты ўжо даруй, дарагі, — калоцячыся ад страху, мармытаў Лукашэвіч. — Дурань ён, гарачы вельмі. Даруй, я сам яму дам, гаду...

— Не прасіся, — злосна прагаварыў нехта з хлопцаў. — Усё роўна заявім у міліцыю.

Хлопцы прыгадалі «сіраце» батракоў, з якіх ён здзекаваўся, паставілі перад ім пытанне аб здачы лішкаў збожжа. «Сірата» паабяцаў выдаць усё, што трэба батракам, і адвезці ў сельсавет два вазы збожжа.

І тут жа ў хату-чытальню ўвайшоў сакратар райкома камсамола Хацько, які нешта доўга затрымаўся ў сельсавеце.

— Што ў вас было? — спытаў ён.

— Камсамольскі сход, — адказаў Пятро.

— А кулак тут што рабіў?

— На сходзе прысутнічаў, — зарагаталі хлопцы.

На наступны дзень мяне павезлі ў Тураўскую бальніцу. Амаль месяц праваляўся тады на бальнічным ложку.

...У Букчы мяне чакала цяжкая вестка. Пятро Пуцкевіч, хвалюючыся, расказаў, што ў суседнім Лельчыцкім раёне забіты піянер Жора Сasnоўскі. Хлапчук пасвіў калгасных кароў. Бандытам, напэўна, не адразу ўдалося расправіцца з пастушком. Жора паспеў крыкнуць, паклікаць на дапамогу, перш чым паваліўся на зямлю, аглушаны дубінай. Сяляне збегліся на крык, але выратаваць хлапчука не ўдалося. Ён паспеў толькі сказаць:

— Статак... У балота... патапіць...

Сумнення не было, піянера забілі кулакі. Новае, выходзіць, не даецца без барацьбы.

Пасля доўгага маўчання Пятроў спытаў у мяне:



— Ты што такі сумны?

— Ды так, прыгадалася нешта мінулае...

Ішлі дні, тыдні. Жыццё ў Букчы, здавалася, цякло, як і раней. Сяляне працавалі на сваіх палосках, па нядзелях маліліся ў царкве, спраўлялі рэлігійныя святы. Але на ўсім адчувалася, што новае накоплівае сілы і хутка скрышыць старое.

У Букчу прыехаў сакратар райкома партыі Лісічэнка. Сабраў сялян, выцягнуў з кішэні пакамечаны нумар газеты «Правда» і пачаў чытаць артыкул Леніна «Як арганізаваць спаборніцтва».

Новыя, невядомыя дагэтуль словы! Але кожнае з іх змушала сялян моцна задумацца, вырашыць, як жыць далей.

Пасля сустрэчы з сялянамі сакратар райкома партыі зайшоў у камсамольскую ячэйку.

— Вось што, браткі, — сказаў ён нам. — Камсамол пачынае масавы паход за калектывізацыю сельскай гаспадаркі. Вашы сябры — талачынскія камсамольцы кінулі заклік: «Камсамолец першы ўступае ў калгас!» — Лісічэнка акінуў нас цёплым уважлівым позіркам і спытаў: — Як, хлопцы, падтрымаем талачынцаў?

— Падтрымаем!

— Правільна, — адобрыў нас Лісічэнка. — Партыя пачынае вялікую работу па пераводу аднаасобнай сельскай гаспадаркі на сацыялістычныя рэйкі. На моладзь ускладаюцца адказныя абавязкі.

— Мы партыю не падвядзем!

...Вясною мяне адклікалі ў раён. Я мог бы сабрацца ў дарогу за адну хвіліну: падхапіў чамаданчык і — усе зборы. Але з ад'ездам знарок марудзіў, вельмі хацелася дачакацца першай калектыўнай баразны. І вось зямля падсохла. Раніцаю калгаснікі запрэглі коней, выехалі ў поле. За аселіцай на ўчастак, дзе пачыналася ворыва, сабралася амаль уся вёска. Старшыня сельсавета Ігнат Акуліч пажадаў калгаснікам ад імя савецкай улады поспехаў і, памахаўшы шапкай, весела крыкнуў:

— Кратай!

Коні выцягнуліся ў ланцужок. Плугі адзін за другім мякка ўрэзаліся ў зямлю, пераварочвалі пласты, пад якімі назаўсёды заворваліся межы, парослыя бурай леташняй травой. Разам з межамі руйнавалася мінулае аднаасобнае жыццё, поўнае гора і нястачы.

Узыходзіла яркае веснавое сонца. Калгасная Букча патанала ў яго залацістых праменнях.

**Рыгор ГУЖАВІН,**
**былы рэдактар газеты**
**«Молодой мститель»**

# З ГАЗЕТАЙ І ЛІСТОЎКАЙ У РУКАХ

Жнівень 1943 года. Радыё штодзённа прыносіць нам радасныя весткі з франтоў. Горача даводзіцца гітлераўскім ваякам. Пад націскам Савецкай Арміі яны адступаюць.

Адчуваючы правал на фронце, гітлераўскае камандаванне ўзмац-


Молодой
мститель
VI сесія Вярхоўнаг
Беларускай

ніла націск на партызан. Дзесяткі тысяч адборных гітлераўскіх войск СС і СД, паліцэйскіх з мясцовых гарнізонаў, вайсковых злучэнняў былі кінуты на партызан былой Баранавіцкай вобласці. Больш месяца карная экспедыцыя суцэльным фронтам, блакіраваўшы Івянецкую, Валожынскую і Налібоцкую пушчы, спрабавала знішчыць народных мсціўцаў. Але і тут гітлераўцаў спасціг такі ж лёс, як і на фронце. Партызаны адбілі ўсе атакі карнікаў. Перамога гэта далася нам нялёгка. У нас не хапала боепрыпасаў, прадуктаў, але з баёў мы выйшлі яшчэ больш моцнымі сілай і духам. Нашы рады папоўніліся маладымі патрыётамі з мясцовага насельніцтва, многія падраздзяленні цалкам аснасціліся трафейнай зброяй...

Пасля ўпартых, зацятых баёў з ворагам, мы пачалі будаваць сваю новую базу ў Івянецкай пушчы.

Надвячорак летняга спякотнага дня. Сонца паволі апускалася да зямлі. Дзьмуў лагодны ветрык. Адчувалася дыханне блізкай восені. Мы сядзім на свежых бярвеннях. Тут будзе новая зямлянка. Побач катлаван пад зямлянку Баранавіцкага падпольнага абкома камсамола, далей зямлянкі штаба партызанскага злучэння, рэдакцыі газеты «Чырвоная звязда», склады...

За дзень зроблена шмат. Стомленыя, але задаволеныя плёнам сваіх рук партызаны гавораць пра новы лагер, які трэба хутчэй будаваць, пра нядаўнія баі з карнікамі. Хлопцы ўспамінаюць аб тым, як усю ноч пад праліўным дажджом выходзілі з акружэння, як на дарозе Івянец — Бакшты знішчылі галаўную калону гітлераўцаў, захапілі штаб і ўсе аператыўныя планы карнай экспедыцыі...

Падышоў камісар партызанскай брыгады імя Чкалава Іван Пятровіч Казак і, працягнуўшы лісток, сказаў:

— Вось паглядзіце, што пішуць фашысты!

Гэта быў нумар «Мінскай газеты», якую толькі што прывёз з-пад Мінска начальнік разведкі Анатоль Мяккіх.

У ім — хвалебнае паведамленне нямецкага камандавання аб тым, што «днямі на захад ад Мінска буйныя армейскія злучэнні СС і авіяцыі знішчылі вялікія сілы партызан... Камандуючы партызанамі, у мінулым вялікі партработнік Платон (клічка сакратара Баранавіцкага падпольнага абкома партыі В. Я. Чарнышова. — **Р. Г.**), з групай сваіх прыбліжаных прарваўся з акружэння на танках, але быў злоўлены доблеснымі войскамі СС і забіты».

Усе рагаталі. Вось гэта хлусы! Хіба мы ўваскрэслі, ці што? І сакратар абкома Васіль Яфімавіч Чарнышоў жывы і здаровы, і ні на якіх танках не прарываўся з блакады. Ды ў нас і не было ніводнага танка.

— Трэба нам стварыць сваю камсамольскую газету, — сказаў сакратар абкома камсамола Аляксандр Рыбакоў.

Прапанова гэта была сустрэта прыхільна. Ідэя захапіла нас усіх. Але ў нас не было ні шрыфтоў, ні фарбы, ні паперы. Не было і практыкі. Ніхто з нас да вайны ніколі не займаўся гэтай справай, але прапанову гэту падтрымалі ўсе.

На наступны дзень Саша Рыбакоў быў у сакратара падпольнага абкома партыі Васіля Яфімавіча Чарнышова і сакратара ЦК ЛКСМ Беларусі Фёдара Анісімавіча Сурганава.

— Што ж, выдавайце. Але дзе вы дастанеце паперу?

— Мы яе знойдзем у варожых гарнізонах.

— Хто вам будзе друкаваць газету?

— Ёсць друкары. Барыс Перальман, Міша Радкевіч, Геня Левін, якія працуюць у рэдакцыі абласной падпольнай партыйнай газеты «Чырвоная звязда».

Так пачалася падрыхтоўка да выпуску першага нумара. Газету вырашылі назваць «Молодой мститель». Інструктары падпольнага абкома камсамола Грыша Фамічоў, Валодзя Хазяеў, сакратар абкома Саша Рыбакоў і яго памочнік Іван Мацко паехалі ў партызанскія атрады, каб расказаць пра гэтае рашэнне.

Неўзабаве да нас пачалі прыходзіць матэрыялы пра баявыя дзеянні маладых партызан, пра зверствы нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Разведчыкі і сувязныя здабылі першыя кілаграмы паперы, крыху фарбы.

Першы нумар газеты «Молодой мститель» рэдагаваў Аляксандр Рыбакоў. Наступныя нумары было даручана рэдагаваць і выдаваць мне.

Цяпер цяжка сабе ўявіць, з якім хваляваннем чыталі маладзёжную партызанскую газету не толькі юнакі і дзяўчаты, але і пажылыя людзі. Яна перадавалася з рук у рукі. Кожны, хто прыходзіў з газетай, быў лепшым госцем.

У верасні і кастрычніку 1943 года ў партызанскіх атрадах і брыгадах разгарнулася сацыялістычнае спаборніцтва камсамольцаў і моладзі за дастойную сустрэчу 25-годдзя Ленінскага камсамола. Маладыя партызаны вобласці падрыхтавалі і паслалі ў Маскву ў ЦК ВЛКСМ баявы рапарт. Гэты рапарт быў зачытаны сакратаром ЦК ЛКСМ Беларусі тав. Зіміным на ўрачыстым сходзе камсамольскага актыву ў Вялікім тэатры Саюза ССР.

Моладзь Баранавіцкай вобласці ў сваім баявым данясенні, якое было апублікавана ў газеце «Молодой мститель», пісала: «Камсамольцы, маладыя партызаны пусцілі пад адхон 394 эшалоны праціўніка, разбілі 353 паравозы, 2 702 вагоны, падарвалі 10 000 рэек, разбурылі 78 кіламетраў чыгуначнага пуці, узарвалі 680 аўтамашын і 100 трактараў, знішчылі дзесяткі кіламетраў сувязі, разграмілі больш 100 нямецкіх гарнізонаў і гарадскіх упраў. Маладыя партызаны знішчылі звыш 30 тысяч нямецкіх акупантаў».

У гэтым жа нумары газеты быў змешчаны даклад сакратара Цэнтральнага Камітэта ВЛКСМ тав. Міхайлава на ўрачыстым сходзе камсамольскага актыву ў Вялікім тэатры СССР 19 кастрычніка 1943 года.

У адным з нумароў у перадавым артыкуле «Мацней удары па ворагу!» расказвалася пра баявы подзвіг камсамольца Васіля Сілюціна, які са сваімі баявымі таварышамі спусціў пад адхон 14 варожых эшалонаў. Васіль Сілюцін загінуў смерцю героя, завязаўшы паўтарагадзінны бой з карнікамі. Перадавы артыкул заканчваўся словамі: «Малады партызан! Бі фашыстаў без літасці!..»

Дзесяткі данясенняў, сотні карэспандэнцый прыходзілі ў газету. Іх аўтарамі былі камісары і іх памочнікі па камсамолу, камандзіры рот і ўзводаў, разведчыкі, падрыўнікі, сакратары падпольных райкомаў камсамола.

«У вёсцы Страмілаўшчына, — паведамлялася ў адной з карэспан-

**У друкарні газеты.**



дэнцый,— фашыст схапіў маладую жанчыну Крамянеўскую Аляксандру, маці дваіх дзяцей, і хацеў яе згвалціць. Калі Аляксандра стала супраціўляцца, гітлеравец застрэліў яе. Тое ж зрабілі акупанты з дзяўчынай у вёсцы Емяльянавічы. Яны згвалцілі яе, а гаспадыню забілі. Такія ж сляды злачынстваў пакінуў 57-ы батальён у вёсках Сінічата, Гайбуты, Кабыльнікі і іншых».

Як жа адказвала насельніцтва на здзекі фашыстаў? У другім артыкуле, надрукаваным у газеце «Молодой мститель», паведамлялася пра тое, што ў Любчанскім раёне моладзь збегла з мабілізацыйнага пункта. Другая група юнакоў — 30 чалавек, не чакаючы гвалтоўнай мабілізацыі, прыйшла ў партызанскі атрад, каб помсціць фашысцкім катам. Гнеўным адказам гітлераўцам на іх злачынствы гучалі словы, якімі заканчваўся артыкул «Няхай помняць фашысцкія гвалтоўнікі, што ніякія катаванні, пакуты, тэрор і гвалт не прымусяць беларускі народ ваяваць на баку Гітлера».

Газета своечасова раскрывала задумы немцаў па гвалтоўнай мабілізацыі моладзі. Так, «Молодой мститель» 21 сакавіка 1944 года пісаў: «Фашысты адчуваюць сваю немінучую пагібель... Нашы доблесныя войскі вядуць бai на подступах Віцебска і Оршы, за Бабруйск і Жлобін... Каб уратавацца ад гібелі, фашысты прыймаюць усе меры, каб выйсці з катастрафічнага становішча. Нямецкія акупацыйныя войскі з гэтай мэтай аб'явілі мабілізацыю беларускага народа ў нямецкую армію».

Расказаўшы падрабязна аб становішчы на франтах, аб поспехах Савецкай Арміі, аб адступленні нямецкіх войск, газета заклікала моладзь ісці ў лясы, у партызанскія атрады, помсціць немцам за ўсе іх злачынствы. Гэтыя палымяныя заклікі даходзілі да свядомасці беларускай моладзі. У газеце было апублікавана пісьмо жыхара Мірскага раёна Васіля Бойкі, які разам з іншымі мабілізаванымі, нягледзячы на ўзмоцненую абарону, прыйшоў у партызанскі атрад імя Кірава, каб помсціць праклятым вылюдкам за кроў і слёзы свайго народа. Васіль быў адважным партызанам.

Газета з нумара ў нумар заклікала моладзь вывучаць айчынную і трафейную зброю, біць без промаху па ворагу. «Цяжка ў вучэнні — лёгка ў баі» — пад такой рубрыкай рэгулярна змяшчаліся матэрыялы аб вывучэнні юнымі патрыётамі тактыкі барацьбы з хітрым ворагам.

Газета выходзіла два разы на тыдзень невялікім фарматам. І ўсё ж яна рэгулярна інфармавала партызан і насельніцтва аб становішчы на франтах Айчыннай вайны, друкавала зводкі Саўінфармбюро, расказвала аб поспехах Савецкай Арміі, аб адступленні нямецкіх войск, усяляла ўпэўненасць у народзе ў хуткую перамогу над ворагам, заклікала моладзь на ратныя подзвігі. Маладыя партызаны дастаўлялі яе ў самыя аддаленыя пункты, у паліцэйскія ўправы і нямецкія ўстановы. Часта газета паяўлялася на тэлеграфных слупах і дошках аб'яў у Баранавічах, Маладзечна, Лідзе, Стоўбцах, Дзяржынску і іншых гарадах і вёсках.

Трэба было бачыць, з якой злосцю жандары і паліцэйскія зрывалі і знішчалі гэты невялічкі лісток, што нёс людзям праўду. Фашысты наладжвалі вобыскі на базарах і нават у лазнях... Аднак спробы іх былі марныя. Газета зноў і зноў паяўлялася ў самых нечаканых месцах.

На старонках газеты часта друкаваліся вершы, партызанскі фальклор, частушкі, гумарэскі. Яны трапна высмейвалі фашыстаў.

«У турме адзін з гітлераўцаў пытаецца ў другога:

— За што ты, Ганс, трапіў у турму?

— За тое, што я няправільна адказаў на пытанне: «Што чакае Германію пасля заканчэння вайны з Расіяй?»

— А ты за што трапіў у турму?

— За тое, што правільна адказаў на гэтае пытанне».

Друкавалася і партызанская сатыра. Вось сатырычныя замалёўкі:

«— Скажы, Вілі, куды пойдзе наш поезд?

— Вядома куды—пад адхон».

«— А Карл усё ж пазбег партызанскай кулі.

— Як гэта яму ўдалося?

— Вельмі проста. Ён узарваўся на партызанскай міне».

Складалі партызаны і частушкі:

«Не хочу я жить уныло,
Оставляю дом отцов.
И пойду я вместе с милым
В партизаны — бить врагов.

Не ходить фашистам-гадам,
Наших стежек не топтать.
Я пойду с милёнком рядом
В партизаны воевать».

Гэтыя частушкі спявалі ў вёсках, на хутарах і ў партызанскіх атрадах.

Калі акупацыйныя ўлады вырашылі стварыць на тэрыторыі часова захопленай Беларусі арганізацыю «Саюз беларускай моладзі» (СМБ), лістоўкі расказвалі юнакам і дзяўчатам пра сапраўдныя мэты гэтага фашысцкага саюза.

Напярэдадні вызвалення Баранавіцкай вобласці абком ЛКСМБ выдаў вялікімі тыражамі лістоўкі-звароты «Да моладзі Баранавіцкай вобласці», у якіх падрабязна расказвалася аб паспяховым прасоўванні Савецкай Арміі, аб адступленні нямецкіх войск, аб задачах моладзі ў сувязі з баявымі аперацыямі, што разгарнуліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Апошняя лістоўка была выдадзена 29 чэрвеня 1944 года, за тры дні да вызвалення Мінска. Кожны вечар мы сустракалі і праводзілі позіркамі эскадрыллі савецкіх цяжкіх бамбардыроўшчыкаў, што накіроўваліся на Берлін, а раніцай слухалі па радыё пра вынікі налётаў авіяцыі на германскую сталіцу і іншыя гарады фашысцкага логава. І спяшаліся расказаць пра гэта сваім чытачам. «Молодой мститель» і лістоўкі друкаваліся ў маленькай паходнай партызанскай друкарні.

Мы жылі ў невялікай зямлянцы. Ля акна стаяла наборная каса, а ў сярэдзіне зямлянкі—друкарскі станок. Мясцовыя матэрыялы набіраліся днём, а матэрыялы, атрыманыя з савецкага тылу, зводкі Саўінфармбюро—ноччу.

Памятаю, я ўсю ноч з 6 на 7 лістапада 1943 года прымаў па радыё перадачу для абласных газет—даклад аб 26-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Пры святле газоўкі вычытвалі матэрыял і перадавалі ў друкарню. Працавалі да раніцы. З намі працаваў усю ноч і Ф. А. Сурганаў.

А калі развіднела і партызаны пачалі збірацца на святочны мітынг, газета з дакладам была ўжо надрукавана. Пасля мітынгу разведчыкі, падрыўнікі панеслі яе ў варожыя гарнізоны, у вёскі, на хутары...

Штодзённа займаліся газетай і кіравалі ёю сакратар абкома КПБ В. Я. Чарнышоў і сакратар ЦК ЛКСМБ Ф. А. Сурганаў. Яны часта выклікалі мяне, цікавіліся зместам газеты, яе планамі, давалі парады па зместу і афармленню. Многа ўвагі газеце аддавалі сакратар абкома камсамола А. Рыбакоў і Ф. Башкінцаў.

Было так, што разведчыкі, падрыўнікі, баявыя падраздзяленні не хацелі ісці на баявыя аперацыі без газеты. Кожны імкнуўся захапіць з сабой як мага больш нумароў. Для яе друкавання не хапала паперы, таму партызаны лічылі сваім абавязкам, вяртаючыся з баявога задання, абавязкова прыносіць хоць крыху паперы.

Апошні—трыццаты нумар «Молодого мстителя» выйшаў 28 чэрвеня 1943 года, калі нашы войскі аваладалі Віцебскам і Оршай, завязалі вулічныя баі ў Магілёве, падышлі ўшчыльную да Бабруйска і завязалі баі на яго ўскраінах, зрабілі масіраваныя налёты бамбардыровачнай авіяцыі на чыгуначныя станцыі Барысаў, Лунінец... Гітлераўцы адступалі. Ужо былі чуваць раскаты кананады савецкай артылерыі. Да нас прыйшлі першыя армейскія разведчыкі. Партызаны разам з войскамі фронта занялі ўсе пераправы праз рэкі Нёман, Пціч, Свіслач, Бярэзіну, перарэзалі шасейныя дарогі...

З газетай і лістоўкай у руках ішлі партызаны ў вёскі, паведамлялі насельніцтву аб тым, што час вызвалення настаў.

## Навука і культура

# АБ ЧЫМ РАСКАЗАЎ ФАТОН

Даўным-даўно ў нейкай аддаленай галактыцы жылі-былі дзве маленькія элементарныя часцінкі—Пратон Нуклонаў і Піноль Мезонава. Аднойчы яны сустрэліся, і паміж імі ўстанавілася такое моцнае ўзаемаразуменне, што яны жыць адзін без аднаго не маглі. Неўзабаве, на вялікую радасць абедзвюх часцінак, у іх нарадзіўся сын, якога яны назвалі Фатонам электрамагнітным.

У элементарных часцінак ужо так павялося, што дзеці не заседжваюцца дома, а з першых жа мікрасекунд свайго жыцця становяцца самастойныя. Адны з іх адпраўляюцца ў далёкія падарожжы, другія адразу ж распадаюцца, нараджаючы новыя часцінкі.

Наш Фатон належаў да ліку першых. Яму суджана было прамчацца з хуткасцю святла многія мільярды кіламетраў. Нягледзячы на такі доўгі шлях, зборы ў дарогу былі нядоўгія і заключаліся галоўным чынам у бацькоўскіх настаўленнях — у Фатона ж няма масы спакою і пытанне пра багаж нават не ўзнікала.

— Ну, сынок,—сказаў Пратон,—будзь сапраўдным Фатонам. Твая частата—гэта амаль усё, што ты маеш. Не растрачвай дарэмна, але і не ўцякай ад жыццёвых выпрабаванняў. І калі спатрэбіцца аддаць, дык аддай з гонарам.

Калі Піноль злавалася, яна называла свайго мужа па прозвішчу. Таму яна сказала:

— Паслухай, Нуклонаў, як ты вучыш сваё дзіця? Ты хочаш, каб ён загінуў заўчасна? Лепей бы параіў яму не бегаць са звышсветлавой хуткасцю або яшчэ што-небудзь. А ты...

— Чыста мезонная логіка ў цябе, дальбог. Навошта перасцерагаць яго ад таго, што ніяк не можа адбыцца? У фатонаў жа толькі адна хуткасць—светлавая, яны не могуць яе ні знізіць, ні перавысіць.

— А па-твойму, дык наогул не даваць парады? Тады ўжо лепей памаўчы, я раіць буду. Вось што, сынок: калі табе падабаецца твой колер твару, не ўдзельнічай у кamптон-эфекце—можаш страціць свой колер. Потым, калі табе шкада сваёй палярызацыі, не звязвайся з непалярызаванымі фатонамі. Што ж яшчэ?.. Ага, вось што: атамы і малекулы абмінай. Яны тым і жывуць, што паглынаюць такія маленькія фатончыкі, як ты...

— Прабач, мама, перапыню цябе,—умяшаўся Фатон.—Дзякуй за вашы парады і настаўленні. Але, на жаль, у сваіх учынках я магу кіравацца выключна фізічнымі законамі і больш нічым... А цяпер мне пара.

— Ну што ж, бывай, Фатон,—сумна прамовіў бацька. І яны моцна, па-электрамагнітнаму, абняліся.

— Не, не «бывай», а «да пабачэння»,—запярэчыла Піноль.—Таму што я веру ў канчатковы радыус крывізны нашага свету, гэта значыць, што Фатон, нават не сутыкаючыся ні з чым, рухаючыся ўвесь час прама, можа калі-небудзь вярнуцца да нас... Так што да пабачэння, сынок!





І Фатон адправіўся ў свой далёкі шлях. Ішлі гады, стагоддзі, тысячагоддзі... А наш Фатон, падпарадкоўваючыся законам фізікі, працягваў сваё імклівае падарожжа. Іншы раз на шляху яго сустракаліся асобныя атамы і элементарныя часцінкі, ва ўзаемадзеянні з якімі ён высвятляў свае адносіны да іх, няўхільна трацячы пры гэтым сваю частату. Элементарным часцінкам жыццёвы вопыт таксама дорага дастаецца. І таму Фатон перш за ўсё адзначыў, што электрычна незараджаныя часцінкі, у адрозненне ад зараджаных, не аказваюць на яго ніякага ўздзеяння... Але мы не можам падрабязна спыняцца на апісанні ўсяго таго, што адбывалася з нашым Фатонам у час яго доўгага падарожжа, а раскажам толькі пра адну сустрэчу, якая адбылася ў непасрэднай блізкасці ад планеты Зямля.



— Глядзіце, глядзіце,—прапішчала маленькае Нейтрына, — які сімпатычны чырвоны Фатон!

— Эй, Фатон, ты адкуль?—пракрычаў Электрон.

— Наогул я не з вашай сонечнай сістэмы і нават не з вашай галактыкі,—адказаў Фатон.—Але раней даводзілася бываць у вас. У 1676 годзе мне, разам з іншымі фатонамі пашчасціла прыняць удзел у доследзе Ромера па вызначэнню хуткасці святла. Ведаеце, гэты славуты дослед вызначэння хуткасці святла па яўнай неаднароднасці вярчэння спадарожнікаў Юпітэра?

— Ого, амаль трыста гадоў назад! Вось гэта дык узрост!—пазайздросціў Нейтрон.—А мне на жыццё ўсяго каля адзінаццаці хвілін адведзена. Пасля гэтага я ператвараюся ў Пратон, Электрон і Нейтрына.

— Гэта яшчэ добра,—уступіў у размову Сігма-Мінус Гіперон, які толькі што нарадзіўся.—А я жыву ўсяго толькі...—і, не паспеўшы дагаварыць, ён ператварыўся ў Нейтрон і Пі-Мінус Мезон.

— А колькі ж табе гадоў?—з цікавасцю спытаў Мюон, не звяртаючы ніякай увагі на пагібель Гіперона.

— Гэта гледзячы па якому часу. Па зямным календары мне даўно ўжо за сотню мільёнаў гадоў пераваліла, а па свайму ўласнаму часу—я і імгнення не пражыў. Рухаюся я з хуткасцю святла, і час для мяне нібы спыніўся.

— Эй, Фатон!—без усякай пашаны да ўзросту крыкнуў Электрон.—Я цябе ведаю! Гэта, напэўна, ты штурхнуў мяне пазаўчора так, што я ледзь з электроннай абалонкі не выскачыў? Не? Ну, дык, значыць, гэта быў твой кум або сват, словам, нехта з вашага ж фатоннага роду. Памяркуйце самі: кручуся я сабе паціхеньку (хуткасць каля дзесяці тысяч кіламетраў у секунду) па знешняй электроннай абалонцы свайго атама, раптам бачу—нейкае страшыдла на наш атам імчыцца. Я і ўхіліцца не паспеў, як ён—тррах! Трэба ж—такі жорсткі, некультурны Фатон! Не папрасіў нават прабачэння—хоць бы што яму. Але пачырванеў усё ж. Думаеце, гэта азначае, што ў яго сумленне ёсць? Зусім не: гэта ён чыста ў фізічным сэнсе пачырванеў—частата яго да чырвонага канца спектра перамясцілася!

— Ну, хопіць ужо табе!—злосна абарваў Электрона Пратон.—Фатон жа сказаў, што гэта не ён быў. Спытаў бы лепей, дзе Фатон бываў, з кім сустракаўся: за такое доўгае жыццё шмат можна ўбачыць.

— На самай справе, раскажы!—хорам закрычалі ўсе часцінкі.

— Ну што ж, калі ласка,—ахвотна згадзіўся Фатон.—Нарадзіўся я ў далёкай галактыцы, не ведаю, як яна па-вашаму, па-зямному, называецца...

— А які працэс выклікаў тваё нараджэнне?—пацікавіўся Мюон.

— Звычайны радыяцыйны захоп. Часцінка Пі-Мезон трапіла ў сферу дзеян-



ня Пратона і была захоплена ім, у выніку чаго я і нарадзіўся. І адразу ж адправіўся ў дарогу. Ну і спрачаліся ж з-за мяне, у тым ліку і ў вас, на Зямлі! Адны вучоныя лічылі мяне хваляй, другія — часцінкай...



— А на самай справе чым жа ты быў?



— Уявіце сабе: і тым, і другім! У адных умовах, як, напрыклад, у доследах па інтэрферэнцыі і дыфракцыі, праяўляюцца ўсе мае хвалевыя ўласцівасці, у іншых — карпускулярныя, «часцінкавыя»...

— А ў якіх канкрэтна доследах ты паводзіш сябе як часцінка? Нам, элементарным часцінкам, якія валодаюць пераважна карпускулярнымі ўласцівасцямі, гэта асабліва цікава.

— У доследах Лебедзева, напрыклад. Праўда, я асабіста ў іх не ўдзельнічаў, але ад відавочцаў-фатонаў чуў, што там ім удалося злёгку павярнуць лопасці маленькай вяртушкі і даказаць тым самым, што ўсякі фатон пры пэўных умовах можа паводзіць сябе як часцінка, якая валодае энергіяй і колькасцю руху.

— А яшчэ ў якіх?

— Напрыклад, у фотаэфекце.

— Гэта што—доследы Сталетава?

— Зусім правільна.

— Я, бадай, лепш, чым ты, змагу расказаць пра іх, — заявіў Электрон. — Электронам там здорава дасталося. Фатоны выбівалі нас з металічнай пласцінкі, і нам нічога не заставалася рабіць, як рухацца ў кірунку дадатнага электрода. Такім чынам, мы замыкалі ланцуг, і ў ім узнікаў ток.

— Менавіта так яно і было, — працягваў Фатон. — Я хацеў бы дадаць да гэтага толькі тое, што гэтыя доследы не ўдавалася растлумачыць да таго часу, пакуль не ўявілі святло ў выглядзе патоку квантаў — «порцый» святла. Гэтае ўяўленне аб квантах святла, або фатонах, было ўпершыню ўведзена ў навуку Эйнштэйнам у 1905 годзе. А крыху пазней, у трыццатыя гады, была непасрэдна даказана наяўнасць у фатонаў карпускулярных уласцівасцей. Гэта так званыя доследы Вавілава. Нас там літаральна пералічылі па пальцах, даказаўшы тым самым, што кванты святла рэальна існуюць.

— А ці праўду кажуць, што Фатон — самая хуткая з элементарных часцінак? — спытаў Электрон, хітра ўсміхаючыся.

— Так, мы, фатоны, сапраўды абсалютныя чэмпіёны па бегу, калі не лічыць Гравітона і Нейтрына, якія, відаць, таксама рухаюцца з хуткасцю святла, аднак іх вынікі пакуль афіцыйна не зарэгістраваны.

— Так-так, — гаварыў далей Электрон. — Але я ведаю выпадак, калі, спаборнічаючы ў бегу з Фатонам, Электрон выйшаў пераможцам.

— Ой, я зусім забыўся пра гэтую цікавую з'яву! Ты маеш на ўвазе выпраменьванне Чаранкова? Сапраўды, калі Электрон рухаецца ў рэчыве, а не ў пустаце, то пры пэўных умовах ён здолее перагнаць выпрамененыя ім самім






фатоны. І адбываецца гэта таму, што хуткасць святла ў рэчыве меншая, чым у пустаце, і для кожнага рэчыва строга пэўная; хуткасць жа Электрона вызначаецца толькі яго энергіяй і абмежавана толькі хуткасцю святла ў пустаце!

— Дзядзечка Фатон, — тоненькім галаскам прапішчала Нейтрына, — а ў мяне да вас такое пытанне: якія цяжкасці вам даводзілася сустракаць у жыцці?

— Цяжкасцей асаблівых не было, але былі моманты, калі я быў сур'ёзна занепакоены за свой лёс.

— Ах, раскажыце пра гэта!..

— Упершыню ў жыцці я спалохаўся, калі быў паглынуты атамам вадароду. хоць, як потым аказалася, падстаў для страху ніякіх не было, таму што гэта было рэзанансное паглынанне. Ужо праз адну стомільярдную долю секунды я апынуўся на волі, цэлы і здаровы, таму што частата мая зусім не змянілася пры гэтым. Але гэта яшчэ дробязь. Аднойчы мяне захапіла люмінесцэнтная малекула. Вось дзе страху нацярпеўся я: яна захапіла мяне ледзь не на цэлую секунду! На гэты раз мне не ўдалося так лёгка выбавіцца: пры люмінесцэнтным выпраменьванні малекула, кіруючыся правілам Стокса, забрала ў мяне невялікую порцыю частаты.

Потым я прывык да такіх з'яў і, калі мне разам з іншымі фатонамі даводзілася ўдзельнічаць у стварэнні лазернага пучка, перанёс паглынанне атамам хрому даволі спакойна; але затое потым... Мала таго, што мяне перафарбавалі ў чырвоны колер (перад гэтым я быў зялёны, і да гэтага часу не магу прывыкнуць да новага колеру), наогул не ведаю, як я адтуль уцёк. У гэтым лазерным пучку была створана такая велізарная канцэнтрацыя фатонаў, што, каб у нас былі рэбры, яны абавязкова трашчалі б. Доўга мы ляцелі па прамой у такой жудаснай цемры. Нарэшце мне ўдалося рассеяцца, толькі тады я ўздыхнуў свабодна. У такія моманты спачуваеш, што Фатону не дадзена самому мяняць кірунак свайго руху.

— Але, наогул, кірунак твайго перамяшчэння можа быць зменены?

— Ну, вядома. Напрыклад, усе сутыкненні з атамамі, малекуламі і часцінкамі прыводзяць да змянення кірунку майго руху. Калі б не яны, я ніяк не змог бы двойчы пабываць на вашай планеце — бо паміж сутыкненнямі фатоны распаўсюджваюцца прасталінейна. Я ўжо не кажу пра такія агульнавядомыя сродкі, як лінзы, люстэркі, прызмы, светлаводы... А як вы думаеце, аб чым сведчыць такі факт: размяшчэнне зорак, бачных паблізу Сонца ў час сонечнага зацьмення, крыху іншае, чым тых жа зорак ноччу... Ясна, што аб скрыўленні промня святла ў полі прыцягнення Сонца. А яшчэ аб тым, што ў мяне ёсць маса.

— Маса? У Фатона?

— Так, маса. Звязаная з рухам, вядома: гэта маса спакою роўна нулю. Фізікі Паунд і Рэбка змаглі нават «узважыць» мяне, знайшоўшы маю масу руху, выкарыстаўшы эфект Мёсбауэра для рэгістрацыі змянення маёй частаты ў гравітацыйным полі Зямлі... Вельмі хацелася б пагаварыць з вамі пра гэта і пра многае іншае больш падрабязна, але, на жаль, час майго ўзаемадзеяння з вамі канчаецца... Бывайце!

— Прасталінейнага шляху і прыемных сустрэч! — хорам адгукнуліся часцінкі.

**Алесь БОЛСУН,**
**Уладзімір ТРАЦЯКОЎ.**

Малюнкі **К. Ціхановіча.**

# МАСТАК ВЯЛІКАЙ ПРАЎДЫ

**Да 90-годдзя з дня нараджэння М. А. Андрэева**

Творчасць Мікалая Андрэевіча Андрэева — выдатнага майстра рускага і савецкага мастацтва—з'яўляецца прыкладам самаадданай працы і з поўным правам можа быць названа грамадзянскім подзвігам мастака. Дасягненні ў галіне манументальнай скульптуры, выразная партрэтная графіка і, у асаблівасці, натхнёная і старанная праца над увекавечаннем вобраза Уладзіміра Ільіча Леніна ставяць Андрэева ў першыя шэрагі змагароў за савецкую рэалістычную творчасць.

Вялікі і складаны творчы шлях прайшоў мастак, які, падобна многім выдатным дзеячам мастацтва, выявіў новыя грані свайго магутнага таленту ў паслякастрычніцкі перыяд.



М. А. Андрэеў.

Сын былога прыгоннага селяніна, Мікалай Андрэевіч скончыў чатырохкласнае вучылішча ў Маскве і ў дванаццаць год паступіў у Строганаўскае вучылішча тэхнічнага малявання. Пасля яго заканчэння з 1892 года да 1918 года Андрэеў працаваў у вучылішчы выкладчыкам малюнка, а пазней і скульптуры. Настойлівы і патрабавальны да сябе, Андрэеў прадаўжае сваю мастацкую адукацыю ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і архітэктуры, спачатку на аддзяленні жывапісу, а потым на вячэрнім скульптурным аддзяленні, сумяшчаючы вучобу з выкладаннем.



Панька. 1912—1913 гг.

У першых жа работах мастака выявілася дэмакратычная накіраванасць Маскоўскага вучылішча жывапісу, скульптуры і архітэктуры, якое падтрымлівала ў сваіх выхаванцах цікавасць да жыцця народа. Скульптура «Жняя», выкананая Андрэевым пры заканчэнні вучылішча, была адзначана сярэбраным медалем. Глыбока паэтычны вобраз маладой маці створаны па ўражаннях маленства. Зачароўвае натуральнасць фігуры прыгожай сялянкі, яе мяккі, задумлівы позірк. Тонкае выяўленне формы спалучаецца з свабоднымі мазкамі, што надаюць паверхні гарэзную ігру светацeню. Гэта была даніна, якую Андрэеў аддаваў новаму кірунку ў рускай скульптуры — імпрэсіянізму. Своеасаблівасць імпрэсіянізму Андрэева выразна відаць у яго серыі партрэтаў дзеячоў літаратуры і мастацтва (пачатку 900-х гадоў), выкананых у сакавітай, «жывапіснай» манеры, якая не захоўвае, аднак, моцна зладжанай формы.

У выніку паездак і вывучэння народнай творчасці з'явілася серыя скульптур мардоўак і тульскіх жанчын. Выкананыя ў кераміцы па некалькі экземпляраў, яны адрозніваюцца колерам і тэхнікай роспісу. На дзіва прыгожая «Галава мардоўкі» пакрытая цёмна-сіняй эмаллю. Кампактнасць яе формы і скупасць дэкаратыўнага рашэння сведчаць аб глыбокім разуменні мастаком спецыфічных патрабаванняў маёлікі.

Аднак больш за ўсё Андрэева хвалявала праблема стварэння манументальных вобразаў. Яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі, прымаючы ўдзел у многіх конкурсах на праектаванне помнікаў выдатным вучоным, пісьменнікам, музыкантам, Андрэеў стварыў шэраг цікавых скульптур. Самай значнай з іх трэба прызнаць помнік М. В. Гогалю ў Маскве, створаны ў 1906—1909 гадах.

Да 1917 года Андрэеў набыў ужо вялікі і разнастайны творчы вопыт. Чалавек высокай культуры, сапраўдны патрыёт свайго народа, ён безумоўна прыняў сацыялістычную рэвалюцыю і энергічна ўключыўся ў грамадскае жыццё, стаў актыўна садзейнічаць здзяйсненню ленінскіх ідэй. У доўгі спіс работ Андрэева ўваходзяць: статуя Свабоды для помніка Савецкай Канстытуцыі ў Маскве, помнік Дантону, Герцану, Агарову, Астроўскаму, Чэхаву, а таксама мемарыяльныя дошкі для будынкаў, дзе жылі Герцан, Агароў, Бялінскі. Яны выкананы ў выглядзе строгіх, лаканічных па форме партрэтных барэльефаў з мармуравай крошкі на цэменце.

Шматлікія малюнкі, створаныя Андрэевым, з'яўляюцца, у асноўным, матэрыялам для скульптурных работ, але сярод іх нямала твораў самастойнай мастацкай каштоўнасці: партрэты пісьменнікаў, артыстаў, мастакоў, блізкіх Андрэеву людзей. Пасля Вялікага Кастрычніка гэтая бліскучая галерэя папоўнілася новымі вобразамі прадстаўнікоў культуры і буйных дзяржаўных дзеячоў: А. В. Луначарскага, Клары Цэткін, М. І. Калініна. Сярод іх трэба вылучыць выдатныя па дасканаласці выканання шырока вядомыя ў народзе партрэты У. І. Леніна.

Тонка акрэслены малюнак Андрэева, як правіла, выконваўся італьянскім алоўкам і лёгка падфарбоўваўся сангінай або крэйдай. Уся ўвага мастака сканцэнтравана на твары чалавека, адзенне ж толькі намечана скупымі штрыхамі.

Маючы цесную сувязь з Маскоўскім мастацкім тэатрам, Андрэеў шмат працаваў і над афармленнем шэрагу пастановак.

Але ўсе разнастайныя бакі творчай дзейнасці Андрэева ў савецкі час саступілі месца той працы, якой мастак прысвяціў многія гады свайго жыцця. З найвялікшай адказнасцю перад савецкім народам, перад самой гісторыяй Андрэеў узяўся за цяжкую задачу — увасобіць у скульптуры вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна. Яшчэ ў 1918—1919 гадах былі зроблены накіды з натуры ў час выступленняў Леніна на пасяджэннях у Вялікім тэатры. У 1920 годзе Андрэеў атрымаў дазвол працаваць у крамлёўскім кабінеце Ільіча. Такім чынам, з'явілася магчымасць непасрэдна азнаёміцца з штодзённай кіпучай дзейнасцю правадыра, магчымасць паглыбленага вывучэння характэрнай будовы ленінскай галавы, багацейшай мімікі твару, своеасаблівасці паставы, рухаў.




В. Р. Бялінскі. 1920 г.



Партрэт Л. Талстога. 1905 г.

У майстэрні Андрэева яго трапныя замалёўкі станавіліся пластычнымі вобразамі, што замацоўвалі назіранні мастака. Серыя партрэтаў Леніна дае ўяўленне аб старанней працы і патрабавальнасці яго.

Першыя закончаныя работы скульптара вырашаны ў некалькі інтымным плане. Перад намі Ільіч—просты і абаяльны чалавек.

Ільіч піша... Злёгку звёўшы бровы і ў роздуме прыклаўшы пальцы да вуснаў, ён цалкам захоплены работай. Гледзячы на велізарны выпуклы лоб Ільіча, нельга не думаць пра тытанічную сілу ленінскай думкі. І разам з тым, вобраз, створаны Андрэевым, раскрывае перад намі незабыўныя рысы «самага чалавечнага чалавека».

Пасля смерці Леніна Андрэеў атрымаў заказ камісіі пры Саўнаркоме СССР на стварэнне партрэта правадыра для залы пасяджэнняў СНК. Не абмежаваны тэрмінам, скульптар прыступіў да стварэння серыі падрыхтоўчых партрэтаў. Новая задача абумовіла пошукі новых рашэнняў.

У творах Андрэева гэтых год ужо няма кампазіцыйнай замкнёнасці. Ленін як бы мае зносіны з гледачом, у ім адчуваецца парывістасць рухаў, насцярожаная ўвага, праніклівасць і стрыманая сіла. З трох варыянтаў, што прадстаўляў мастак, апошні, найбольш выразны, набывае рысы манументальнасці.

У 1924 годзе Андрэеў упершыню паставіў перад сабой задачу стварыць «помнік найвялікшаму генію». Смерць Леніна перашкодзіла закончыць працу, але скульптура «Ленін — правадыр» астаецца адным з самых значных твораў савецкай пластыкі. У ёй сканцэнтраваны каштоўныя знаходкі андрэеўскай



Партрэт Андэрсена-Нексе. 1922 г.

«Лeнініяны». Статуя невялікая, але яе кампазіцыйная сабранасць, лаканізм мастацкай мовы і вялікая сіла ўражання, з якой аўтар раскрывае вобраз геніяльнага мысліцеля, надаюць твору сапраўдную манументальнасць. Энергічна ўзнятая галава і сціснутая ў кулак правая рука ствараюць адчуванне ўнутранага напружання. Гледзячы на гэтую скульптуру, мімаволі ўспамінаеш словы А. М. Горкага пра Леніна-прамоўцу: «Злітнасць, закончанасць, шчырасць і сіла яго прамовы, увесь ён на кафедры — быццам твор класічнага мастацтва...»

Чатырнаццаць год прысвяціў М. А. Андрэеў працы над стварэннем вобраза Леніна, знаходзячыся ў няспынных творчых пошуках і не дапускаючы пры гэтым ні ценю паспешлівасці, неахайнасці. Менавіта таму «Ленініяна» займае ў савецкай скульптуры асобнае месца. Гэта не толькі партрэтная галерэя, якая мае вечную мастацкую каштоўнасць, але і самая поўная, самая дакладная крыніца, якую не можа абмінуць ні адзін дзеяч мастацтва, які звяртаецца да ленінскай тэмы.

Выключна патрабавальныя, творчыя адносіны М. А. Андрэева да сваёй працы ўшанаваны прысваеннем яму звання Заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР. Яго творчасць атрымала глыбокую ўдзячнасць савецкага народа.

**Ірына НАЗІМАВА.**

Бібліяграфія

# НЕСПАКОЙ МАЛАДОСЦІ




Ужо сваёй першай кнігай «Майская просінь» Генадзь Бураўкін заявіў, што ён паэт выразнага жыццесцвярджальнага пафасу, паэт, які ўмее звонкагалоса радавацца ўсяму добраму і прыгожаму. Аднак гэтая схільнасць захапляцца часамі абмяжоўвала яго творчыя магчымасці, перашкаджала пранікаць у сутнасць жыццёвых з'яў, глыбей зазірнуць у духоўны свет сучасніка.

Г. Бураўкін глядзеў на жыццё вачыма юнака, які толькі пачынае задумвацца над пытаннем — «делать свою жизнь с кого?» Усведамленне кроўнай прыналежнасці да таго «неспакойнага племені», якое з рук бацькоў прымае рэвалюцыйную эстафету барацьбы за камуністычную будучыню, было зарукай, што паэт не памыліцца ў адказе на гэтае пытанне, што ў яго творы паўнапраўным гаспадаром увойдзе сапраўдны герой нашых дзён, які ўвасабляе ўсё духоўнае багацце сучасніка.

Радасна адзначыць, што менавіта па гэтым шляху, па шляху паглыблення ў нашу гераічную рэчаіснасць, пранікнення ў неабсяжны свет пачуццяў і думак сучаснага чалавека, скіроўвае свае творчыя намаганні паэт. У тым, што гэта дало неблагі плён, пераконваешся, калі чытаеш зборнік Г. Бураўкіна «З любоўю і нянавісцю зямною»*.

Адной з самых прывабных вартасцей новых вершаў Г. Бураўкіна з'яўляецца тое, што ён умее засяродзіць увагу на галоўным, гаварыць пра самае важнае ў жыцці, што хвалюе сёння народ, складае яго найпершы клопат. Юнацкае захапленне бачаным усё больш саступае месца чалавечаму роздуму над зведаным. І хоць гэты роздум часамі выказваецца яшчэ дэкларацыйна, не знаходзіць яркага вобразнага ўвасаблення, але ж нельга не вітаць імкнення маладога паэта асэнсаваць у мастацкіх вобразах працоўную біяграфію свайго пакалення, уславіць нялёгкае «веселье труднейшего марша в коммунизм» (У. Маякоўскі).

Бадай самымі цікавымі ў кнізе «З любоўю і нянавісцю зямною» з'яўляюцца вершы, прысвечаныя працоўным будням полацкіх нафтавікоў. Полацкай нізкай Генадзь Бураўкін давёў, што ён добра адчувае хараство працы, валодае шчаслівай здольнасцю бачыць рамантычнае ў будзённым, паэтычнае ў звычайным. Эпіграфам да верша «На пярэднім краі» ўзяты строгія газетныя радкі: «Пярэдні край будаўнічых работ праходзіць каля былых фашысцкіх дотаў». Але ўсім зместам верша, яго вобразна-мастацкай тканінай аўтар пераконвае, што і звычайнае паведамленне можа несці ў сабе магутны зарад паэзіі. Трэба толькі зірнуць на факт удумлівымі вачыма, разгледзець, які змест ён тоіць у сабе, азарыць яго святлом паэтычнай думкі. І тады

* Генадзь Бураўкін. З любоўю і нянавісцю зямною. Вершы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1963.

факт жыцця, ужо стаўшы фактам паэзіі, узбагаціць чытача новымі ўяўленнямі аб рэчаіснасці, зробіць больш відушчай і чуйнай яго душу.

Дзе некалі грымелі баі, дзе «ад крыві, а не ад летняй спёкі чырвоны колер у палях лясных», праходзіць пярэдні край ударнай камсамольскай будоўлі. Магутны бульдозер знішчае страшэннае збудаванне вайны, былы фашысцкі дот, які «ашчэрыўся халоднымі байніцамі на сонца...» Ужо сама гэтая карціна, намаляваная скупымі, але выразнымі і запамінальнымі мазкамі, робіць моцнае ўражанне. Простыя, але важкія і ёмістыя словы. У іх і напамінак аб грозным мінулым, і радасць сённяшняй стваральнай працы, і суровае папярэджанне недабітым боннскім рэваншыстам, якія страцілі памяць...

Сюжэтна блізкі да гэтага верша і верш «Апошняя прыкмета Слабады». У аснову яго пакладзены той жа прыём асацыяцыі сённяшніх працоўных будняў са слядамі мінулага. І хоць у вершы даволі выпукла выпісаны вобраз «адзінага старэнькага жураўля», які цягне да магутнага крана драўлянае счарнелае вядро, нібыта жадаючы напаіць яго, твор у цэлым гучыць крыху аблегчана. І гэта таму, што аўтар, захапіўшыся вонкавым малюнкам пераўтварэння зямлі, не здолеў улавіць глыбінныя дыялектычныя сувязі старога і новага, якое, уладна ўваходзячы ў жыццё, перакройвае не толькі геаграфію мясцін, але і біяграфіі людзей, іх лёс.

Полацкімі вершамі Генадзь Бураўкін паказаў, што ён добра валодае майстэрствам індустрыяльнага пейзажу, умее перадаць цудадзейны поступ працы, паказаць, як збудаванні рук чалавечых упісваюцца ў прыроду, падпраўляючы яе «недаробкі». Магутная і мудрая тэхніка не засланяе ў вершах чалавека, якому яна падначалена. Гэта выразна падкрэслена ў вершы «Дарога каля ЦЭЦ», у якім сказана з добрай, светлай усмешкай:

— Без нашых сіл
чалавечых
Не ўправіцца
тысячам конскіх сіл...

Думкай аб працоўнай велічы чалавека, аб невычэрпнасці яго стваральнай энергіі прасякнуты верш «Зямлі і нябёс дружбак», прысвечаны зваршчыку-верхалазу Ваграну Аляк'яну. Глыбінёй паэтычнага падтэксту хвалюе верш «Нафтабудаўцы слухаюць шахматны выпуск апошніх паведамленняў».

Полацкая нізка вершаў Генадзя Бураўкіна — яшчэ адзін доказ таго, што выхад на новыя жыццёвыя плацдармы, асваенне нязведаных пластоў рэчаіснасці абвастрылі зрок паэта, акрылілі яго думку, памаглі стварыць пранікнёныя вершы аб харошых, працавітых людзях, аб іх духоўным харастве.

Зборнік Г. Бураўкіна даволі багаты тэматычна. Песня звонкага веступа вясны шпака і заўтрашні лёс нашай маці-планеты; штурм савецкім чалавекам зорных касмічных вышынь і вячэрні мірны гоман ускраін горада, які забірае плошчу ў палеткаў; свяшчэнныя камяні Брэсцкай крэпасці і братэрскія поціскі рук на фестывалі юнацтва ў Хельсінкі, — такі дыяпазон творчых інтарэсаў паэта. У яго сэрцы знаходзяць водгук, каб потым выліцца ў паэтычныя вобразы, самыя хвалюючыя падзеі сучаснасці. Паэт сам аб гэтым заяўляе: «Адказнасць я за ўсё бяру, што ў цэлым свеце думаюць і робяць». Пацверджаннем таму, што гэта не толькі дэкларацыя, з'яўляецца цыкл вершаў Г. Бураўкіна «Старонкі з фестывальнага блакнота» — страснае, вытрыманае на ўзроўні сапраўднай публіцыстычнай паэзіі слова ў абарону міру, гімн сіле інтэрнацыянальнага яднання юнацтва свету, аб'яднанага адным клопатам: як уратаваць планету ад ядзернай катастрофы.

На фестывалі паэту давялося ўбачыць не толькі сонечныя ўсмешкі сяброў, але і драпежныя твары ворагаў. Поўная драматычнай напружанасці сюжэтная аснова верша «Мы спалі, як дома», у якім расказваецца, як у светлыя сны ўдзельнікаў фестывалю ўрываецца выбух бомбы, падкінутай фашысцкімі дзецюкамі. Паэт выдатна ведае, адкуль пачынаецца бандыцкая радаслоўная гэтых вылюдкаў:

Нам выбух
Ударыў па сэрцу ўспамінам,
як плёткай,
Як плёткай эсэсаўца —
І ўваскрасала адразу
У памяці нашай
Дзяцінства
ў рубцах і пілотках,
Дзяцінства
Без хлеба,
Без песень,
Без казак...



І пасля гэтага зусім натуральна ў вершы нараджаецца смелы паэтычны вобраз, які кандэнсуе ў сабе ідэйны яго змест:

Улегліся моўчкі мы.
Сціснуты вусны сурова.
Насуплены бровы.
Напяты ва ўсіх жаўлакі.
На белых падушках
Пакладзены пад галовы
Цяжкія, нібы камяні барыкад,
Кулакі...

Прывабнасць гэтага верша ў нечаканым, але мастацка аргументаваным павароце сюжэта, у дынамічным развіцці думкі, у баявой ідэйнай наступальнасці аўтара, які непадзельна, з першых жа радкоў, завалодаў увагай чытача і вядзе яго да перакanання, вынашанага ў сэрцы. Такім чынам, чытач як бы становіцца сааўтарам паэта, таму і твор набывае асаблівую сілу эмацыянальнага ўздзеяння.

Здабыткі ў новай кнізе Г. Бураўкіна відавочныя, яны сведчаць аб тым, што ў яго значны паэтычны патэнцыял. Але каб гэты патэнцыял рэалізаваць, маладому паэту належыць шмат і настойліва працаваць, пазбаўляцца ад усяго, што перашкаджае яму творча расці, здабываць запаветнае слова «з артэзіянскіх людскіх глыбінь».

Прыкметнага плёну Г. Бураўкін дасягае ў большасці выпадкаў тады, калі ён у сваёй творчасці ідзе ад асабістых уражанняў і перажыванняў, ад жыццёвай з'явы да паэтычнага абагульнення. Давер да ўласнага душэўнага вопыту памагае аўтару асвоіць той ці іншы факт рэчаіснасці эмацыянальна, зрабіць яго здабыткам мастацкай творчасці. На жаль, гэтага не заўсёды прытрымліваецца ў сваёй творчай практыцы Г. Бураўкін. Паэта даволі часта спакушае жаданне як бы прыўзняцца на пальчыкі, выступіць у ролі гэткага дасведчанага прамоўцы, якому з вышыні сваёй трыбуны відаць уся мудрасць быцця... І тады задушэўную, інтымна-даверлівую размову з чытачом аб хвалюючым і надзённым паэт падмяняе доўгімі і нуднаватымі пропаведзямі агульнавядомых ісцін, якія да вершаў маюць хіба толькі тое дачыненне, што акуратна зарыфмаваны. Вось прыклад:

Я дзякую табе, Зямля,
за тое,
Што ты
такая ціхая,
зялёная.
Што над табою —
сонца залатое
І неба
сіняе, бяздоннае...

Узяўшы такі «ўсеабдымны» запеў, аўтару далей, натуральна, нельга было ўтрымацца ад грувасткага пераліку прыкмет нашай зямлі, накшталт, «сады ў пчалінай квецені», «каласы — мядзянай навіссю», «ты крывёю зноў была паліта» і г. д. Твор аказаўся пазбаўлены той унутранай спружыны, якая рухала б яго думку, скіроўвала яе ў адным напрамку.

Рацыяналістычная зададзенасць, схільнасць дэклараваць агульнавядомае, бадай, адна з самых істотных хібаў, якія належыць пераадолець Бураўкіну. Дзіўна часам атрымліваецца: усё ў вершы як быццам на месцы — задума выразная, і пафас правільны, і нават асобныя дэталі яркія, і рыфмы звонкія, а прачытаеш яго — і ніякага следу ў душы не застаецца. Да ліку такіх твораў, напрыклад, належыць верш «Рукі фестывалю». Верш не пакідае яркага ўражання, нягледзячы на яго амаль бездакорнае, з пункту гледжання паэтычнай тэхнікі, выкананне. Змест верша, думкі маглі быць паспяхова выказаны і ў форме публіцыстычнага артыкула... А, відаць жа, да верша паэт павінен звяртацца толькі тады, калі тое, што яго ўсхвалявала, не перадасі ніякімі іншымі сродкамі, апрача сродкаў паэзіі. Парушэнне гэтай абавязковай умовы нараджэння паэтычнага твора заўсёды помсціць за сябе. У гэтым пераконваешся, чытаючы такія вершы Г. Бураўкіна, як «Радзіма», «Калі ты летуценнік», «Памятайце, людзі!..». Усё ў іх правільна, а паэзіі няма!

Варта паэту падумаць і пра ўзбагачэнне свайго арсеналу мастацкай выразнасці, аб расшырэнні палітры слова. Клопат аб выпрацоўцы свайго творчага почырку, зусім натуральны для маладога аўтара, зда-

раецца, прыводзіць да аднастайнасці паэтычных прыёмаў. Такім прыёмам, які часта вар'іруецца ў вершах Бураўкіна і таму робіцца надакучлівым, з'яўляецца нанізванне эпітэтаў, не заўсёды свежых і важкіх. («Я дзякую табе, зямля, за тое, што ты такая ціхая, зялёная...», «Ціхія і задумлівыя зорныя вечары», «Ёсць у нас зямля зялёная, сіняе неба...», «Уся зямля, квяцістая і дымная», «Ён бушуе, сіні і крылаты»). Гэтыя прыклады ўзяты з розных вершаў, у кожным з якіх свая задума, свая тэма, а словы, як бачыце, адны і тыя ж.

Сустракаюцца ў вершах Бураўкіна і проста не прадуманыя радкі, накшталт:

Я ўжо больш як тры гады жанаты,
Аб каханні ж глупствы гавару.

Ці варта было паэту паведамляць аб гэтым чытачу?

Хочацца верыць, што некаторыя хібы звязаны з цяжкасцямі росту. У паэта ёсць усе даныя, каб іх пераадолець і загаварыць на поўны голас, на ўсю моц свайго таленту. Зарукай гэтаму той агонь грамадзянскага хвалявання, той трапяткі неспакой маладосці, якім сагрэты яго лепшыя вершы і які не дасць яму ніколі задавальняцца зробленым.

**Паўлюк СУБОТКА.**

# КАЛЕКТЫЎНАЯ КНІГА




Адны і тыя ж літаратурныя творы, бывае, пакі д а ю ц ь зусім розныя ўражанні ў залежнасці ад таго, як іх выдалі. Чытаеш, скажам, вершы каго - небудзь з паэтаў, раскіданыя паасобку то ў газеце, то ў часопісу — ствараецца адно ўражанне. Сустрэў гэтыя вершы ў зборніку, аб'яднаныя пад агульнай вокладкай, — іншае. Тое ж здараецца і з апавяданнямі. І з драматургічнымі творамі. І з крытычнымі артыкуламі...

Аб такім менавіта зборніку артыкулаў і рэцэнзій пойдзе гаворка. Гэта — не манаграфія. Не зборнік-справаздача аднаго аўтара. Гэта — кніга крытыкі. Калектыўны зборнік.

Сустрэча з такім выданнем бывае для чытача, асабліва маладога, цікаўнага і дапытлівага, не звычайная. Бо гаворка ж на старонках такой кнігі вядзецца вельмі шырокая. Адных імёнаў колькі! А назваў! Тут і раманы, і зборнікі вершаў, і творы драматургіі. Непазбежныя і даволі часта зусім дарэчныя спасылкі на аўтарытэт класікаў, перш-наперш, зразумела, на В. Бялінскага. А над артыкуламі набраны выразнымі літарамі прозвішчы саміх крытыкаў, людзей розных па свайму творчаму і жыццёваму вопыту, непадобных густаў і меркаванняў нават наконт аднаго і таго ж мастацкага твора.

Ці ж можна не вітаць такую сустрэчу чытача з крытыкай?! Яна і пажаданая, і патрэбная.

Вось ёй і надышоў час адбыцца. Кніга называецца «Літаратура нашых дзён» *. Адказныя словы. Крытыкі, як сказана ў прадмове, выконваюць ролю «рухавікоў» літаратурнага жыцця, а разам з тым і сувязных паміж кнігай і чытачом». Усё гэта правільна ўвогуле. Добрая і карысная ініцыятыва выдавецтва заслугоўвае самай шчырай ухвалы.

* Літаратура нашых дзён. Зборнік артыкулаў і рэцэнзій. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1963.



Сапраўды ж, у нашым перыядычным друку ўсё часцей з'яўляюцца жывыя і прынцыповыя артыкулы-размовы аб тых або іншых мастацкіх творах і ўдумлівыя агляды жанравых дасягненняў ці, наадварот, пералік хібаў і недахопаў. Навошта чакаць, пакуль аўтар такога артыкула збярэ цэлы стос сваіх крытычных аркушаў і аднясе ў выдавецтва! Варта аб'ядноўваць лепшае розных аўтараў, і хай яна адбываецца сёння, сустрэча чытача з калектывам літаратурных разведчыкаў, даследчыкаў і сувязных, як называюць іх у пісьменніцкім асяроддзі.

Аднак трэба асцерагацца аднаго сур'ёзнага, як здаецца, ворага поспеху гэтай справы — механічнасці. Вядома, што нават паэты, калі толькі яны патрабавальна ставяцца да сваёй творчасці, вядуць вельмі строгі адбор з надрукаванага імі раней, перш чым уключыць яго ў асобную кнігу. Яны адмаўляюцца не толькі ад строф і радкоў, але і ад вершаў, якія былі да месца ў часопісным варыянце, але не вельмі стасуюцца з агульнай задумай кнігі.

Калектыў крытыкаў, аўтараў аднаго зборніка, — гэта не натоўп хай сабе і добрых, і таленавітых літаратараў. Гэта — атрад, баявое злучэнне. Стрыгчы ўсё пад адзін грэбень не патрэбна. Але ўсё выпадковае, суб'ектывісцкае павінна або знаходзіць пэўны палемічны адказ на старонках таго ж зборніка, або адмятацца.

Што тут маецца на ўвазе? Досыць выпадковыя высновы, якія сустракаюцца там-сям на старонках «Літаратуры нашых дзён». Вось, напрыклад, вельмі грунтоўны разгляд паэтычных знаходак і пралікаў Еўдакіі Лось. Язэп Семяжон, які на гэты раз выступае ўдумлівым і тонкім крытыкам, здолеў лагічна расшыфраваць, умоўна кажучы, эмацыянальную плынь творчасці паэтэсы. Але раптам кідае заўвагу, на якой міжволі спыняеш позірк і задумваешся. Ён сцвярджае: «...часамі наша крытыка адчувае штосьці накшталт разгубленасці перад разнастайнасцю творчых абліччаў у сучаснай беларускай паэзіі, і замест гаспадарлівага і бацькоўскага: вось гэта так, а гэта не так — мы раптам пачынаем процістаўляць адзін талент другому, як быццам зусім ужо не асталося на нашых паэтычных палетках шэрасці і бяздумнасці, супраць якіх сапраўды варта ваяваць».

Загадкавае «часамі» яшчэ можна зразумець, калі чытаеш артыкул у часопісе. Але ў зборніку крытычнай думкі, дзе, паводле прадмовы, «прадстаўлены артыкулы і рэцэнзіі, напісаныя крытыкамі, літаратуразнаўцамі і самімі пісьменнікамі за апошнія два-тры гады», падобны закід нельга было захоўваць у такім выглядзе. Тыя, хто складаў і рэдагаваў зборнік, мабыць, падзяляюць гэтую выснову Я. Семяжона, бо яна шмат у чым сапраўды слушная. Але «за апошнія два-тры гады», як вядома, у літаратурнай перыёдыцы былі выступленні, якія адпавядалі і першаму, і другому, г. зн. і гаспадарскаму падыходу да творчых дасягненняў, і спробам процістаўляць адзін талент другому. І больш за іншыя выданні «Літаратура нашых дзён» павінна была б кінуць святло на ўсе гэтыя важныя праблемы. Але ж прыведзены вышэй абзац з артыкула Я. Семяжона «Запрашэнне ў свет паэтычнага» так і застаўся абзацам. Відаць, у такім разе, лепш было б яго выкрэсліць... Хоць значна лепш, вядома, было б падабраць доказныя артыкулы, якія б не абыходзілі моўчкі названыя пытанні.

Інакш — што атрымліваецца? Толькі Я. Семяжон вызначыў, хай сабе і занадта агульна, але ўсё ж сутнасць гаспадарскага і бацькоўскага падыходу крытыкі да мастацтва («вось гэта так, а гэта не так»), як ужо на наступнай старонцы чытаем вывад Юліі Канэ: «Пакуль кібернетыкі, незадаволеных каварнай няўлоўнасцю з'яў літаратуры, будуць шукаць свае, матэматычныя спосабы яе даследавання — для таго, каб наблізіць літаратуразнаўства да навук дакладных, — крытыкам, відаць, яшчэ доўгія гады прыйдзецца кіравацца перш за ўсё сваім густам і тым добрым старым метадам, які матэматыкі з не вельмі схаванай пагардай завуць інтуітыўным».

А між тым, часам і сапраўды шкадуеш, што няма ў нашым распараджэнні дакладных формул і абсалютна аб'ектыўных крытэрыяў».

Зноў сакраментальнае «часам»!

Ці не адвольна тут гуляе думка крытыка, калі яна то выводзіць пэўную формулу аб непазбежна інтуітыўным метадзе даследавання з'яў літаратуры, з аднаго боку, то шкадуе аб тым, што такіх формул быццам не існуе? Ці няма ў гэтым падыходзе да задач і праблематыкі крытыкі нейкай стыхійнасці.

Не месца ў гэтай рэцэнзіі спрачацца і, тым больш, абвінавачваць у чым-небудзь Ю. Канэ. Хочацца звярнуць увагу складальнікаў зборніка на тое, што такія і падобныя да іх тэарэтычныя высновы нельга пакідаць, як кажуць, «на сумленні аўтара». На іх трэба было адказваць: або развіваць і абгрунтоўваць, або рашуча разбураць і аспрэчваць на той жа самай тэрыторыі літаратурных боек і сутычак, г. зн. на старонках кнігі «Літаратура нашых дзён». Яе тэарэтычная аснова не прадумана ва ўсіх вымярэннях. Няма ў кнізе ідэйна-эстэтычнай думкі, якая б працінала ўсе артыкулы і адкрывала б перад імі зялёнае святло семафора, каб яны разам і згодна ішлі да чытача ў якасці адзінага і агульнага сувязнога паміж гэтым чытачом і літаратурай нашых дзён.

Кінуўшы такі папрок, міжволі задумваешся і аб наступным: чым кіраваліся складальнікі кнігі, уключаючы адны артыкулы і адмаўляючыся ад іншых, прадстаўляючы адных крытыкаў і замоўчваючы іншых?

Магчыма, і напэўна, быў клопат, каб на старонках зборніка атрымалі ацэнку найбольш значныя літаратурныя з'явы. Гэта зразумела. Але тады нельга было, напрыклад, абмяжоўвацца ўрачыстапавярхоўным артыкулам Уладзіміра Бойкі «Сэрца — насцеж». Газетны водгук па гарачых слядах так і застаўся газетным водгукам. Бадай, нават горш, бо калі яго надрукавалі ў кнізе побач з сапраўды зацікаўленым і дакладным крытычным даследаваннем-рэцэнзіяй Фёдара Куляшова пра раман «Людзі на балоце» Івана Мележа, — дык ад такога суседства водгук-рэцэнзія страціла ўсе свае вартасці.

Артыкул Ф. Куляшова ўспрымаеш як своеасаблівую ўдачу крытыка. Адчуваеш эстэтычную асалоду і ад прадмета крытычных разважанняў пра ідэі і вобразы «Людзей на балоце», і ад вельмі «чытабельнага» і змястоўнага тэкста, які належыць пяру даследчыка Ф. Куляшова.

Мусіць, ніхто з сапраўды зацікаўленых сённяшнім станам літаратуры чытачоў не абміне артыкул Нічыпара Пашкевіча «Услед за імклівым днём». І не толькі таму, што крытык вядзе гаворку пра твор, нарэшце якога спрачаліся рэцэнзенты ў перыядычным друку, прыцягваючы тым самым увагу да рамана Уладзіміра Карпава. Прычына тут больш глыбокая: аўтар артыкула з добрай разважлівай стрыманасцю дзеліцца сваімі думкамі і назіраннямі, заклапочаны і агульным развіццём рамана як жанра, і так званым «вытворчым раманам», у прыватнасці.

Зусім слушна Н. Пашкевіч вызначыў асноўны пафас «Вясенніх ліўняў» У. Карпава, падкрэсліў ідэю ўсеабдымнасці адлюстраваных у рамане працэсаў рашучага абнаўлення нашага жыцця. З вышынь гэтай грамадзянскай і мастацкай мэты пісьменніка крытык і разглядае, якім чынам рэалізуецца плённая задума. Ён прымушае чытача радавацца творчым знаходкам У. Карпава і змястоўна тлумачыць, у чым сутнасць мастацкіх пралікаў і відавочных недахопаў рамана, які пераадольвае рамкі «вытворчага» і набывае рысы сапраўднага даследавання чалавечых лёсаў і характараў. Тое, якім чынам і чаму не заўсёды паспяхова «пераадольвае» і «набывае» нешта істотнае ў сваёй творчасці У. Карпаў, паказана абгрунтавана, прынцыпова і пераканальна. Крытык здолеў настроіць чытача на патрабавальную размову пра майстэрства сучаснага пісьменніка, пра ўменне раскрываць сродкамі мастацтва сэнс нашай эпохі.

Яшчэ прыклад. На параўнальна невялікай «крытычнай плошчы». Алесь Адамовіч вядзе разумны бой супраць спрошчанага падыходу да той сучаснай прозы, якая таксама, як і «вытворчая», акрэсліваецца па тэматычнай скіраванасці — «ваенная». Крытык узнімае пласты суровай, нават жорсткай рэалістычнасці, якая так характэрна для Васіля Быкава, і раскрывае перад чытачом сэнс напружанага роздуму нашага сучасніка над жыццём і людскімі паводзінамі, роздуму аб маральным абліччы чалавека, — усё тое, пры дапамозе чаго мастак перадае драматычную праўду эпохі, хоць матэрыялам творчых пошукаў пісьменніка служаць выключна падзеі Вялікай Айчыннай вайны.

Праўда, А. Адамовіч толькі закрануў «Трэцюю ракету», аповесць, дзе В. Быкаў «як бы задумваецца аб меры нашай асабістай адказнасці за ўсё агіднае ў жыцці». Кропка пастаўлена паспешліва. Бо калі празаік толькі «задумваецца» над гэтым, міжволі шукаеш адказу — а наколькі глыбока і грунтоўна, з якіх пазіцый і, галоўнае, ці знойдзена было ў аповесці «Трэцяя ракета» належнае мастацкае ўвасабленне пісьменніцкага роздуму. Але...

Вось гэтыя «але» ўзнікаюць нават пасля таго, як прачытаеш добры артыкул А. Адамовіча. Ён, зразумела, не збіраўся пісаць тут пра ўсё, што створана В. Быкавым, у прыватнасці, ацэньваць «Трэцюю ракету». Але ён жа — удзельнік калектыўнага абмеркавання праблем сённяшняй літаратуры і таму не меў права абрываць вельмі сур'ёзную заўвагу на паўслове і ставіць кропку.

Вышэйшая мэта крытыка — імкненне стаць побач з мастаком у галоўным разуменні літаратуры як чалавеказнаўства. Тады агульныя ацэнкі і тлумачэнне тэматычных і сюжэтных асаблівасцей твораў узбагачаюцца роздумам пра людскія характары, пра лёс чалавека і грамадства. Крыўдна, калі крытык спыняецца недзе на парозе чалавеказнаўства і абмяжоўвае сваю ролю значна больш сціплымі задачамі. Нешта падобнае адчуваеш у артыкуле Янкі Шарахоўскага пра творчасць Янкі Брыля. Пачынаеш чытаць, і цябе нават захапляе нейкі асабісты і ўзрушаны падыход крытыка да жыцця, якое маляўніча ўвасоблена такім чулым мастаком.

На першых жа старонках артыкула ўлоўлена нешта вельмі «брылёўскае» ў яго апавяданнях і замалёўках. Разам з Я. Шарахоўскім радуешся трапяткой паэзіі прозы Я. Брыля. Але вось крытык набліжаецца да аповесці, дзе ў цэнтры — складаныя псіхалагічныя канфлікты і сацыяльныя сутычкі. Дае фармулёўку, з якой нельга не пагадзіцца: «...кожнага шчырага прыяцеля Я. Брыля ўзрадуе выразнае пачуццё партыйнасці, якім прасякнута аповесць «Апошняя сустрэча». Дык жа хочацца, каб на мастацкіх вобразах, створаных пісьменнікам, крытык раскрыў, у чым канкрэтна праявілася пачуццё партыйнасці мастака, у падкрэсліванні якіх рыс, у тыпізацыі якіх якасцей чалавека. Тыя цытаты, што прыведзены Я. Шарахоўскім з твораў Я. Брыля, і крытычныя каментарыі да іх, праўда, даводзяць, што пісьменнік выступае назіральным, удумлівым, праўдзівым мастаком. Магчыма, партыйнасць тады і ёсць вынік гэтых асаблівасцей творчасці: тады так трэба было і сказаць. Але ж праблема партыйнасці — не простая: назіральнае, удумлівае і праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці яшчэ не азначае партыйнага падыходу пісьменніка да жыцця. І «Апошняя сустрэча» дае падставы вырашыць гэтую праблему, як непарыўна звязаную з чалавеказнаўчай роляй літаратуры сацыялістычнага рэалізму. Крытык у гэтым выпадку толькі наблізіўся да такога вырашэння, якое магло б стаць паглыбленым развіццём вельмі надзённай сучаснай праблемы.

Вяртаючыся да сказанага, варта падкрэсліць, што літаратурныя з'явы, аб якіх ідзе гаворка ва ўсіх артыкулах, выбраны правільна, а ўзровень крытычнага аналізу атрымаўся далёка не аднолькавы. Відаць, у выдавецтве пры адборы прац для зборніка «Літаратура нашых дзён» кіраваліся любымі падставамі, акрамя адной, вельмі важнай: змястоўнасць агульнага крытычнага аналізу ў патоку розных артыкулаў розных аўтараў. А вар-

та было ўсё ж падумаць пра агульнае гучанне і пра агульны пафас калектыўнага зборніка сённяшняй крытычнай думкі.

Даўшы вельмі маштабную назву зборніку крытычных артыкулаў, выдавецтва абавязала сябе даць нешта грунтоўнае. Кніга гэтая — першы крок вялікага маршу, якім можа стаць штогадовае выданне калектыўных зборнікаў літаратурна-крытычных прац. Так будзе створаны змястоўны і патрэбны летапіс жывой дзейнасці вялікага атраду актыўных дзеячоў літаратурнага фронта. Толькі неабходна выпрацаваць пэўныя прынцыпы складання такіх зборнікаў. Магчыма, вынікі сёлетняга і наступных літаратурных гадоў змогуць падказаць выдавецтву, якая праблема вымагае пільнай увагі калектыву крытыкаў і што з надрукаванага ў перыядычным друку «просіцца» ў асобнае выданне, моцнае сваёй агульнай задумаю, мэтанакіраваным пафасам і акрэсленай праблематыкай. Гэта было б вельмі карысна!

**Барыс БУР'ЯН.**

# ПРАБЛЕМНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ




Выдатны навеліст, аўтар папулярнай аповесці «Міколка - паравоз», рамана-эпапеі «Векапомныя дні», празаік ярка выражанага рамантычнага стылю. Міхась Лынькоў — шырока вядомы і любімы савецкі пісьменнік. Яго творы назаўсёды ўвайшлі ў духоўны свет не аднаго пакалення чытачоў яшчэ з дзіцячых год. Высокамастацкія па форме, глыбока чалавечныя па зместу, яны атрымалі заслужанае прызнанне і ў іншых краінах.

Без творчасці Міхася Лынькова, вельмі арыгінальнай і самабытнай, нельга зразумець асноўныя шляхі развіцця беларускай прозы, асабліва яе эмацыянальна-рамантычнай плыні, звязанай з імёнамі М. Зарэцкага, В. Каваля, Б. Мікуліча, Я. Скрыгана і іншых. Характэрная для многіх пісьменнікаў 20—30-х гадоў рамантычная проза з'яўляецца красамоўным сведчаннем разнастайнасці форм, уласцівых метаду сацыялістычнага рэалізму. Хоць рэалістычная проза ў беларускай літаратуры і атрымала найболей шырокае развіццё, рамантычная проза вытрымала выпрабаванне часам і цяпер займае трывалыя пазіцыі ў літаратуры.

Зусім натуральна, што пра М. Лынькова пісалася, і нямала, у нашай крытыцы і літаратуразнаўстве. Разам з тым, заўважым, што ў параўнанні з іншымі вядучымі пісьменнікамі Міхасю Лынькову «не шанцавала». Доўгі час пра яго не з'яўлялася ні крытыка-біяграфічнай манаграфіі, ні сур'ёзных праблемных работ. І вось, нарэшце, нашы крытыкі «сплацілі» свой доўг. Паявілася дзве кніжкі: Фёдара Куляшова — «Міхась Лынькоў» (1961) і Дзмітрыя Бугаёва «Шчодрае сэрца пісьменніка» (1963)*.

Не ставячы задачы параўноўваць абодва даследаванні, зазначым: яны, натуральна, «тэматычна» пераклікаюцца, але не паўтараюць адно другое. Кожнае з іх уносіць багата новага і цікавага, узбагачае чытачоў нечым сваім, адметным.

Навуковы нарыс Ф. Куляшова пра жыццё і творчасць Міхася Лынькова — змястоўны і цікавы. Асабліва глыбока і пранікнёна даследаваны аповесці «Міколка-паравоз», «Сустрэчы», эпапея «Векапомныя дні».

У адрозненне ад аўтара першай кнігі пра М. Лынькова, Д. Бугаёў не імкнецца як мага шырэй ахапіць усю літаратурную дзейнасць пісьменніка, а канцэнтруе сваю ўвагу на яго творчасці 20-х — першай паловы 30-х гадоў. Думаецца, што тут няма ніякай выпадковасці. Ужо ў гэты перыяд добра выявіліся адметныя асаблівасці шчодрага лынькоўскага таленту. Крытык слушна гаворыць, што творы М. Лынькова той пары адыгралі вялікую ролю ў станаўленні нашай літаратуры. Разам з тым, літаратуразнаўца, хоць і менш падрабязна, разглядае і творы пазнейшага часу, у тым ліку «Векапомныя дні», прасочвае фарміраванне мастацкай індывідуальнасці М. Лынькова.

Кніга Д. Бугаёва — гэта праблемнае даследаванне, хоць яно і манаграфічнае па форме. Праблемнасць кнігі, імкненне глыбей заглянуць у гісторыю літаратуры зусім не замінае аўтару весці размову з чытачом жыва і цікава.

Адштурхнуўшыся ад «радаслоўнай» пісьменніка, цікава расказаўшы пра жыццёвыя і літаратурныя крыніцы, якія жывілі і фарміравалі яго талент, Д. Бугаёў паступова паглыбляецца ў важнейшыя тэмы творчасці. Гераіка рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, паэтызацыя працы, станаўленне новага чалавека, яго выхаванне і перавыхаванне ў агні барацьбы ці ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва, выкрыццё мяшчанства і яго філасофіі — гэтае шырокае кола праблем лынькоўскай творчасці цікавіць крытыка.

Не адмаўляючы зробленага папярэднімі даследчыкамі ў вывучэнні творчасці М. Лынькова, трэба, аднак, сказаць, што яны ўлоўлівалі толькі асобныя «прыкметы» лынькоўскага почырку. Звычайна, гэта былі развагі пра арнаментальнасць стылю (інверсія), сказавасць, рытмічнасць. Калі ж гутарка заходзіла пра пазнейшыя творы пісьменніка, такія, як «Векапомныя дні», сцвярджалася, што пісьменнік адмовіўся ад рамантычных тэндэнцый узвышана-эмацыянальнага ўспрыняцця рэчаіснасці, лірыка-рамантычнага апавядання і стаў на шлях гранічнай прастаты, рэалістычнай распрацоўкі карцін і характараў.

Д. Бугаёў займаўся вывучэннем прозы Міхася Лынькова на працягу некалькіх гадоў. Яго артыкулы публікаваліся ў перыядычным друку і спецыяльных навуковых зборніках. Натуральна, што аўтару ў яго кнізе ўдалося паслядоўна і з дастатковай глыбінёй раскрыць асноўныя праблемы багатай творчасці Лынькова. У кнізе Д. Бугаёва праблемы не проста называюцца і затым ілюструюцца мастацкімі тэкстамі, а раскрываюцца ў эстэтычным аспекце, шляхам літаратуразнаўчага аналізу ідэйна-мастацкай фактуры твораў у яе цэласнасці і адзінстве, шляхам даследавання таго, як у творчасці Міхася Лынькова выяўляюцца агульныя заканамернасці станаўлення беларускай прозы, а таксама індывідуальнага стылю пісьменніка.

«У разнастайнасці форм сацыялістычнага рэалізму, — пісаў А. Фадзееў, — рамантычная форма не толькі законная, яна патрэбна, як паветра. Гаворка ідзе не толькі пра рэвалюцыйную рамантыку, як пра адзін з істотных бакоў сацыялістычнага рэалізму, гаворка ідзе менавіта пра рамантычную форму выражэння праўды жыцця. Гэтая форма асабліва цяжкая ў прозе, але яна, гэтая форма, па сіле савецкім пісьменнікам».

Зыходзячы з гэтай думкі А. Фадзеева, аўтар зусім слушна разглядае прозу Міхася Лынькова як разнавіднасць асобай, рамантычнай формы сацыялістычнага рэалізму.

Абапіраючыся на факты гісторыі літаратуры, Д. Бугаёў ва ўсёй кнізе, і асабліва ў самым вялікім па аб'ёму раздзеле — «Праблемы стылю», з поспехам аналізуе асаблівасці мастацкага метаду беларускага празаіка. Рамантычнай прозе Лынькова арганічна ўласцівы прыўзняты лірызм, паэтычнасць, максімальна адкрытая суб'ектыўнасць, своеасаблівая гумарыстычная афарбоўка, рэзкая

* Дзмітры Бугаёў. Шчодрае сэрца пісьменніка. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1963.

кантраснасць характараў, вострыя драматызм сітуацый, якія часам стаяць на мяжы магчымага, узмоцненая экспрэсіўнасць, гіпербалічнасць, надзвычайная яркасць і кантраснасць фарбаў. Падрабязна разглядаюцца разнастайныя выяўленчыя сродкі і прыёмы (аўтарскае апавяданне, дыялогі, маналогі, партрэт, пейзаж, дэталь і іншае). Аўтар робіць тонкія і трапныя назіранні. Вось, напрыклад, як піша ён пра мастацкую дэталь, маючы на ўвазе апавяданне «Астап»:

«Сапраўдную мастацкую дэталь нельга пераняць, запазычыць або выдумаць. Яе трэба знайсці, убачыць сваімі вачыма. Толькі тады яна заблішчыць усімі сваімі гранямі і будзе ўрэзвацца ў памяць, адкрываць нейкі новы і часта нечаканы сэнс нават у знаёмай, даўно вядомай з'яве.

Так, малюючы раннюю вясну ў апавяданні «Астап», М. Лынькоў прыкмеціў: «Кожнае дрэва стаяла ў круглай лунцы-праталіне, нібы дыхала дрэва і подыхам сваім прадыхала снег аж да самай зямлі, да леташняй пабурэлай травы і іглліцы».

Мы многа разоў бачылі такія лункі-праталіны, але не падумалі, што гэта дрэвы «прадыхалі» снег. Гэтая дэталь сваёй нечаканасцю адразу звяртае на сябе ўвагу. Пераклікаючыся з другімі эмацыянальна-сугучнымі дэталямі, напрыклад, з ранішнім сонцам, якое «з такой страсцю ўглядалася ў лядовыя люстры, што яны пачыналі падтайваць, дыміцца», — яна раптоўна ажыўляе ўвесь малюнак, надае яму значнасць і глыбокі чалавечны сэнс, робіць як быццам адчувальнай думку пра веснавое абуджэнне жыцця». Даследчык не «анатамуе» пісьменніка, не раскладвае рысы яго таленту па асобных паліцах, а дае цэласны вобраз мастака, удумліва і сур'ёзна растлумачвае «сакрэты» яго высокага майстэрства.

Гаворачы пра стыль «Векапомных дзён», Ф. Куляшоў піша: «Лынькоў усюды імкнецца да максімальнай прастаты выказвання думкі пры дапамозе простых, сціслых сказаў. Калі Лынькоў іншы раз і будуе складаныя сказы і ставарае цэлыя перыяды, то ўсё-такі не яны характарызуюць паэтычны сінтаксіс эпапеі».

Нам здаецца, што ў гэтым, далёка не прыватным пытанні, праўда на баку Д. Бугаёва, які сцвярджае: «Не максімальная прастата, як мяркуе Ф. Куляшоў, а максімальная эмацыянальнасць, гранічная пачуццёвая насычанасць у першую чаргу вабяць і хвалююць М. Лынькова, вызначаюць яго мастацкі стыль. І «Векапомныя дні» ў гэтых адносінах не з'яўляюцца выключэннем».

Кніжка «Шчодрае сэрца пісьменніка» напісана з любоўю да нараоднага пісьменніка. Але крытык далёкі ад безразважлівага «замілавання» ўсім, што выйшла з-пад пяра яго любімага аўтара. Ён нязменна даказвае мэтазгоднасць ці нямэтазгоднасць тых ці іншых спосабаў і сродкаў паказу жыцця ў творах Лынькова, адзначае крайнасці яго індывідуальнай манеры, асабліва ранняга этапу, паказвае кірунак і характар ідэйна-мастацкай эвалюцыі пісьменніка. Адстойваючы свой погляд на прозу Лынькова, як рамантычную, Д. Бугаёў зусім справядліва гаворыць: «Змены адбываліся ў напрамку паслаблення рамантычнай прыўзнятасці. М. Лынькоў паступова, але настойліва вызваляўся ад празмернай метафарычнасці і гіпербалічнасці, залішняй расквечанасці радка, рэзкай стракатасці фарбаў і іншых крайнасцей сваёй індывідуальнай мастацкай манеры, нярэдка дастаткова прыкметных у ранняй творчасці. Але адмаўленне ад крайнасцей рамантычнага стылю нельга прымаць за адмаўленне наогул ад рамантычных стылёвых прыёмаў і сродкаў, якія выразна заўважаюцца ва ўсіх без выключэння творах М. Лынькова».

Крытыку ўдалося перадаць спецыфіку індывідуальнага мастацкага стылю Міхася Лынькова і на канкрэтным аналізе яго твораў пацвердзіць прынцыпова важнае палажэнне эстэтыкі сацыялістычнага рэалізму пра неабмежаваныя магчымасці нашага метаду, які адкрывае поўную прастору для самых разнастайных талентаў, творчых манер, пісьменніцкіх схільнасцей, розных форм адлюстравання рэчаіснасці.

Палемічны дух, грунтоўны ідэйна-мастацкі аналіз прозы Лынькова, яе стылёвых асаблівасцей, як правіла, разгорнутая аргументацыя выказанага палажэння, новыя факты, шматлікія ўдакладненні, самастойная канцэпцыя — усё гэта робіць кнігу Д. Бугаёва змястоўнай, цікавай, каштоўнай і патрэбнай.

Можна, безумоўна, знайсці ў ёй і асобныя недахопы. На стар. 168 крытык катэгарычна сцвярджае, што ў «Векапомных днях» прадстаўнікі варожага лагеру, «як і станоўчыя героі, паказаны без рэзкага шаржу, без утрыроўкі»... Гэта недакладна. Хіба праўда, што Сёмка Бугай, Клопікаў, Слімак намаляваны без рэзкага шаржу і ніколькі не ўтрыраваны?

На некаторых старонках кнігі сустракаецца агульны пералік твораў рускай і беларускай літаратуры. Праўда, такіх інфармацыйна-аглядных мясцін няма там, дзе размова ідзе аб творчасці Лынькова, г. зн. аб самім прадмеце даследавання. Менавіта ў гэтым, у аналізе твораў Міхася Лынькова, у шырокім поглядзе на яго прозу, крытык выявіў сваё ўласнае аблічча. А гэта галоўнае.

**Мікола ЛУФЕРАЎ.**




**Сяброўскія шаржы.**

Мастак Міхась Лісоўскі.

Эпіграмы Антося Відэлькі, Міколы Лісоўскага, Алеся Чабора, Георгія Юрчанкі.



**Раману ТАРМОЛУ**

Пацвердзіць кожны, што Тармола
Не траціць вольны час дармова.
Штодзень упарта з скрыпам-рыпам,
Як рымар дратву, цягне рыфму.
Раман, заўвагаю не грэбуй:
Не мерыць —
важыць слова трэба!

**Алегу ЛОЙКУ**

З БДУ выходзяць у людзі,
Расце ў СП
кандыдатаў праслойка.
Калі зусім
на рыфмы забудзе,
Дык акадэмікам стане Лойка.



**Георгію СКАМАРОХАВУ**

Тут патроху,
Там патроху —
Усюды робіць Скамарохаў.
Верш ці нарыс, ці артыкул —
Афармляе ўсё без ліку.
Для рэдакцыі — ратунак:
Раз і два — гатоў малюнак!



**Івану КАЛЕСНІКУ**

Калеснік радасны, як дзіця,
Абед святочны заказвае жонцы
К пятнаццацігоддзю з дня адкрыцця
Рыфмы:
сонца—бясконца.



**Кастусю ЦВІРКУ-ГАДЗІЦКАМУ**

Цяпер у Косці меншы клопат,
Выгода з прозвішча такога:
На двух падзеляць недахопы,
Бо іх на аднаго замнога!





**Барысу САЧАНКУ**

Мне трэба юбілейнае выданне.
Не, забыццё мяне не закране,
Я маю цэлы том апавяданняў
І тры тамы
рэцэнзій на мяне.



**Анатолю КЛЫШКУ**

Яго сферы незлічоны,
Гэта ведае ўвесь свет:
Крытык, сцэнарыст, вучоны,
А цяпер яшчэ й паэт.





**Анатолю СЕРБАНТОВІЧУ**

Я шлях да славы карачу,
Пісаць няма калі — крычу,
Крычу да хрыпаты,
да поту.
Майстэрства?
Думкі?
Прыйдуць потым!

**Міколу МАЛЯЎКУ**

Пайду па чарніцы —
вярнуся з грыбамі.
Пайду па грыбы—
і чарніц набяру.
Бяззубым—зялепуха,
Тым, што з зубамі,
Нібыта шчарбатым,
кісель завару.

Спорт

# СТАРТЫ ЗАЛАТЫЯ І НУЛЯВЫЯ

Гэта было незабыўнае свята савецкага спорту. Фінальныя спаборніцтвы III Спартакіяды народаў СССР па свайму размаху, па колькасці ўдзельнікаў пераўзышлі нават Рымскія алімпійскія гульні. А ў Маскву ж прыехалі толькі лепшыя з лепшых. І як трыумфальны акорд спартакіяды, у якой прыняло ўдзел звыш 66 мільёнаў савецкіх спартсменаў, прагучалі фінальныя старты ў Лужніках, на Цэнтральным стадыёне імя У. І. Леніна. 6 сусветных, 9 еўрапейскіх, 35 усесаюзных і 386 рэспубліканскіх рэкордаў — такі багаты плён гэтага бяспрыкладнага ў гісторыі чалавецтва спартыўнага форуму.

Галоўны прыз Савета Міністраў СССР заваявала каманда горада Масквы — пераможца І і II Спартакіяд народаў СССР. Аднак на гэты раз з масквічамі надзвычай сур'ёзна канкурыравалі спартсмены Украіны. Яны ў асобныя дні нават апярэджвалі каманду Масквы і ўрэшце прайгралі ёй усяго 6,5 ачка. На II Спартакіядзе народаў СССР у 1959 годзе ўкраінцы займалі чацвёртае месца. А на гэты раз «пацяснілі» моцныя калектывы РСФСР (зборная абласцей і аўтаномных рэспублік) і Ленінграда, якія занялі адпаведна трэцяе і чацвёртае месцы. Пятае прызавое месца заваявала каманда Грузіі. Спартсмены ж Беларусі, як і ў 1959 годзе, засталіся на **шостым** месцы, значна апярэдзіўшы сваіх бліжэйшых сапернікаў — каманды Літвы, Эстоніі, Азербайджана, Латвіі. Жаночая каманда нашай рэспублікі заняла пятае месца і атрымала спецыяльны прыз.

Як жа расцэньваць выступленне спартсменаў Беларусі на III Спартакіядзе народаў СССР? Увогуле гэта — крок уперад. У нас падрыхтавана столькі майстроў спорту, колькі не ўдавалася падрыхтаваць ні за адзін папярэдні спартыўны сезон. Ды і медаляў на III Спартакіядзе нашы спартсмены заваявалі намнога больш, чым на папярэдняй, — 70 (у тым ліку 16 залатых) супраць 46 (у тым ліку 11 залатых) у 1959 годзе. І ўсё ж беларуская каманда магла б выступіць лепш, калі б не прыкрыя зрывы ў асобных нумарах фінальных спаборніцтваў.

* * *

У ліпені на мінскім стадыёне «Дынама» спаборнічалі нашы мацнейшыя лёгкаатлеты. І што ні старт, то выдатны вынік! Асабліва парадавалі бегуны на кароткія ды-


Марыя Іткіна.


Барыс Храловіч.

станцыі. У фінальным забегу мужчын на 100 метраў Анатоль Шаўцоў пабіў рэкорд БССР шасцігадовай даўнасці, прабегшы дыстанцыю за 10,3 секунды. Толькі 0,1 секунды прайграў яму Аркадзь Сіротка, упершыню выканаўшы норму майстра спорту. Стаў майстрам спорту і яшчэ адзін наш спрынтэр — Анатоль Чыжэўскі. Усё гэта вельмі радавала, бо доўгі час стометравая дыстанцыя была для беларускіх бегуноў «ахілесавай пятой».

Не адставалі ад мужчын і нашы спартсменкі. Чэмпіёнкай рэспублікі ў бегу на 100 метраў, як і трэба было чакаць, стала славутая Марыя Іткіна з бліскучым вынікам — 11,4 секунды. Другой была на фінішы маладая спартсменка з Мінскай вобласці Тамара Бурдзінская, якая ўпершыню выканала майстарскі нарматыў. Крыху пазней, у час лёгкаатлетычнага матча Беларусь — Літва, яна зноў пацвердзіла норму майстра спорту і паказала яшчэ больш высокі вынік — 11,4 секунды.

Вызначыўся на Усебеларускай спартакіядзе студэнт інстытута фізкультуры Барыс Хралові. У хадзьбе на 20 кіламетраў ён устанавіў новы рэкорд БССР — 1 гадзіна 28 мінут 47,4 секунды. Гэта лепшы сёлетні вынік у свеце!

Высокія вынікі паказалі таксама нашы кідальнікі молата Аляксей Балтоўскі і Рамуальд Клім, норму майстра спорту выканала ў спаборніцтвах па скачках у вышыню мінчанка Валянціна Сталярова. Наогул, лёгкаатлеты былі сапраўднымі героямі Усебеларускай спартакіяды. 15 спартсменаў упершыню заваявалі ганаровае званне майстра спорту.

З лепшага боку паказалі сябе на рэспубліканскіх спаборніцтвах таксама плыўцы, скакуны ў ваду, стралкі. Можна было разлічваць і на поспех у Маскве. Тым больш, што ў запасе быў амаль цэлы месяц. За гэты час можна было лепш падрыхтавацца да маскоўскіх стартаў. Але, як высветлілася пазней, далёка не ўсе нашы спартсмены і іх трэнеры з усёй адказнасцю аднесліся да сваіх абавязкаў у час падрыхтоўкі да фінальных спаборніцтваў у Маскве. І гэта дорага абышлося камандзе Беларусі.

* * *

Першае расчараванне прынеслі нам яшчэ да адкрыцця фіналу III Спартакіяды народаў СССР нашы юныя спартсмены. У агульны залік уваходзілі і вынікі зборных каманд рэспублік на VIII Усесаюзнай спартакіядзе школьнікаў, якая адбылася ў Валгаградзе. Там школьнікі занялі толькі сёмае месца, у той час як на папярэдняй спартакіядзе ў 1961 годзе яны выйшлі на шостае месца. Цяпер дарослым спартсменам трэба было адыгрываць ачкі, страчаныя нашай юнай зменай.


Эдуард Яраш.

Лік перамогам нашых спартсменаў адкрыў майстар трапнага агню Эдуард Яраш. У малакаліберным стандарце «3×40» беларускі стралок заваяваў залаты медаль, устанавіўшы новы рэкорд рэспублікі — 1 155 ачкоў. Гэты вынік толькі на два ачкі ніжэй за сусветны рэкорд. І яшчэ адзін залаты медаль атрымаў Эдуард за стральбу стоячы. Нядрэнны быў пачатак!

А ўслед за Эдуардам Ярашам бронзавыя медалі зарабілі за стральбу па «аленю, што бяжыць», беларускія майстры спорту Іван Сураў, Ігар Несцераў, Мікалай Старасценка і Віталі Паўлаў і таксама ўстанавілі новы рэспубліканскі рэкорд. Затым зноў вызначыўся Эдуард Яраш. У стральбе з баявой адвольнай вінтоўкі стоячы ён заваяваў трэці залаты медаль. Наогул, нашы стралкі апраўдалі ўскладзеныя на іх надзеі, выступалі роўна, без зрываў і занялі агульнае пятае месца.

Эстафету перамог пераняслі ад іх весляры на байдарках і каноэ. Не першы год выступае на каноэ-двойцы славуты беларускі «дуэт» — Леанід Гейштар і Сяргей Макаранка. І на гэты раз на Хімкінскім вадасховішчы ім не знайшлося роўных. Нашы весляры дабіліся максімальнага выніку, заваяваўшы па два залатыя медалі. Яны былі першыя і на дыстанцыях 10 000 і 1 000 метраў. А гледзячы на іх, і іншыя беларускія весляры рынуліся ў бой. 17 медаляў унеслі ў скарбонку беларускай каманды нашы весляры, заняўшы агульнае пятае месца.

Усё ішло па «плану». Але вось на памост выйшлі штангісты і... пераблыталі «ўсе карты». На II Спартакіядзе народаў СССР беларускія цяжкаатлеты былі пятымі. Дык ці можна было меркаваць, што сёлета яны зоймуць ажно 13 месца!

Першую «заяўку» на правал зрабіў майстар спорту Арам Грыгаран, штангіст паўлёгкай вагавой катэгорыі. На штанзе 97,5 кілаграма. Першы падыход. Рывок — снарад падае на памост. Другая спроба — зноў няўдача. Трэці раз бярэцца Грыгаран за сталёвы грыф штангі. І зноў зрыў. Непрыемны «0». Такая ацэнка яго выступлення.

Не пашанцавала і нашаму сярэдневагавіку Аляксею Леўшанкову. Толькі тут ужо іншая бяда. Напярэдадні спаборніцтваў спартсмен адчуў сябе нядобра. Ісці да доктара не адважыўся. І вось Леўшанкоў на памосце. Ён паспяхова выконвае першае практыкаванне — жым, потым ужо праз сілу робіць рывок. Але ўсім відаць, што са спартсменам нешта здарылася. Па-



Сяргей Макаранка і Леанід Гейштар.

дышоў да яго доктар і, агледзеўшы, забараніў яму выконваць апошняе практыкаванне. Зноў «0»!

На жаль, і гэты нуль быў не апошні ў беларускіх штангістаў. Заканчваліся выступленні каманд калектываў фізкультуры. Ад Беларусі ў іх удзельнічалі штангісты Мінскага падшыпнікавага завода. На памосце — мінчанін Віктар Сакалоў (першая цяжкая вага). Апошняе практыкаванне — штуршок. В. Сакалоў пачынае яго з вагі 162,5 кілаграма. Тройчы спрабуе ён узняць штангу, і тройчы снарад з грукатам падае на памост. Відаць, пераацаніў спартсмен свае сілы і зарабіў «0».

Барыс Сакалоў выступаў за каманду Мінскага падшыпнікавага завода ў другой цяжкай вазе. Ён паспяхова выжаў штангу, зрабіў рывок і рыхтаваўся да штуршка. Цяпер лёс каманднага месца залежаў ад таго, якую вагу возьме Барыс Сакалоў у апошнім практыкаванні. Кіраўнікі заводскай каманды падлічылі, што яму абавязкова трэба штурхнуць 162,5 кілаграма. І тады калектыў мінскіх штангістаў зойме пятае месца. Паспрабаваў Барыс Сакалоў узяць «запланаваны» цяжар, але дарэмна. Чарговы «0» і замест пятага — восьмае каманднае месца.

Праваліліся нашы штангісты. Добра што тут ім на выручку кінуліся лёгкаатлеты.

Сярод беларускіх лёгкаатлетаў не першы год «спартсменам № 1» называюць заслужанага майстра спорту Марыю Іткіну. Яна па-ранейшаму выклікае захапленне сваім прыгожым, імклівым бегам на спрынтарскія дыстанцыі. Сёлета наша славутая бягуння выступіла з асаблівым бляскам. Марыя пераканаўча прадэманстравала, як трэба змагацца за перамогу і дабівацца высокіх вынікаў.

...Фінальны забег жанчын на 100 метраў. На старце — шэсць мацнейшых спартсменак краіны, сярод іх чэмпіёнка I і II Спартакіяд народаў СССР ленінградка Галіна Папова і мінчанка Марыя Іткіна. Ні для каго не было сакрэтам, што барацьба за залаты медаль разгорнецца паміж імі. Сёлета Галіна і Марыя ўжо двойчы сустракаліся на бегавой дарожцы. І абодва разы першай на стометроўцы была Галіна Папова. Яна перамагла Марыю Іткіну ў час міжнародных спаборніцтваў памяці братоў Знаменскіх і на лёгкаатлетычным матчы СССР — ЗША. Таму многія аддавалі перавагу Паповай і на гэты раз. Пачатак бегу склаўся больш спрыяльна для ленінградкі. Яна вырвалася ўперад, а Марыя на нейкае імгненне затрымалася на старце. Але прыкладна метраў за 40 да фінішу мінчанка робіць імклівы рывок, апярэджвае сваю саперніцу і фінішыруе першая. Марыя Іткіна — чэмпіёнка краіны і пераможца спартакіяды!

А ў наступны дзень Марыя заваявала другі залаты медаль у бегу на 400 метраў. Цікава заўважыць, што перад фінальным забегам на 400 метраў яна ўдзельнічала ў паўфінальных спаборніцтвах на 200 метраў і выйшла ў фінал, дзе заваявала бронзавы медаль. Наогул за чатыры дні Марыя Іткіна сем разоў выходзіла на старт. Нагрузка надзвычай вялікая! Але ў Марыі хапіла сілы і яшчэ на адзін пераможны старт. У дзень закрыцця Спартакіяды ў складзе зборнай каманды краіны Марыя Іткіна разам са сваімі сяброўкамі ўстанавіла новы сусветны рэкорд у эстафеце 4×200. Поўны трыумф славутай беларускай спартсменкі!

У адзін са спякотных жнівеньскіх дзён масквічы пазнаёміліся з новым чэмпіёнам краіны мінчанінам Барысам Храловічам. Дружнымі воплескамі віталі яны з'яўленне на бегавой дарожцы гэтага нястомнага хадака, які фінішыраваў пасля нялёгкага дваццацікіламетравага шляху. Ззаду застаўся нават алімпійскі чэмпіён Уладзімір Галубнічы. Калі для гледачоў перамога мінчаніна з'явілася нечаканасцю, то для знаўцаў спорту гэта была лагічная заканамернасць. Бо вынік, паказаны Барысам на Усебеларускай спартакіядзе, паставіў яго ў лік мацнейшых скараходаў свету.



Уладзімір Гараеў.

Апраўдаў ускладзеныя на яго надзеі Уладзімір Гараеў. Ён упэўнена заваяваў залаты медаль па трайным скачку. Нямала і іншых прыемных сюрпрызаў паднеслі беларускія лёгкаатлеты. Ці ж мог хто разлічваць, што спартсмен з Брэста Віктар Баліхін заваюе сярэбраны медаль на 110 метраў з бар'ерамі і толькі 0,1 секунды прайграе пераможцу матча СССР — ЗША Анатолю Міхайлаву? А выніку Уладзіміра Боркіна ў бегу на 3 000 метраў з перашкодамі (рэкорд БССР), Анатоля Шаўцова ў бегу на 400 метраў (5 месца), Рызы Шагімуратава ў бегу на 5 000 метраў (рэкорд БССР), нарэшце, бронзавы медаль па кіданню молата Рамуальда Кліма — усё гэта радасныя падарункі сваёй камандзе.

«Пад заслону» лёгкаатлетычных спаборніцтваў у Лужніках нарадзіліся яшчэ два рэспубліканскія рэкорды. Іх аўтарамі былі мінчанка Валянціна Сталярова, якая скокнула ў вышыню на 167 сантыметраў і ўдзельнікі мужчынскай эстафеты 4×400 Імантс Кукліч, Леанід Шостак, Эдуард Паўлаў, Анатоль Шаўцоў (3 мінуты 10,8 секунды). Такога поспеху на ўсесаюзных спаборніцтвах нашы лёгкаатлеты яшчэ не мелі ніколі. І хоць заваяванае імі пятае месца — высокае і пачэснае, усё ж і тут не абышлося без «лыжкі дзёгцю».

На III Спартакіядзе народаў СССР залічваліся толькі тыя вынікі, якія адпавядаюць нарматывам першага спартыўнага разраду. Патрабаванне даволі высокае. Тым не менш яно зусім адпавядала ступені падрыхтаванасці ўдзельнікаў фіналу спартакіяды. Так, напрыклад, беларуская каманда складалася з 282 майстроў спорту і 388 першаразраднікаў. І ўсё ж у судзейскіх пратаколах часта трапляліся непрыемныя «нулі». Трынаццаць «нулёў» адхапілі і нашы лёгкаатлеты. Гэта і была тая «лыжка дзёгцю», што некалькі псавала ўражанне ад іх увогуле паспяховых выступленняў у Лужніках.

Зусім неверагодна, што нашы майстры спорту Аркадзь Сіротка і Анатоль Чыжэўскі ў бегу на 100 метраў ледзь выканалі нарматыў... другога разраду. Нулявыя ацэнкі атрымалі і жанчыны-спрынтары Надзежда Страх і Тарэза Кацялок. Не далі заліковых ачкоў нашай камандзе бегуны на 1 500 метраў, кідальнікі кап'я Марыя Верамейчык і Тацяна Бурло. Між тым, кожны з гэтых спартсменаў «дома» без асаблівых цяжкасцей выконваў нарматыў першага разраду.



Віталь Жыценеў.

Канчаткова аскандаліўся ў Маскве чэмпіён III Усебеларускай спартакіяды па дзесяціборству Іван Адамовіч. Ён не змог узяць першапачатковую вышыню, атрымаў «0», пакрыўдзіўся невядома на каго і адмовіўся працягваць спаборніцтвы. Ці варта было везці ў Маскву такога «чэмпіёна»?

Спаборніцтвы — гэта выпрабаванне ўсіх фізічных і маральных якасцей спартсмена. Вядома, ніхто не «застрахаваны» ад паражэння. Але ў сапраўднага спартсмена павінна быць цвёрдая воля, пачуццё адказнасці за свой вынік, гарачае імкненне да канца змагацца за перамогу, каб не падвесці таварышаў па камандзе. А вось гэтых якасцей і нестае І. Адамовічу. Яму варта павучыцца вытрымцы і волі да перамогі ў нашых выдатных барцоў класічнага стылю Мікалая Чучалава і Віталя Жыценева. У першы дзень фінальных спаборніцтваў яны выйгралі свае паядынкі. А назаўтра абодвум ім суддзі залічылі паражэнне за пасіўнае вядзенне схваткі, гэта значыць, яны атрымалі па чатыры штрафныя ачкі. Цяжка, вельмі цяжка з такім «багажом» рухацца да залатых медаляў. І ўсё ж Чучалаў і Жыценеў працягвалі барацьбу. Атрымаўшы «чыстыя» перамогі над астатнімі сваімі сапернікамі, яны сталі чэмпіёнамі краіны і пераможцамі спартакіяды.



Мікалай Чучалаў (справа).

Упершыню не ўзышоў на п'едэстал гонару неаднаразовы чэмпіён свету, Еўропы і СССР заслужаны майстар спорту Алег Караваеў. Ужо ў першым крузе яму трапіўся «моцны арэшак» — чэмпіён Грузіі Р. Руруа. Грузінскі спартсмен выбраў хітрую тактыку: ён не нападаў, а толькі абараняўся. Праўда, рабіў ён гэта па-майстэрску. Ні на адзін прыём Алегу не ўдалося «падлавіць» свайго саперніка. А той, абараняючыся, набіраў ачкі. Суддзі аднагалосна прысудзілі перамогу Р. Руруа.



Затое наступную сустрэчу А. Караваеў правёў бліскуча. Ён паклаў на лапаткі моцнага ўкраінскага барца Грыгор'ева. Цяпер можна было працягваць барацьбу за медалі. І тут зноў асечка: Алег прайграў масквічу Віктару Кацубу. У выніку — адзінаццатае месца сярод барцоў паўлёгкай вагі.

Многа аказалася няўдачнікаў і сярод нашых баксёраў. Між іншым, калі на барцоў-класікаў ускладаліся немалыя надзеі (якіх яны, на жаль, не апраўдалі, заняўшы пятае месца замест трэцяга ў 1959 годзе), то баксёры мелі невялікія шанцы на поспех. Гэта паказала Усебеларуская спартакіяда. Тэхніка нашых баксёраў пакуль што невысокая. А тут яшчэ ў першым крузе ім давялося сустракацца з чэмпіёнамі Еўропы і прызёрамі першынства краіны. Адразу сем нашых баксёраў з дзесяці пацярпелі паражэнне і выбылі з далейшых спаборніцтваў. Толькі аднаму Валянціну Крывабоку (паўлёгкая вагавая катэгорыя) удалося дабрацца да паўфіналу.

Такога разгрому мы ніяк не чакалі. І калі на II Спартакіядзе народаў СССР нашы баксёры займалі пятае месца, то цяпер апынуліся ажно на дванаццатым. Трывожны сімптом! Тут ёсць над чым задумацца і трэнерам, і кіраўнікам рэспубліканскай федэрацыі боксу. Справа ж не толькі ў «нешчаслівым» жэрабі. Характэрна, што нават мінчанін Уладзімір Бацвіннік, які ў свой час быў чэмпіёнам краіны, змог пратрымацца менш мінуты ў баі з масквічом Сарокіным. А гэта ж адзін з найбольш тэхнічных і вопытных баксёраў беларускай каманды!

«Два крокі назад» супраць 1959 года зрабілі нашы барцы вольнага стылю. Яны перайшлі з шостага месца на восьмае. І толькі славуты волат, двухразовы чэмпіён свету ў цяжкай вазе Аляксандр Мядзведзь застаўся верны сабе. Ён у трэці раз заваяваў залаты медаль чэмпіёна краіны і ўпершыню стаў пераможцам Спартакіяды народаў СССР. Бронзавы медаль дастаўся Мікалаю Аксёнаву, які заняў трэцяе месца ў паўсярэдняй вазе. Вось і ўсе «трафеі» беларускіх барцоў вольнага стылю.

Толькі на адно месца вышэй за барцоў вольнага стылю ўзняліся плыўцы. Карацей кажучы, яны, як і на II Спартакіядзе народаў СССР, засталіся на тым жа сёмым месцы. Што гэта? Таптанне на месцы? Зусім не. Месца тое ж, а вынікі куды вышэйшыя. За апошні час нашы плыўцы абнавілі амаль усе рэкорды рэспублікі. Многія рэкордныя вынікі былі паказаны і на III Спартакіядзе народаў СССР. Але ж плыўцы і іншых рэспублік, Масквы і Ленінграда таксама рушылі наперад. Дастаткова сказаць, што на III Спартакіядзе менавіта плыўцам належыць «рэкорд» па рэкордах: за час фіналь-



Аляксандр Мядзведзь.



Юры Смалякоў.



Алена Валчэцкая.

ных спаборніцтваў устаноўлена 158 рэспубліканскіх дасягненняў, з іх два перавышаюць еўрапейскія і 12 — усесаюзныя рэкорды.

Нашы веласіпедысты, як і ў 1959 годзе, занялі пятае месца. Асабліва вызначыліся велагоншчыкі «Спадарожніка», якія выступалі па групе вытворчых калектываў і заваявалі трэцяе месца.

Прасунуліся наперад на адно месца (з сёмага на шостае) беларускія гімнасты. Лепшай была Алена Валчэцкая. Яна прынесла ў «скарбонку» нашай каманды два медалі: залаты — за практыкаванні на бервяне і сярэбраны — за апорныя скачкі. У мнагаборстве Алена заняла чацвёртае месца. Чэмпіён Беларусі Мікалай Мілігула трапіў у першы дзесятак мацнейшых гімнастаў краіны, заняўшы агульнае восьмае месца. А сярод калектываў фізкультуры гімнасты Мінскага аўтамабільнага завода выйшлі на сёмае месца.

Цяпер некалькі слоў пра фехтавальшчыкаў і шахматыстаў. Беларускія «мушкецёры» вось ужо многа год трывала ўтрымліваюць свае пазіцыі адных з мацнейшых у краіне. Да іх паспяховых выступленняў неяк ужо прывыклі. І ўсё ж тое, што ў спаборніцтвах шпажыстаў першыя два месцы заваявалі прадстаўнікі Беларусі, з'явілася чарговай сенсацыяй спартакіяды. Залаты медаль упершыню заваяваў 21-гадовы студэнт інстытута фізкультуры Юры Смалякоў. Другім быў яго таварыш па камандзе Аляксандр Паўлоўскі. Чэмпіён Беларусі Аляксей Ніканчыкаў заняў шостае месца.

Цікава адзначыць, што на Усебеларускай спартакіядзе новаму чэмпіёну краіны не дастаўся нават бронзавы медаль. Яго літаральна «адабраў» Арнольд Чарнушэвіч. І ўсё з-за прыкрага непаразумення. Упорны паядынак паміж Смалняковым і Чарнушэвічам за трэцяе месца закончыўся ўнічыю. Тады суддзі прапанавалі ім працягваць бой да першага ўколу. Смалякоў першым «паражае» шпагай свайго праціўніка, і яму ўручаюць бронзавы медаль. Аднак назаўтра Чарнушэвіч даказаў, што суддзі прынялі няправільнае рашэнне: пры нічыёй пераможца павінен быў вызначацца колькасцю нанесеных уколаў у папярэдніх сустрэчах. І тут перавага аказалася на баку Чарнушэвіча. Прыйшлося Юрыю аддаць бронзавы медаль трэцяга прызёра Усебеларускай спартакіяды Арнольду Чарнушэвічу. І вось узамен таго медалю цяпер Юры Смалякоў атрымаў залаты медаль чэмпіёна краіны.

Дамоў нашы фехтавальшчыкі прывезлі нядрэнны «ўлоў» — больш дзесятка медаляў. Мужчыны-шпажысты занялі трэцяе месца ў камандных баях, а жанчыны атрымалі сярэбраныя медалі за другое месца ў камандных спаборніцтвах на рапірах. Акрамя таго, у асабістым першынстве сярэбраны медаль заваявала наша рапірыстка Святлана Баранава. Гэтыя перамогі забяспечылі беларускай камандзе агульнае чацвёртае месца, бо нашы фехтавальшчыкі на эспадронах і шаблях выступілі слабей, чым шпажысты і рапірысткі.

А вось ад шахматыстаў, шчыра кажучы, медаляў ніхто не чакаў. У лепшым выпадку, беларуская каманда магла разлічваць на чацвёртае-пятае месца. Перавага аддавалася моцным калектывам Масквы, Ленінграда, РСФСР і Украіны. Тым больш, што ў папярэдніх спаборніцтвах беларускія шахматысты прайгралі камандзе РСФСР з лікам 2:8. Гэты ж вынік залічваўся і ў фінальным турніры. І ўсё ж шахматысты Беларусі зрабілі амаль немагчымае — занялі трэцяе месца пасля каманд РСФСР і Масквы і заваявалі бронзавыя медалі. Найлепшага выніку сярод беларускіх шахматыстаў дабіўся міжнародны майстар Аляксей Суэцін. Гуляючы на трэцяй дошцы (на першых дзвюх выступалі гросмайстар Ісак Баляслаўскі і чэмпіён Беларусі 1963 года міжнародны майстар Гаўрыла Верасаў), ён набраў 7,5 ачка. Суэцін перамог гросмайстра Барыса Спаскага (Ленінград) і згуляў унічыю з экс-чэмпіёнам свету Васілём Смысловым (Масква). Нашы шахматысты зрабілі самы вялікі скачок — з восьмага ў 1959 годзе на трэцяе. Гэта, перш за ўсё, вынік сур'ёзнай падрыхтоўкі да адказных спаборніцтваў і высокага баявога запалу ўсіх членаў каманды.

* * *

Адгрымелі спартыўныя баталіі. Заканчваецца год III Спартакіяды народаў СССР, які прынёс новыя радасныя перамогі савецкаму спорту. Маскоўскія старты з'явіліся генеральнай рэпетыцыяй перад Алімпійскімі гульнямі, што адбудуцца летам 1964 года ў Токіо. У склад зборнай алімпійскай каманды ўвойдуць і лепшыя беларускія спартсмены. Верым, што яны з гонарам апраўдаюць высокае давер'е Радзімы.

А там не за гарамі і IV Спартакіяда народаў СССР, якая прысвячаецца 50-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Новыя адказныя старты чакаюць беларускіх спартсменаў. Няхай жа поспехі сёлетняга сезону натхняюць іх на новыя дасягненні. А памылкі і промахі таксама нельга забываць. З іх трэба зрабіць адпаведныя вывады. Нашы спартсмены маюць усе магчымасці ісці ўпэўненым крокам уперад і ўперад па нялёгкай дарозе, што вядзе да вышынь спартыўнага майстэрства. Чакаем ад іх новых рэкордаў і дасягненняў ва ўсіх, без выключэння, відах спорту.

**Леў СЕВАСЦЬЯНАЎ.**

Фота В. Мікішанава, М. Мінковіча, Д. Церахава, С. Чырэшкіна.

**пад рэдакцыяй міжнароднага майстра А. СУЭЦІНА**




# ШАХМАТЫСТЫ Ў АВАНГАРДЗЕ

Упершыню ў гісторыі пяршынстваў СССР каманда шахматыстаў Беларусі заняла трэцяе прызавое месца, заваяваўшы адразу дзесяць бронзавых медаляў. Прыгадаем, што раней шахматысты нашай рэспублікі займалі хоць і трывалае, але вельмі сціплае месца ў першай дзесятцы шахматных каманд краіны.

У чым жа прычына сёлетняга поспеху беларускіх шахматыстаў? Ці не аслабелі астатнія каманды? Не. Каманда Латвіі, якая яшчэ летась заваявала чацвёртае месца, выступала і на гэты раз у тым жа складзе, сярод яе ігракоў быў нават М. Таль. Такое ж становішча было ў камандзе Украіны, дзе гулялі такія моцныя майстры, як Я. Гелер і Л. Штэйн. Нельга таксама сказаць, што і ленінградцы, якія мелі ў сваёй камандзе міжнароднага майстра С. Фурмана і экс-чэмпіёнку свету Л. Рудэнка, замест мінулагодніх майстра А. Карэлава і першаразрадніцы Е. Бішард, хоць што-небудзь страцілі па сіле.

Каманда Беларусі таксама выступала ў сваім звычайным складзе. Толькі замест вопытных майстроў А. Сакольскага і А. Шагаловіча быў вылучаны на апошнюю, шостую, дошку малады кандыдат у майстры В. Літвінаў.

Шахматная падрыхтоўка да такога віду спаборніцтва, як спартакіяда, многім адрозніваецца ад звычайнай трэніроўкі спартсменаў па іншых відах спорту. Перш за ўсё, яна значна больш працяглая. Фармаванне шахматнага майстэрства патрабуе значна больш часу і, здаецца, значна больш карпатлівай працы, чым у іншых відах спорту, хоць, вядома, усюды дасягненне майстэрства патрабуе велізарнага напружання сіл.

Каманда шахматыстаў Беларусі пачала рыхтавацца да III Спартакіяды народаў СССР яшчэ летась. Не выпадковыя былі перамогі над камандамі ўсіх закаўказскіх рэспублік, над камандай Латвіі і асабліва ў матч-рэваншы з Венгрыяй, дзе славутым еўрапейскім шахматыстам так і не ўдалося ўзяць у нас рэванш за сваё паражэнне ў 1957 годзе.

Знамянальным было і каманднае першынство СССР 1962 года, дзе Беларусь упершыню трывала замацавалася ў запаветнай шасцёрцы.

Скажам шчыра, едучы на спартакіядныя баі, мы мелі намер трапіць толькі ў першую прызавую шасцёрку, для чаго дастаткова было заняць у сваёй падгрупе, як мінімум, другое месца. Пад гэтым сцягам мы і пачалі турнір. Каб трапіць на другое месца ў падгрупе, трэба было абавязкова перамагчы калектывы Азербайджана і Латвіі (пра сур'ёзную барацьбу з камандай Расійскай Федэрацыі мы нават і не марылі).

Задача, якую мы перад сабою паставілі, была паспяхова вырашана. Перамогшы сваіх асноўных канкурэнтаў кожны раз з лікам 6:4, беларускія шахматысты дамагліся рашаючых перамог над Арменіяй (8:2) і Туркменіяй ($7^1/_2$:$2^1/_2$) і такім чынам ужо за адзін тур да канца забяспечылі сабе другое месца.

Апошні матч, з камандай РСФСР, быў адначасова залікам у фінал. Нашы шахматысты, заспакоеныя папярэднімі поспехамі, правялі гэтую сустрэчу ніжэй сваіх магчымасцей, прайграўшы з лікам 2:8! Здавалася, пасля гэтага нашы шанцы на медалі сталі вельмі ўмоўныя, трэба ж было ў апошніх чатырох турах ад бліжэйшай каманды атрымаць, як мінімум, тры ачкі! І ўсё ж такі наступны матч з Украінай паказаў, што мы маем усе падставы хоць бы пакінуць апошняе месца. Напружаная барацьба зусім нечакана закончылася з лікам 6:4 у нашу карысць. Акрыленая гэтым дасягненнем, наша каманда на наступны дзень зрабіла сапраўдны разгром камандзе Грузіі (8:2)! Нечакана для многіх (і перш за ўсё для саміх сябе) мы аказаліся ў тройцы лідэраў. Заставаліся два самыя моцныя калектывы — Масквы і Ленінграда. Хоць націск нашых партнёраў




**Ленінград — Беларусь.**

быў вельмі моцны літаральна ва ўсіх партыях, большага ліку чым $5^1/_2$ : $4^1/_2$ ім дасягнуць не ўдалося.

Такім чынам было выяўлена канчатковае становішча ў першай шасцёрцы мацнейшых каманд: РСФСР — 30 ачкоў з 50 магчымых, Масква — $29^1/_2$, Беларусь — 25, Ленінград — 24, Украіна — 23 і Грузія — $17^1/_2$ ачкоў. Далей ідуць каманды Эстоніі, Латвіі, Азербайджана, Узбекістана і другія.

Індывідуальныя вынікі ўдзельнікаў нашай каманды па дошках такія: 1. Баляслаўскі — $5^1/_2$ з 9 (у фінале 3 з 5), 2. Г. Верасаў — $4^1/_2$ з 9 ($1^1/_2$ з 5), 3. А. Суэцін — $7^1/_2$ з 9 (4 з 5), 4. А. Ройзман — 3 з 9 ($1^1/_2$ з 5), 5. В. Сайгін — $4^1/_2$ з 9 (2 з 5), 6. В. Літвінаў — 5 з 9 ($2^1/_2$ з 5), 7. А. Капенгут — 6 з 9 ($2^1/_2$ з 5), 8. К. Зварыкіна — $5^1/_2$ з 9 ($2^1/_2$ з 5), 9. Г. Арчакова — 6 з 9 (3 з 5) і Т. Галавей — 5 з 9 ($2^1/_2$ з 5).

Цудоўна гуляла здольная маладая першаразрадніца Галіна Арчакова, якая атрымала перамогу ў партыях з майстрамі О. Кацковай (Масква) і Л. Якір (Украіна). Добра паказалі сябе Т. Галавей, В. Літвінаў, А. Капенгут. Доб-




**Апошняя партыя.**

рую спратыўную форму паказаў і вопытны майстар В. Сайгін.

Беларуская каманда паказала зладжанасць і вялікі валявы імпульс. Пасля правалу ў першым туры пераважная большасць удзельнікаў нашай каманды змагалася ў рашаючых паядынках рашуча і самаахвярна. Гэты важны маральны фактар сыграў не апошнюю ролю ў нашай перамозе.

Трэцяе месца — гэта вялікі і нават, калі хочаце, — велізарны, але зусім заслужаны поспех беларускіх шахматыстаў. Ён накладвае на нас і новыя сур'ёзныя абавязкі. Нельга забываць, што побач з гэтым поспехам на III Спартакіядзе народаў СССР мы маем правал на юнацкай спартакіядзе, дзе нашы школьнікі занялі толькі адзінаццатае месца. Ці можна вінаваціць у гэтым толькі трэнера юнацкай каманды майстра А. Шагаловіча? Не. Улічваючы добрую гульню нашай «камсамольскай групы» каманды на III Спартакіядзе, становіцца відавочным, што асаблівую ўвагу нам трэба звярнуць на работу з юнымі шахматыстамі рэспублікі.

Уперадзе — вялікая, але перспектыўная работа! Першы вялікі поспех нашых шахматыстаў на III Спартакіядзе народаў СССР — абавязвае нас не зніжаць набытыя якасці і няспынна ўдасканальваць свае майстэрства.

Прыводзім заканчэнне партыі І. Баляслаўскі — Я. Гелер на III Спартакіядзе народаў СССР.



Апошнім ходам Фе6 — g4 чорныя стварылі, здавалася б, моцную пагрозу. Белыя знаходзяць прыгожы адказ: 1. Лс8+! Kpf7? (Неабходна было 1. ...Ф:с8, 2. Ф:d2 з нічыёй.) 2. Фf8+ Kpe6, 3. Ле8+. Толькі тут чорныя заўважылі, што нельга 3. ... Kpf5 з-за 4. Л:е5+! Прыйшлося спыніць гадзіннік...

Фота **А. Кляйменавай** і **В. Мікішанава.**




**пад рэдакцыяй майстра спорту**
**М. ШАВЕЛЯ**

# ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

Паважаны таварыш Чэрній!

У лісце, атрыманым рэдакцыяй часопіса, Вы просіце разгледзець адну з Вашых турнірных партый і памагчы знайсці памылковы ход, які не дазволіў Вам выйграць у моцнага партнёра.

Пасля аналізу партыі выявілася, што вы не змаглі выйграць, бо зрабілі недакладны ход 18. с1—b2. Выйгрышны быў бы ход 18. е1—d2. Аднак мы не абмяжуемся такім кароткім адказам, а падрабязна прааналізуем усю партыю, бо паслядоўнасць хадоў і зробленыя памылкі вельмі характэрны для шашыстаў сярэдняй кваліфікацыі.

*Чэрній — Палянскі*

Паўфінал першынства гор. Мінска 1963 года.

1. с3—b4 f6—g5
2. b4—с5

Белыя з першых хадоў пачынаюць атаку пазіцыі чорных. Такі выхад шашкі на поле с5 атрымаў назву — «тычок».

2. ... b6 : d4
3. е3 : с5 d6 : b4
4. а3 : с5 g5—f4

Чорныя часова ахвяруюць шашку, імкнучыся перайсці да варыянтаў з тонкім пазіцыйным манеўраваннем. Упершыню такую ахвяру шашкі зрабіў вядомы маскоўскі шашыст Н. Кукуеў, і цяпер дэбют носіць назву — «гамбіт Кукуева».

5. g3 : е5 с7—b6
6. с5—d6! е7 : с5
7. h2—g3 с5—b4
8. g3—f4 f8—е7
9. f2—е3 b4—а3
10. g1—f2 b6—а5
11. b2—с3 а7—b6?

Да гэтага чорныя рабілі найлепшыя хады. Сваім апошнім ходам яны дазваляюць белым моцна захапіць ініцыятыву. Значна мацнейшы працяг: 11. ...g7—f6, 12. е5 : g7 h6 : f8 са складанай гульнёю.

12. е5—d6. е7 : с5
13. с3—b4 а5 : с3
14. d2 : d6 b6—с5

Чорныя своечасова зразумелі небяспеку свайго становішча і адразу ж разменьваюць небяспечную шашку d6.

15. d6 : b4 а3 : с5

Паспрабуем даць ацэнку пазіцыі, якая стварылася. Сілы белых размешчаны кампактна і валодаюць цэнтральным полем дошкі.

Чорныя шашкі разрознены і не могуць актыўна змагацца за цэнтр дошкі. Бясспрэчна, што ў белых большая пазіцыйная перавага.



16. а1—b2 d8—е7
17. b2—с3 е7—d6??

Гэты ход мог прывесці да пройгрышу. Чорныя на імгненне забыліся пра тое, што іхнія разрозненыя шашкі будуць бяссільныя супраць націску белых. Пасля правільнага ходу 17. ... g7—f6 чорныя, нягледзячы на горшую пазіцыю, могуць супраціўляцца. Тут магчымы наступны камбінацыйны варыянт: 17.

...g7—f6, 18. c1—d2! f6—g5?, 19. f2—g3 g5—h4, 20. c3—d4 h4 : f2, 21. d4 : b6! f2 : d4, 22. b6—c7! b8 : d6, 23. f4—g5 h6 : f4, 24. d2—e3 f4 : d2, 25. e1 : c7 з выйгрышам.

18. c1—b2?

Гэты ход дазваляе чорным увесці ў гульню шашкі левага флангу і гэтым самым дамагчыся нічыёй. Выйгрыш быў бы пасля: 18. e1—d2! b8—a7. (Пасля 18. ...g7—f6, 19. c3—b4 і 20. f4—e5 белыя выйграюць.), 19. c1—b2! a7—b6. Шашкі чорных, якія стаяць на левым фланзе, ніяк не могуць ўключыцца ў гульню. (На 19. ...g7—f6 будзе сыграна 20. f4—e5), 20. c3—d4 b6—a5. (Зноў нельга 20. ...g7—f6 з-за ахвяры пешкі 21. d4—e5! f6 : d4, 22. d2—c3 з выйгрышам.), 21. d4 : b6 a5 : c7, 22. f4—g5 h6 : f4, 23. e3 : g5 з вельмі вялікай пазіцыйнай перавагай.

| | | |
|---|---|---|
| 18. ... | | g7—f6! |
| 19. c3—d4 | | b8—a7 |
| 20. d4 : b6 | | a7 : c5 |
| 21. b2—c3 | | f6—e5 |

Чорныя паспелі ўвесці ў гульню шашкі левага флангу. Цяпер пазіцыя зраўнялася.

| | |
|---|---|
| 22. f2—g3 | h8—g7 |
| 23. g3—h4 | e5 : g3 |
| 24. h4 : f2 | g7—f6 |
| 25. c3—d4 | c5—b4 |
| 26. d4—e5 | d6 : d2 |
| 27. e1 : a5 | |

Згадзіліся на нічыю, таму што шашка g7 паспявае праравацца ў дамкі.

## У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:

**Аповесць Алеся АСІПЕНКІ «АБЖЫТЫ КУТ».**

**Апавяданні Паўла ТКАЧОВА.**

**Вершы Анатоля ВЯРЦІНСКАГА,**

**Марыі ШАЎЧОНАК, Алега ЛОЙКІ.**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон—93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк арк. 13,7. Вуч-выд. арк. 14,5. Тыраж 7312. Цана 40 кап.
АТ 11134. Здадзена ў набор 1.VIII.63 г. Падпісана да друку 27.IX.63 г. Зак. 480.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.





М. Андрэеў. У. І. Ленін. 1922.

М. Андрэеў. Ленін — правадыр. 1931—1932.